**Вольга Бароўская**
(Мінск)

# Польска-савецкае супрацьстаянне кастрычніка 1920 г.: ад вайны да міру

Варшаўская бітва выклікала радыкальны паварот у польска-савецкай вайне 1919–1920 гадоў. Дэмаралізаваны войскі Паўночна-Заходняга фронту пад камандаваннем Міхаіла Тухачэўскага былі вымушаны адысці, хоць і захоўвалі сваю абараназдольнасць. Пасля няўдач акружэння і знішчэння значнай часткі войск Паўночна-Заходняга фронту польскі бок стаяў перад выбарам: або працягнуць сваё прасоўванне ў раён Мінска і Слуцка, каб такім чынам прадухіліць новае наступленне адпачыўшых і перагрупаваных войск Чырвонай Арміі, або планаваць паступовае прасоўванне, якое б прывяло да ўсталявання лініі фронту, карыснай пры вызначэнні польска-савецкай мяжы ў ходзе Рыжскай мірнай канферэнцыі. Польскае кіраўніцтва ў асобе Юзафа Пілсудскага таксама было вымушана ўлічваць дзеянні літоўскіх войскаў, якія наносілі значныя страты польскім часткам.

2–4 кастрычніка 1920 года Ю. Пілсудскі зацвердзіў месцазнаходжанне штабоў 2 арміі (камандуючы Эдвард Рыдз-Сміглы) – у Лідзе, 3 (Уладзіслаў Сікорскі) — у Гродне, 4 (Леанард Скерскі) — у Слоніме. У дадзеным выпадку быў абраны шлях прасоўвання войск, каб замацавацца на лініі Баранавічы — Стоўбцы — Лунінец — Сарны з прылягаючымі тэрыторыямі. Ю. Пілсудскі настойваў на заняцці важнага транспартнага вузла Маладзечна, каб такім чынам знішчыць любую магчымасць сувязі Літвы з Савецкай Расіяй, і ў будучым мець магчымасць прасоўвацца на Свянцяны. Заняцце Маладзечна і Свянцян патрабавала ад польскага камандавання накіраваць асноўны ўдар 4 арміі на Койданава і Слуцк, каб такім чынам стрымліваць напор з боку Чырвонай Арміі з цэнтрам у Мінску. Асноўная ж роля ў гэтай аперацыі адводзілася 2 арміі Э. Рыдз-Сміглага. 3 армія генерала У. Сікорскага павінна была прыкрываць левы фланг 2 арміі і стрымліваць магчымы націск літоўскіх войск.

Камандаванне 2 польскай арміі 5 кастрычніка 1920 года выдала аперацыйны загад № 66, у якім на аснове звестак перахопленых разведкай паведамлялася, што часткі Чырвонай Арміі атрымалі загад прасоўвацца на лінію ракі Бярэзіны. Сыходзячы з гэтай інфармацыі, Э. Рыдз-Сміглы выдаў распараджэнне 2 арміі адыходзіць на лінію былых нямецкіх акопаў, згрупаваць рэзервы і рыхтавацца да далей-

шай аперацыі ў кірунку Маладзечна[1]. 2 дывізія пяхоты легіёнаў атрымала загад абараняць участак лініі былых нямецкіх акопаў ад ракі Бярэзіны ўздоўж ракі Альшанка — Вішнева — Багданава. Дывізія павінна была падрыхтавацца да актыўных дзеянняў у раёне Багданава — Гарадок. Злева ад гэтай дывізіі знаходзілася 3 дывізія пяхоты легіёнаў, якая рыхтавалася да адсоўвання атак з поўначы і да правядзення асабістых наступальных акцый уздоўж лініі Солы — Вілейка. 21 дывізія пяхоты канцэнтравалася ў раёне Наваельні і фактычна была рэзервам[2].

У сваю чаргу войскі Паўночна-Заходняга фронту пад камандаваннем М. Тухачэўскага працягвалі адступаць, умацоўваючы лінію ракі Бярэзіны. Рубеж рака Дзісна — Койданава — Нясвіж — Лунінец — Сарны — Роўна быў вызначаны як апорны для магчымых наступальных аперацый. 6 кастрычніка 1920 года савецкае кіраўніцтва ў асобе Льва Троцкага ў тэлеграме да Рэвалюцыйнага ваеннага савета Паўночна-Заходняга фронту выказвала сваю занепакоенасць імклівым адыходам савецкіх войск. Гэты факт мог выклікаць акцыі польскага боку ў бліжэйшыя сем-дзесяць дзён і негатыўным чынам адбіцца на ходзе вядзення польска-савецкіх перагавораў у Рызе. У гэты ж дзень была выдадзена дырэктыва аб абароне занятага абшару ў раёне Мінска. Таксама нагадвалася аб магчымым падпісанні 8 кастрычніка прэлімінарных мірных умоў. Гэты факт патрабаваў экстранных ваенных змен. Планавалася, што сіламі XV арміі неабходна ажыццявіць контрнаступленне ў мінскім кірунку, а сіламі XVI арміі — абарону лініі Смілавічы — Слуцк — рака Случ[3]. У дырэктыве № 331, выдадзенай 7 кастрычніка 1920 года, М. Тухачэўскі паведамляў, што заўтра плануецца падпісанне прэлімінарыяў, існуе магчымасць заключэння праз шэсць дзён канчатковага міру. У сувязі з гэтым неабходна правесці шэраг лакальных аперацый і ўсімі магчымымі сродкамі не дапусціць прасоўвання войск непрыяцеля.

Аднак польскае галоўнае камандаванне не планавала кардынальных змен лініі фронту ў бліжэйшы час. Ад’езд Ю. Пілсудскага з Беластока ў Варшаву для рашэння тэрміновых палітычных спраў стрымліваў польскую ініцыятыву. Патрэбна было тэрмінова вырашыць

[1] Centralne Archiwum Wojskowe, Dowództwo 2 Armii (далей: CAW), I. 311. 2. 289.

[2] *Pierwsza wojna polska (1918-1920). Zbiór wojennych komunikatów Sztabu Generalnego (za czas 25.XI. do 20.X.1920 r.)*, Warszawa 1920, s. 46.

[3] *Польско-советская война 1919-1920 (ранее не опубликованные документы и материалы): в 2 ч.*, Москва 1994, ч. 2, с. 128.

шэраг палітычных пытанняў, звязаных з падпісаннем 7 кастрычніка 1920 года польска-літоўскага дагавору аб усталяванні дэмаркацыйнай лініі і спыненні ваенных дзеянняў наступальнай аперацыяй генерала Люцыяна Жалігоўскага і заняццем Віленшчыны, і выпрацоўкай агульнай лініі паводзін польскай мірнай дэлегацыі ў Рызе.

А ў гэты час на польска-расійска-ўкраінскай канферэнцыі ў латвійскай сталіцы рашэнне спраў заключэння перамір'я і далейшага мірнага ўрэгулявання прасоўваліся дастаткова марудна. Для паскарэння са згоды абодвух кіраўнікоў дэлегацыі адбыліся чатыры тайныя перагаворы, „размовы на чатыры вокі", падчас якіх прысутнічалі Адольф Іофе і Іван Лорэнц, з савецкага боку, і Ян Домбскі і Аляксандр Ладась, з польскага. Дзякуючы падрабязным успамінам Я. Домбскага аб афіцыйных і тайных перагаворах са старшынёй расійска-ўкраінскай дэлегацыі А. Іофе, мы можам узнавіць іх ход.

Першая „тайная" сустрэча адбылася 1 кастрычніка 1920 года. Неабходнасць пераходу з формы пленарных афіцыйных пасяджэнняў, з прысутнасцю журналістаў, спецыялістаў, міжнародных назіральнікаў, да сакрэтных, „тайных" перагавораў паміж старшынямі дэлегацый у суправаджэнні сакратароў выявілася ў сувязі з „узнікненнем пэўнага замяшання ў шэрагах польскай мірнай дэлегацыі пасля агучвання на сёмым (першым) пасяджэнні 24 верасня 1920 года „Звароту УЦВК"[4]. Ініцыятыва ў наладжванні тайных сустрэч належала расійска-ўкраінскаму боку, які імкнуўся паскорыць агульны ход мірных перагавораў. Напярэдадні сустрэчы 1 кастрычніка 1920 года А. Іофе ў тэлеграме да Георгія Чычэрына паведамляў пра ход працы мірнай канферэнцыі, адзначаючы факт стварэння рабочых камісій (камісіі па выпрацоўцы „Дагавора аб перамір'і", фінансава-эканамічнай, тэрытарыяльнай) і агульную безвыніковасць працы і палемічны характар пасяджэнняў („бо ў палякаў сверб гаварэння")[5]. Падчас сустрэчы абодва бакі агучылі свае мінімальныя тэрытарыяльныя патрабаванні: прапанова расійска-ўкраінскага боку — чыгуначная лінія Ліда — Баранавічы — Лунінец — Роўна — Броды, і адначасовая непрымальнасць польскім бокам гэтай лініі па прычынах нязручнасці яе ў выпадку магчымага ваеннага нападзення. Старшыня расійска-ўкраінскай дэлегацыі А. Іофе неаднаразова падчас сустрэчы апеляваў да рашэння Вышэйшага Савета краін Антанты ад 8 снежня 1919 года,

[4] J. Dąbski, *Pokój Ryski. Wspomnienia. Petraktacja. Tajne układy z Joffem. Listy*, Warszawa 1931, s. 105.

[5] АЗП РФ, ф. 04, воп. 32, спр. 41, арк. 3.

зазначаючы перадачу тэрыторыі Беларусі ў сферу расійскіх уплываў, тым самым абмяжоўваючы тэрытарыяльныя прэтэнзіі польскага боку, адзначаючы неабходнасць суаднясення ўласных рашэнняў з агульнай пазіцыяй краін Антанты, рацыянальнага абгрунтавання пэўнай усходняй мяжы Польшчы перад міжнароднай супольнасцю[6]. Адначасова расійска-ўкраінскі бок настойліва выказваўся за выкананне ўмоў савецка-літоўскага дагавору ад 12 ліпеня 1920 года, за перадачу Вільні і Віленскай акругі Літве, тым самым адзначаючы, што будучы прэлімінарны мірны дагавор павінен вызначыць лінію размежавання паміж Польшчай, Расіяй, Украінай, пакідаючы вырашэнне польска-літоўскіх спрэчак па-за дагаворам.

Ужо 2 кастрычніка 1920 года на неафіцыйнай сустрэчы Я. Домбскага і А. Іофе вырашалася пытанне далейшай канкрэтызацыі лініі размежавання. Старшыня польскай дэлегацыі Я. Домбскі прапанаваў расійска-ўкраінскаму боку ўжо дакладна вызначаную лінію мяжы, якая вынікала з агульнага выніку ўнутранага галасавання ў шэрагах польскай дэлегацыі. Я. Домбскі ўдакладніў, што лінія Роўна — Сарны — Лунінец — Баранавічы павінна была б цалкам належаць Польшчы і быць забяспечана поясам па меншай меры ад 30 да 40 км на ўсход. Далей на поўнач мяжа ішла б уздоўж мяжы Вілейскага і Дзісненскага паветаў так, каб Польшча атрымала калідор і агульную мяжу з Латвіяй. На пытанне А. Іофе, дзе больш-менш павінна была б праходзіць мяжа пад Мінскам, ён згадаў Койданава, як прапанаваны памежны пункт. Падчас другой сустрэчы старшыня савецкай дэлегацыі заявіў, што яго ўрад не можа згадзіцца на мяжу, якая не пакідала б у руках Савецкай Расіі чыгуначную лінію Броды — Сарны — Баранавічы. Аднак Я. Домбскі запатрабаваў гэтую чыгунку менавіта для Польшчы, указваючы, што Польшча як колькасна слабейшая краіна павінна мець лепшыя, чым савецкая Расія, стратэгічныя ўмовы на сваім памежжы. Праз тры дні, 5 кастрычніка, А. Іофе заявіў Я. Домбскаму, што савецкі ўрад поўнасцю прымае прапанаваную палякамі мяжу пры ўмове, што мірны дагавор будзе сфармуляваны спосабам, які здыме ўражанне навязанага перамогшым бокам пераможанаму.

Я. Домбскі адзначаў, што сярод польскай дэлегацыі былі вельмі значныя разыходжанні ў пазіцыях. Некалькі членаў дэлегацыі выступілі за федэратыўнае вырашэнне, але гэтую думку не падзяляла большасць членаў дэлегацыі. У прыватнасці, узніклі спрэчкі аб тым, ці ўключаць Мінск у Польшчу, ці не. Думкі падзяліліся з прычыны

[6] Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі, ф. 159, воп. 2, спр. 28, арк. 1-227.

розных пазіцый членаў дэлегацыі па беларускім пытанні. Пры галасаванні аднак большасць дэлегатаў выказалася за тое, каб пакінуць Мінск па-за межамі Польшчы. За ўключэнне Мінска і ўсёй Міншчыны ў склад Польшчы актыўна выступалі члены польскай дэлегацыі Леан Васілеўскі і Вітальд Камянецкі, якія спачатку нават хацелі ўтварэння з усёй Беларусі буфернай дзяржавы, сфедэраванай з Польшчай.

Аб тэрытарыяльных уступках з боку А. Іофе Я. Домбскі паведаміў і старшыні Савета Міністраў Польшчы Вінцэнту Вітасу 8 лютага 1921 года, адзначыўшы ў сваім лісце наступнае: „Масква згадзілася на аддачу Польшчы яшчэ трох тысяч квадратных вёрст. Гэтыя тэрытарыяльныя ўступкі дадзены перш за ўсё на Палессі, у сувязі з чым польская лінія мяжы даходзіла б да Турава, аднак Тураў застаўся б у расійскіх руках”[7]. Акрамя таго, Расія перадавала частку тэрыторыі на Валыні ў тым месцы, дзе было моцнае заглыбленне польскай мяжы на захад. Савецкая дыпламатыя таксама пагаджалася аддаць Польшчы Радашковічы, Батурын і ахову для берагоў Віліі.

Гэтыя звесткі А. Іофе падаў Я. Домбскаму цалкам прыватна, агаворваючыся, што афіцыйна гэтага не можа адкрыць, пакольні павінен пачакаць, як уладзяцца эканамічныя справы. Савецкі дыпламат тлумачыў далёка ідучыя ўступкі польскаму боку тым, каб аблегчыць сітуацыю старшыні польскай мірнай дэлегацыі. Для яго нібыта было важна, што на чале гэтай дэлегацыі стаіць прадстаўнік Стронніцтва людовага (Народнай партыі) і з гэтага пункту гледжання А. Іофе фармуляваў умовы міру.

Падобная трактоўка ўступак з боку А. Іофе, пададзеная Я. Домбскім, якая зводзіць усё да асабістых матываў, уяўляецца нам малаверагоднай. Хутчэй за ўсё, А. Іофе не хацеў казаць праўды пра сапраўдныя прычыны ўступак, якія датычылі перш за ўсё беларускай тэрыторыі. Паводле сакратара польскай дэлегацыі А. Ладася, у беларускім пытанні „былі адкрытыя розныя магчымасці і рашэнне залежала амаль выключна ад волі польскай дэлегацыі, бо Саветы пад націскам ваенных дзеянняў былі гатовыя на любыя ўступкі”[8].

У сваю чаргу зацішша на польска-савецкім фронце польскі бок выкарыстаў, каб разыграць так званую літоўскую карту. У раён Ліда — Бастуны была накіравана 9 дывізія пяхоты, далучаная да 2 арміі. Таксама 2 дывізія пяхоты легіёнаў прасунулася на ўчастак рака Бярэзіна

[7] *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914-1991 гг.): зборнік дакументаў і матэрыялаў: у 4 тамах*, т. 1: *1 жніўня 1914 — 18 сакавіка 1921 гг.: у 2 частках*, ч. 2: *3 студзеня 1920 — 18 сакавіка 1921 гг.*, Мінск 2008, с. 156.

[8] A. Ładoś, *Wasilewski w rokowaniach ryskich*, „Niepodległość”, 1937, nr 16, s. 230-250.

— Багданава і далей на ўсход для далейшага злучэння з 3 дывізіяй пяхоты легіёнаў. Актыўна рыхтавалася прасоўванне на Маладзечна — Свянцяны. Апошняя аперацыя мела на мэце адсунуць літоўскія войскі ад мяжы з Савецкай Расіяй. 3 дывізія пяхоты легіёнаў генерала Э. Рыдз-Сміглага выйшла на лінію Вішнева — Ластаянцы — Баруны — Ашмяны — Жупраны і сутыкнулася з напорам літоўскіх войск. 4 армія генерала Л. Скерскага, улічваючы факт адыходу войск Чырвонай Арміі са Слуцка, прасунулася ў раён Койданава — Гулічы (па шашы Слуцк — Нясвіж)[9].

8 кастрычніка 1920 года 3 дывізія пяхоты легіёнаў прыступіла да наступлення на Свянцяны, дзе сустрэла адпор літоўцаў у раёне Жупран і Солаў. На наступны дзень штабам 2 арміі быў выдадзены загад № 68, які прадугледжваў правядзенне атакі ў раёне Міра і на поўнач ад лініі Маладзечна — Вілейка, з заняццем абшару Радашковічы — Маладзечна — Вілейка. У той жа час сіламі 4 арміі планавалася заняць Койданава і ўсталяваць баявую сувязь з 2 арміяй пад Радашковічамі. У сваю чаргу аперацыйная група „Мір" прасоўвалася ў кірунку Шчорсы — Ракаў на Рэчкі і Крывічы[10]. У той жа час 3 дывізія пяхоты легіёнаў працягвала сваё прасоўванне на Свянцяны. Без асаблівых перашкод з боку літоўскіх войск былі заняты Міхалішкі і Астравец. 5 брыгада пяхоты легіёнаў набліжалася да раёна Нестанішкі — Вармяны — Гервяты. Як 10 кастрычніка, так і на наступны дзень польскія войскі не сустракалі напору суперніка. Былі заняты Койданава, Станькава, Узда, Слуцк.

У той жа дзень аператыўная група „Беняконі", якая знаходзілася пад камандаваннем Л. Жалігоўскага, заявіла аб сваім непадпарадкаванні вярхоўнаму польскаму камандаванню і, перайшла дэмаркацыйную лінію, пачала прасоўвацца на тэрыторыю Літвы. Ужо 9 кастрычніка 1920 года атрады Л. Жалігоўскага занялі Вільню, дзе было абвешчана аб стварэнні незалежнай дзяржавы пад назвай „Сярэдняя Літва" ў складзе Віленскага, Троцкага, Свянцянскага, Лідскага, Ашмянскага і Браслаўскага паветаў. Плошча новага дзяржаўнага ўтварэння склала больш за 13,5 тыс. кв. км з насельніцтвам каля паўмільёна чалавек. Адразу ж пасля заняцця Вільні і прылеглых тэрыторый генерал Л. Жалігоўскі пачаў падрыхтоўку да правядзення выбараў у Сейм, які павінен быў вызначыць лёс гэтай тэрыторыі. Разлік польскіх улад быў у тым, каб пасля адпаведнай падрыхтоўкі выбараў дабіцца тако-

[9] L. Wyszczelski *Operacja Niemeńska 1920 roku*, Warszawa 2003, s. 343.
[10] CAW, I. 311. 2. 276.

га складу Сейма, які прагаласаваў бы за ўключэнне Сярэдняй Літвы ў склад Польскай дзяржавы.

На польска-расійска-ўкраінскай канферэнцыі ў Рызе актыўна абмяркоўвалася пытанне вызначэння лініі размежавання паміж бакамі. Я. Домбскі ў сваіх успамінах пра канчатковую фазу рыжскай мірнай канферэнцыі пісаў яшчэ пра адзін важны паварот у пазіцыі расійскай дэлегацыі: „У самым канцы мірных перагавораў бальшавіцкай дэлегацыяй было ўзнята вельмі цікавае і вельмі знамянальнае пытанне, а менавіта пытанне пра агульную мяжу Польскай Рэчы Паспалітай з Расіяй, якой ва ўступным мірным трактаце няма”[11]. Гэта пытанне было канчаткова вырашана такім чынам: у артыкуле II мірнага дагавора было сказана, што Польшча мяжуе „з Расіяй, Украінай і Беларуссю”, а ў артыкуле III адзначалася, што „Польшча адмаўляецца на карысць Украіны і Беларусі ад усіх правоў і прэтэнзій на землі, размешчаныя на ўсход ад гэтай мяжы”. У прэлімінарным мірным дагаворы не было ніякай згадкі пра тое, што Польшча мяжуе з Расіяй, а згадваліся толькі Украіна і Беларусь. Формула наконт узаемнай адмовы гучала ў прэлімінарным дагаворы (артыкул I) наступным чынам: „Расія і Украіна адмаўляюцца ад усіх правоў і прэтэнзій на землі, размешчаныя на захад ад гэтых зямель. Са свайго боку Польшча адмаўляецца на карысць Украіны і Беларусі ад усіх правоў і прэтэнзій на землі, размешчаныя на ўсход ад гэтай мяжы”. Гэтая формула была ідэнтычнай формуле ў канчатковым дагаворы[12].

12 кастрычніка 1920 года быў падпісаны прэлімінарны мірны дагавор і яго складнік „Дагавор аб перамір’і”. Прэлімінарны мірны дагавор не прапаноўваў дакладна вызначаных шляхоў вырашэння беларускага пытання, толькі вызначаў лінію размежавання: Збруч — Роўна — Сарны — Лунінец — на захад ад Мінска — Вілейка — Дзісна — рака Дзвіна; прызнаваў (артыкул I) незалежнасць „Беларусі”, аднак інтэрпрэтацыя тэрміна „Беларусь” зводзілася хутчэй да геаграфічнага, чым дзяржаўна-палітычнага плана. Згодна з „Дагаворам аб перамір’і” ваенныя дзеянні паміж бакамі павінны былі спыніцца да 18 кастрычніка 1920 года. Праз два дні быў выдадзены загад Ю. Пілсудскага, у якім ён дзякаваў польскім салдатам, што фактычна азначала спыненне любых ваенных аперацый на фронце і заклікала да эвакуацыі з часткі тэрыторыі, якая на той момант адыходзіла да савецкага боку. Аднак 15 кастрычніка 1920 года тактычная група палкоўніка

[11] J. Dąbski *Pokój Ryski*, s. 78.

[12] *Документы и материалы по истории советско-польских отношений: в 11 т*, т. 3: *апрель 1920 г. — март 1921 г.*, Москва 1965, с. 156.

Ю. Пашкевіча, якая ўваходзіла ў склад 4 арміі амаль бесперашкодна ўвайшла ў Мінск. У гэты ж дзень генерал Л. Скерскі ў загадзе № 55 настойваў на эвакуацыі польскіх войск, дакладна акрэсліваў лінію, за якую павінны былі адысці яго часткі: рака Рыбчанка — чыгуначная станцыя Радашковічы — на ўсход ад Ракава — Волмы і Рубяжэвічаў — чыгуначная лінія Мінск — Баранавічы, Коласава — шаша Нясвіж — Цімкавічы, шаша паміж Клецкам і Цімкавічамі на поўдні ад шашы Масква — Варшава, на ўсход ад Філіповічаў, уздоўж ракі Лань да ракі Прыпяць і ракі Ствігі — да мяжы былых Мінскай і Валынскай губерняў[13].

Дэмаралізацыя войск Паўночна-Заходняга фронту пасля паражэння і акружэння падчас Варшаўскай і Нёманскай аперацый дазволіла польскім часткам актывізаваць свае дзеянні і прасунуцца ў глыб беларуска-літоўскага абшару ў раёне Маладзечна і Свянцян. Намеры польскага боку заняць найбольш выгадную стратэгічную лінію фронту, якую можна б было замацаваць у якасці лініі размежавання ў ходзе польска-расійска-ўкраінскай мірнай канферэнцыі ў Рызе, прымушалі польскае камандаванне спяшацца з правядзеннем наступальных аперацый. Аднак ход польска-савецкіх перагавораў прадэманстраваў, што расійска-ўкраінская дэлегацыя нават і без уліку ваенных поспехаў Польшчы пачатку кастрычніка 1920 года была згодна пайсці на значныя тэрытарыяльныя ўступкі.


**Summary**

**Polish-Soviet Confrontation in October 1920: From War to Peace**

Polish-Soviet confrontation in the period of 1919-1920 which turned into an open warfare with the entry of Polish troops deep into the territory of Lithuania, Belarus and the Ukraine, in October 1920 passed into the signing of the armistice. The defeats of the Red Army in the battles of Warsaw and on the river Niemen led to the massive retreat of troops of the North-Western Front under the command of Tukhachevsky, and to the move of the Polish armies into the Belarusian lands. The Polish High Command ordered the armies to take Molodechno and Swieciany, as well as to attackKoydanowo and Slutsk. During the Polish-Russian-Ukrainian conference in Riga the compromise was reached on the borderline and peace preliminaries were signed on 12 October 1920.



**Keywords:** Polish-Soviet War of 1919-1920, preliminaries of peace treaty, the Niemen operation, the Polish-Russian-Ukrainian Peace Conference.



**Streszczenie**

**Polsko-radziecka konfrontacja w październiku 1920 roku: od wojny do pokoju**

Konfrontacja polsko-radziecka, która w latach 1919-1920 przekształciła się w otwarte działania wojenne i zajęcie przez polskie wojsko znacznych części terytorium Litwy, Białorusi i Ukrainy, w październiku 1920 roku przeszła w fazę pokojową — zawarcia rozejmu


[13] CAW, I. 311. 4. 276.

i podpisania preliminariów pokojowych. Klęski Armii Czerwonej w bitwie niemeńskiej i warszawskiej doprowadziły do globalnej defensywy wojsk Frontu Północno-Zachodniego pod dowództwem Michaiła Tuchaczewskiego, a w efekcie do natarcia polskiej 2, 3, 4 armii i grupy operacyjnej „Mir" na ziemie białoruskie. Polskie dowództwo naczelne rozkazało zajęcie Mołodeczna i Święcian oraz uderzenie na Kojdanowo i Słuck. W trakcie polsko-rosyjsko-ukraińskiej konferencji w Rydze obie strony podczas nieoficjalnych spotkań przewodniczących delegacji osiągnęły kompromis w sprawie wytyczenia linii granicznej i 12 października podpisały preliminaria pokojowe.

**Słowa kluczowe:** wojna polsko-radziecka w latach 1919-1920, preliminaria pokojowe, bitwa niemeńska, polsko-rosyjsko-ukraińska konferencja pokojowa.

**Wolha Borowskaja** — kandydat nauk historycznych, pracuje w Instytucie Historii Narodowej Akademii Nauk Białorusi. Zainteresowania badawcze: wojna polsko-radziecka (1919–1920), problem białoruski w stosunkach radziecko-polskich (1918–1939).

**Анатоль Трафімчык**
(Мінск)

# Стыхійна-бытавыя праяўленні палітычных настрояў у заходнебеларускай глыбінцы: рэчаіснасць і афіцыёз *(на прыкладзе Круговіцкай гміны Лунінецкага павета)*

Вынікі палітычнай барацьбы ў міжваеннай Польскай Рэспубліцы збольшага дакументаваліся, таму скласці паняцце пра сімпатыі насельніцтва адносна ўлады не так і складана. Партызанскія дзеянні ці акцыі з боку падполля ў выглядзе тэрарыстычнага шкодніцтва або прапаганды ляжаць на паверхні. У той жа час непасрэдныя настроі „заходнікаў”, іх палітычныя прыхільнасці не заўсёды можна выявіць, убачыць, празандзіраваць. Дзеля гэтага мусім зазірнуць у побытавы дыскурс канкрэтнага асяродка. Такім у дадзеным выпадку з’яўляецца насельніцтва Круговіцкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяводства.

Паліцыя павінна была трымаць руку на пульсе настрояў насельніцтва. Важна было прасочваць эмацыйны стан грамадзян, каб сітуацыя не выходзіла з-пад кантролю. Асаблівую пільнасць польскія праваахоўнікі скіроўвалі ў бок свайго галоўнага ворага на „крэсах усходніх” — бальшавізму.

Яшчэ ў часе свайго першага заняцця мясцовасці польскія ўлады канстатавалі (у студзені 1920 года), што Слуцкі павет, у які тым часам уваходзіла Круговіцкая гміна, характарызуецца моцнымі расійскімі і бальшавіцкімі настроямі, пры гэтым прыгадваючы гібель на гэтай зямлі палкоўніка Масціцкага (якраз не далёка ад гміннага адміністрацыйнага цэнтра). Адпаведна гаворыцца, што трэба працаваць на падрыў прарасійскіх настрояў і выпрацоўваць давер і шанаванне да Польшчы[1].

Трохі пазней (у маі 1920 года) думка практычна паўтарылася яшчэ ў адным дакуменце, які датычыцца акрэсленай намі мясцовасці: „Беларускае насельніцтва знаходзіцца пад значным уплывам бальшавіц-

[1] Archiwum Akt Nowych w Warszawie (далей: AAN), Zespół „Towarzystwo Straży Kresowej. Wydział Organizacyjny. Raporty pow. słuckiego (Mińsk). 1921”, sygn. 319, k. 1-3: Raport Powiatu Słuckiego za styczeń 1920 r.

кіх агітатараў і с[ацыял]-р[эвалюцыянераў]. Асабліва гэта заўважна ў Сіняўскай і Круговіцкай гмінах". Асобна падкрэсліваецца: „Вайсковыя ўлады не выклікаюць большага даверу. Да паліцыі адносяцца незычліва". У гэтым жа дакуменце канстатуюцца вялікія разбурэнні ў месцах, дзе праходзіў нямецка-расійскі фронт, а таксама адзначаецца, што да занядбанай гаспадаркі спрычыняецца гультайства мясцовага насельніцтва[2]. Сучасныя польскія гісторыкі прызнаюць, што „на некаторых абшарах Палесся Польскае Войска паводзіла сябе значна горш у параўнанні з расійскай ці нямецкай арміяй"[3].

Разам з тым, паводле іншага, але датаванага тым самым месяцам рапарта, што датычыцца Слуцкага павета, палітычная сітуацыя разглядаецца не так адназначна, а ў некаторых момантах нават самакрытычна: „Настроі насельніцтва можна акрэсліць як мешаніну: пачуцці радасці з нагоды ўстанаўлення польскага кіравання і пастаяннага страху патрапіць пад маскоўскае ярмо [у выпадку памылак нашай дыпламатыі і структур, якія трымаюць на дадзены момант уладу]. (...) Настроі сярод беларускага насельніцтва пад уплывам бесперапынных пабораў і рэквізіцый, падбухторванняў бальшавіцкіх, жыдоўскіх і беларускіх пры браку якіх-кольвек кіраўнічых запачаткаванняў у аграрнай сферы, пры адсутнасці якой-кольвек грамадскай апекі, удзеленай польскім кіраўніцтвам, пры бачанні займання ўсіх высокапастаўленых кіраўнічых пасад грамадзянамі, якія не адзначаюцца ані прафесіяналізмам, ані мінімальнай дозай дэмакратычнасці, — становяцца для Польшчы штораз горшымі, і паколькі тыя стасункі не падлягаюць хуткай змене (...) не прагназуюць нічога добрага". Тут жа гаворыцца пра ігнараванне польскай адміністрацыйнай уладай патрэб мясцовага насельніцтва і спагнанне розных рэквізіцый, „прычым рэквізіцыі тыя не з'яўляюцца ні загадзя прадбачанымі, ні абапертымі на дакладна сабраную статыстыку"[4]. Як бачна з дакументаў, іх аўтары — прадстаўнікі польскай улады — усведамлялі адчужанасць мясцовага насельніцтва ад іх і ў сваіх нарацыях не міналі рыс акупацыйнасці, якія прысутнічалі ва ўстаноўленым імі рэжыме (рапарты рыхтаваліся для ўнутранага карыстання і таму маюць высокую ступень аб'ектыўнасці).

[2] 1920, maj 10, Baranowicze. Raport z powiatu baranowickiego Straży Kresowej za okres od 15 kwietnia do 10 maja 1920, [w:] *O niepodległą i granice. Raporty Straży Kresowej 1919-1920 Ziem Północno-Wschodnich opisane*, Warszawa — Pułtusk 2011, s. 973-976.

[3] W. Śleszyński, *Województwo poleskie*, Kraków 2014, s. 22.

[4] 1920, maj 18, Słuck. Raport instruktora Straży Kresowej powiatu słuckiego Jana Suszyńskiego za maj 1920, [w:] *O niepodległą i granice. Raporty Straży Kresowej*, s. 1056-1057.

З канца 1920 года Круговіцкая гміна надоўга становіцца часткай польскай дзяржавы. Так званыя левыя па-ранейшаму мелі сярод насельніцтва дзейсны ўплыў[5]. Аднак у цэлым сітуацыю можна характарызаваць амбівалентна.

З аднаго боку, са справаздачы ў справаздачу лунінецкага кіраўніка пераходзіла наступная ацэнка сітуацыі ў павеце: настроі люду без змен; як і ў папярэдні перыяд, у чэрвені не назіралася павышэння зацікаўленасці палітыкай; у цэлым на тэрыторыі павета не адзначана праяў палітычнага жыцця, асабліва апалітычнай з'яўляецца вясковая маса[6]. Але то быў час (1927), з аднаго боку, адноснага паляпшэння эканамічнага становішча беларускіх сялян, з іншага боку, якраз ішоў актыўны наступ на беларускія нацыянальныя арганізацыі.

Разам з тым у часы сусветнага крызісу (1929-1933), які істотна пагоршыў матэрыяльнае становішча палескіх сялян, іх настрой характарызаваўся як прыгнечаны. Толькі ў некаторых выпадках палешукі ўлагоджваліся праз павятовыя камітэты сацыяльнай дапамогі[7]. Эканамічныя цяжкасці, паланізатарская палітыка сталі адным з фактараў прыхільнасці вяскоўцаў да пракамуністычных поглядаў. Тым болей што бальшавіцкая прапаганда малявала ў вельмі выгадным святле жыццё пры савецкай уладзе. Аднак не заўсёды насельніцтва прымала камуністычныя ідэі. Праведзены аналіз дазваляе меркаваць, што сярод вяскоўцаў (горад па вызначэнні меў вышэйшую палітычную свядомасць) успрымальнасць камуністычнага ўздзеяння ўзрастала па меры лепшай адукаванасці насельніцтва. Гістарычна так склалася, што Круговічы і навакольныя вёскі цягацеюць да сярэднебеларускай культурнай паласы — у адрозненне ад паселішчаў іншых гмін тагачаснага Лунінецкага павета, якія ў поўнай меры належаць да палескага рэгіёна. Даследаванні Юзэфа Абрэмбскага канстатуюць розніцу ў культуры рэгіёнаў не на карысць палескіх вёсак, у чым прызнаюцца самі іх жыхары, якія характарызуюцца большай інертнасцю і кансерватызмам, адсталасцю ў гаспадарчым і асветным развіцці ў параўнанні з насельніцтвам Цэнтральнай Беларусі[8] (у нашым выпадку

[5] А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве ў 1920-я гг. праз прызму вынікаў выбарчых кампаній у польскі парламент*, «ARCHE», 2013, № 4, с. 99-210.

[6] Гл., напрыклад, крыніцу за чэрвень 1927 г.: Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (далей: ДАБВ), ф. 2002, воп. 2, спр. 2, арк. 47: Sprawozdanie miesięczne sytuacyjne za m-c czerwiec 27 r.

[7] AAN, Zespół „Urząd Wojewódzki Polesie (Brześć)", sygn. 976/17, k. 25, 47: Sprawozdanie sytuacyjne nr 2 za czas od 11.II. do 10.III.1933 r., nr 3 za czas od 11.II. do 10.IV.1933 r.

[8] J. Obrębski, *Polesie*, Warszawa 2007, ss. 574.

з Круговіцкай гмінай — памежжам Навагарадчыны і Случчыны). Азначанай прычынай можна вытлумачыць розную ступень успрымання камуністычнай дзейнасці сярод жыхароў Лунінецкага павета. Польскія крыніцы 1935 года вылучаюць тэрыторыю Круговіцкай гміны на фоне ўсяго павета. Там, у ваколіцах Вострава — Будчы, былі зафіксаваны выпадкі шпіёнства і ўвогуле назіраліся пэўныя камуністычныя ўплывы на насельніцтва, што спараджала горшыя ў стасунку да ўлады настроі вяскоўцаў. Дакумент (справаздача паліцыі) 1937 года таксама адзначае гміну Круговічы як „ognisko komuny", кажучы да таго ж пра шматлікія кантакты з СССР[9]. Але ў цэлым, калі меркаваць па дакументацыі сіл правааховы, сітуацыя была падкантрольнай.

Камуністычныя ўплывы ў Круговіцкай гміне не ішлі ні ў якае параўнанне са становішчам, напрыклад, у суседнім Івацэвіцкім (спачатку называўся ён Косаўскім) павеце таго ж Палескага ваяводства. Магчыма, невысокай актыўнасцю камуністаў у нашых вёсках і вытлумачваецца параўнаўчая палітычная пасіўнасць насельніцтва. Не выключана, што з улікам прымежнага[10] становішча Круговіцкай гміны сілавыя органы ўлады (тут паліцыі дапамагалі сотні пагранічнікаў) болей строга кантралявалі грамадскія настроі і не давалі асабліва разгарнуцца ідэйным праціўнікам, якімі з'яўляліся камуністы.

Нейкіх сур'ёзных, значных учынкаў у распаўсюджанні камуністычнай ідэалогіі разгледжаныя дакументы паліцыі па Круговіцкай гміне не фіксуюць. Аднак нават эмацыянальна абумоўленыя словы, якія мелі антыдзяржаўны змест, улада брала на ўлік, расцэньвала ў якасці незаконнай прапаганды. Як напрыклад, дастаткова бытавы выпадак — сварка паміж Марыяй Гофман і Марыяй Арловай, жыхаркамі вёскі Круговічы, якая ўзнікла 27 верасня 1936 года. М. Арлова ў прыступе гневу выразілася ў адрас М. Гофман: „Ты польская свіння, увесь край абышлі, а ўрэшце прыйшлі сюды на жыраванне, праз вас, польскія свінні, не маем хлеба, усюды сядзіце па праўленнях і размяркоўваецеся па нашым краі, а нашы нідзе не маюць быць. Скора вас халера возьме, будзеце поўзаць па саломе рыламі, калі бальшавікі сюды прыйдуць і паразбіваюць вам ілбы"[11]. Цікава, што з абедзвюх

[9] AAN, Zespół „Komenda Wojewódzka Policji Państwowej w Brześciu" (далей: Zespół KWPPwB), sygn. 2018/2, k. 11-12.

[10] Сама Круговіцкая гміна не гранічыла з тэрыторыяй Савецкай Беларусі, але мяжа праходзіла недзе за дзясятак кіламетраў ад самага ўсходняга населенага пункта гміны — Людвікова, дзе, дарэчы, размяшчаўся гарнізон польскіх пагранічных войскаў.

[11] AAN, Zespół KWPPwB, sygn. 2018/14, k. 361: Sprawozdanie dzienne przestępności z dnia 10 i 11 października 1936 r.

апанентак (прычым цёзак!) адна, нібыта мясцовая, мела прозвішча яўна расійскага паходжання, другая, нібыта полька, — нямецкага. Прычым спадарыня расійскага паходжання апелявала да адсутнасці „нашых” — відавочна, расійскіх чыноўнікаў. Магчымасць беларускіх нават не мелася на ўвазе. Ці таксама падчас праверкі служачым круговіцкага пастарунка Генрыкам Лукоўскім у хаце Паўла Крыцкага, жыхара вёскі Лактышы, жонка падазраваемага Тодара Крыцкага ў адрас паліцэйскага сказала: „Здзіўляецца, што мужыкі крадуць, калі і паны крадуць, гэта мужыкі ад паноў навучыліся”[12].

Тым не менш у настроях насельніцтва гміны, якія нярэдка можна было характарызаваць як стыхійныя эмоцыі ці нават бытавыя сваркі, польская ўлада бачыла прыхільнасць да бальшавіцкіх ідэй. Адзначым, што значнага ўздзеяння па нівеляванні падобных настрояў не мела інфармацыя першакрыніц з-за савецкай мяжы: адтуль „заходнікі” атрымлівалі лісты пра голад, адсутнасць адзення, цяжкую працу з просьбамі прыслаць бялізны і прадуктаў[13]; звесткі пераносілі кантрабандысты, якія асабліва актыўнічалі ў першай палове 1920-х гадоў, а таксама ўцекачы з Савецкага Саюза.

У той жа час на афіцыёзным узроўні гаварылася пра лаяльнае стаўленне беларусаў-„заходнікаў” да польскай улады. Пастаянна падкрэслівалася польскасць рэгіёна, нават сярод праваслаўных. Так, у любові да Польшчы і патрыятызме прызнаецца вучань малакруговіцкай школы падчас перапіскі са сваімі пагодкамі: «Я праваслаўны. Але я люблю польскую зямлю»[14].

Асаблівую прыязнасць, калі верыць польскім СМІ, „заходнікі” адчувалі да пагранічнікаў. Прывядзём рыторыку датычна насельніцтва з наваколля стражніцы Корпуса аховы памежжа „Людвікова”: „Дзеці вёскі Чудзін, аддаленай ад Людвікова на тры кіламетры, далі для жаўнераў КАП у дзень свята КАП (16.10.1938) прадстаўленне, звязанае з танцамі і спевамі. У адказ стральцы КАП у дзень свята незалежнасці (11.11.1938) пайшлі ў тую вёску са сваёю „Салдацкаю вечарніцаю”, дзе радасна іх павіталі не толькі дзеці, але і ўвесь вясковы народ”[15]. (Хоць у некаторых нататках, як, напрыклад, гэта, гаворыцца і пра наяўнасць варожых адносін „да тых праяў грамадзянскага паразумення”.)

[12] AAN, Zespół KWPPwB, sygn. 2018/15, k. 382: Sprawozdanie dzienne przestępności z dnia 29 kwietnia 1937 r.

[13] AAN, Zespół KWPPwB, sygn. 2018/14, k. 401: Sprawozdanie dzienne przestępności z dnia 17 i 18 października 1936 r.

[14] S. Treugut, *Nasza korespondencja z Kruhowiczami*, „Dziennik Urzędowy Kuratorium Okręgu Szkolnego Brzeskiego”, 1936, nr 3, s. 91.

[15] *Ludność Polesia z całym narodem*, „Polska Zbrojna”, 23 II 1939, s. 6.

Да таго ж дэманстравалася, што насельніцтва не проста падтрымлівае ўладу, але робіць гэта актыўна, так сказаць, рублём, дакладней — злотым. Адной з распаўсюджаных акцый у прымежным рэгіёне стала набыццё на грошы вяскоўцаў зброі. Яскравыя прыклады прыводзяцца ў вайсковай прэсе: летам 1928 года рада Круговіцкай гміны сабрала і перадала на будаўніцтва падводнай лодкі імя Юзэфа Пілсудскага 29 злотых 80 грошаў[16]; жыхары вёсак гміны ў чэрвені 1938 года сабралі сродкаў на кулямёт і вінтоўку і перадалі зброю пагранічнікам[17]. З іншай крыніцы гаворыцца яшчэ пра адзін кулямёт, куплены для арміі на сродкі жыхароў Круговіцкай гміны (не выключаем, што гэта інфармацыя дублюе вышэйпрыведзеную, хаця, магчыма, то быў другі набыты жыхарамі азначнай мясцовасці кулямёт)[18]. Прычым такія патрыятычныя акцыі праводзіліся ледзь ні штогод, а часам і часцей, асабліва з нарастаннем ваеннай пагрозы. Так, аналагічнае ахвяраванне было зроблена ўжо на пачатку наступнага года. Як вынікае з крыніцы, акцыя была арганізавана гмінным Фондам нацыянальнай абароны[19]. Грамада вёскі Дзяніскавічы-2 вясною 1939 года наогул сабрала суму ў 132 злотых[20].

Яшчэ адным трукам улады па стварэнні карцінкі ў сваю падтрымку сталі сходы і розгалас пра іх. У добраахвотнасць такіх мерапрыемстваў верыцца слаба. Прывядзём у якасці прыкладу блізка да тэксту наступную інфармацыю:

15 лютага 1925 года ў Ганцавічах адбыўся сход прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей і веравызнанняў на выступленне дэлегата Польскага таварыства апекі над крэсамі[21] дэпутата Янкоўскага. Ухвалілі:

1) дамагацца ад польскага ўрада ажыццяўлення ладу і парадку, а таксама ўгрунтавання польскасці ва ўсходніх ваяводствах;
2) пажаданне Сейма і Сената выдаваць дэпутатаў і сенатараў, якія праводзяць на ўсходніх землях Рэспублікі антыдзяржаўную агітацыю, судовым уладам;

[16] *Na łódź podwodną*, „Polska Zbrojna", 22 VII 1928, s. 5.

[17] *Kronika*, „Kurjer Wileński", 8 VII 1938, s. 6; *Ludność poleska z całym narodem dąży ku potędze Polski*, „Polska Zbrojna", 23 II 1939, s. 6; *Społeczeństwo — wojsku*, „Nowiny", 23 VII 1939, s. 1.

[18] *Na karabin maszynowy dla Armii*, „Wieś Poleska", nr 12, 3 VII 1938, s. 18.

[19] *Ofiary na F.O.N.*, „Echo Tureckie", nr 6, 5 II 1939, s. 1.

[20] „Gazeta Polska", nr 116, 28 IV 1939, s. 7.

[21] Польскае таварыства апекі над крэсамі (Polskie Towarzystwo Opieki nad Kresami) — прадзяржаўная арганізацыя ў міжваеннай Польскай Рэспубліцы. Мэта — духоўная і матэрыяльная дапамога польскаму насельніцтву і поль-

3) жаданне ад дзяржаўных улад пераследу і суворага пакарання ўсіх, хто праводзіць на так званых крэсах антыдзяржаўную працу і да т.п.[22]

Пракамуністычныя настроі ўзраслі ў 1939 годзе. У паветры запахла вайною (хаця, напрыклад, самалёты часам курсіравалі над Кругавіцкай гмінай і раней: 3 сакавіка 1929 года савецкі самалёт парушыў мяжу ля Людвікова і нават прызямліўся далёка паўднёвей[23]; 22 ліпеня 1937 года „аднапілотнік, без прыкмет" палётаў над мястэчкам Ганцавічы, скіраваў на Буды і знік у напрамку савецкай граніцы[24], што можна таксама расцаніць як перманентную напружанасць і — апошні з двух прыведзеных прыкладаў — як сімптом набліжэння неспакойнага часу). Звесткі прыходзілі да вяскоўцаў самыя розныя, самыя супярэчлівыя, што ў сваю чаргу спараджала дыяметральна супрацьлеглыя размовы, якія часам (у залежнасці, думаецца, ад іх падазронасці) браліся паліцыяй пад увагу і канстатаваліся (вялікую ролю пры гэтым, як можна здагадвацца, грала таемная экспазітура). У якасці прыкладу можна прывесці наступныя выпадкі:

„15 красавіка падчас грамадскага сходу ў вёсцы Еськавічы, які праводзіўся па рэкамендацыі войта Кругавіцкай гміны пад кіраўніцтвам загадчыка ўсеагульнай школы ў вёсцы Дзяніскавічы, Філімон Карпеня з вёскі Еськавічы некалькі разоў выкрыкнуў: «Не даць пазычкі[25], бо ўрад ведае толькі, як лупіць за каровы, а для паляпшэння быту людзей нічога не робіць». Камендант Дзяніскавіцкага пастарунка праводзіць следства".

„24 красавіка Ганцавіцкім пастарункам быў затрыманы Аляксандр Мелехавец з вёскі Ганцавічы, які некалькі дзён распаўсюджваўся сярод насельніцтва (...) што Польшча бяспраўна акупавала частку краю на ўсход ад Буга і Расія 1 мая гэтыя тэрыторыі адбярэ"[26].

скім арганізацыям на так званых Крэсах. Фактычна ажыццяўлялася спрыянне паланізацыі. Гл.: *Statut Polskiego Towarzystwa Opieki nad Kresami*, [Warszawa], [Łuck] 1922, ss. 15.

22 *Zadanie ludności kresowej*, „Warszawianka", nr 57, 26 II 1925, s. 2.

23 „Żołnierz Polski", nr 12/13, 31 III 1929, s. 304.

24 AAN, Zespół KWPPwB, sygn. 2018/15, k. 687: Sprawozdanie dzienne przestępności z dnia 23 lipca 1937 r. Дарэчы, якраз вясною пры самай мяжы з Польшчай Беларуская ваенная акруга правяла маштабныя вучэнні. Магчыма, гэта быў іх адгалосак.

25 Маецца на ўвазе дзяржаўная пазыка на вайсковыя патрэбы Польшчы. Сходы, на якіх сялян агітавалі купляць аблігацыі пазыкі, праводзіліся ў той час па вёсках Заходняй Беларусі. (Аўтар выказвае ўдзячнасць за гэту інфармацыю Анатолю Сідарэвічу.) Супраць тых дадатковых пабораў і абураўся Філімон Карпеня.

26 AAN, Zespół KWPPwB, sygn. 2018/11, k. 200: Meldunek sytuacyjny nr 98.

У той жа час па Лунінецкім павеце хадзілі чуткі і адваротнага зместу: маўляў, саветы маюць выслаць 3 мільёны арміі на дапамогу Польшчы[27], што „Савецкая Расія сканцэнтравала ў Мінску вялікую колькасць самалётаў (каля 2000), каб прыйсці Польшчы на дапамогу ў выпадку нямецкай агрэсіі”[28].

Некаторыя чуткі былі блізкімі да праўды. Так, пры вулічнай размове ў вёсцы Еськавічы жыхар той жа вёскі Валянцін Творык казаў: „Маршал Рыдз-Сміглы ездзіў у Маскву і прасіў Сталіна ўзброенай дапамогі для Польшчы. А Сталін яму засведчыў, што дасць дапамогу Польшчы, калі Польшча пагодзіцца стаць пад яго апекай”, — гаворыцца ў паліцэйскім дакуменце[29]. (Насамрэч у перагаворах Масквы з Варшавай і саюзнікамі апошняй [Англіяй і Францыяй] разглядаўся варыянт вайсковай абароны Чырвонай Арміяй Польскай Рэспублікі ў выпадку германскай агрэсіі пры ўмове пропуску савецкіх узброеных сіл праз тэрыторыю Польшчы, кіраўніцтва якой адмовілася ад такой дапамогі на той падставе, што Чырвоная Армія потым не пакіне іх дзяржавы. Як паказала неўзабаве развіццё падзей вакол краін Прыбалтыкі, палякі асцерагаліся не дарэмна.)

Трохі раней у вёсцы Будча быў зафіксаваны выпадак прапаганды дэзерцірскіх настрояў: „Калі солтыс грамады вёскі Будча Сымон Савеня ўручаў карты прызыву рэзервістам, прысутны пры тым Сцяпан Кандраценя 65 гадоў, занатаваны ў аркушы эвідэнцыйным з 1933 года як падазраваны ў шпіёнстве, выразіўся наступнымі словамі ў адрас аднаго з рэзервістаў: «Чаго за Польшчу ваяваць? Узяць вінтоўкі ў рукі ды ісці ў хмызнякі». Савеня быў затрыманы да следчага суда”[30]. Неўзабаве рэзервісты сталі вяртацца дадому, што спрычынілася, паводле рапарта паліцыі, да паляпшэння настрояў сярод насельніцтва, падмацаваных ізноў-такі чуткамі пра абяцаную дапамогу Польшчы з боку Савецкага Саюза[31].

Трэба сказаць, што беларускае насельніцтва і паліцыя так і не знайшлі паразумення за міжваенны час у прынцыпе. Ахоўнікі правапарадку прысылаліся з этнічных польскіх зямель. Таму яны для кансерватыўнага асяродка, якім была тым часам заходнебеларуская вёска,

[27] AAN, Zespół KWPPwB, sygn. 2018/22 „Nastroje ludności po ogłoszeniu pogotowania Obrony Przeciw-Lotniczej i po doręczeniu kart powołania do Wojska Polskiego. Raporty. Marzec-kwiecień 1939”, k. 12: Raport informacyjny o nastrojach ludności. 29.03.1939.

[28] Tamże, k. 9: Raport informacyjny o nastrojach ludności. 28.03.1939.

[29] Tamże, k. 20: Raport informacyjny o nastrojach ludności. 10.04.1939.

[30] Tamże, k. 5: Nastroje ludności w czasie «mob.». 25.03.1939.

[31] Tamże, k. 20: Raport informacyjny o nastrojach ludności. 03.04.1939.

былі элементам чужародным. Гэта збольшага прызнаецца і польскімі гісторыкамі. Да таго ж яны самі ўказваюць на „ўсеагульнае п'янства” ў шэрагах польскай паліцыі[32]. Больш таго, яе дзеянні (бясправўныя арышты і здзекі) лічыліся правакацыйнымі, у выніку чаго спараджаліся антыдзяржаўныя настроі і нават партызанскія атрады[33]. Такія факты знаходзяцца і па разглядаемай мясцовасці, прычым таксама з польскіх крыніц, што не можа быць выдумкай. Так, пра рэгулярнае ўжыванне спіртнога служачымі праваахоўных органаў непасрэдным чынам гаворыць клумбы Памежнай паліцыі ў Людвікове (напярэдадні яе расфарміравання ў 1925 годзе). Здавалася б, як? Проста яны былі „ўпрыгожаны” шматлікімі бутэлькамі з-пад гарэлкі[34]. Прычым — што важна — Памежная паліцыя мела павышанае значэнне: акрамя нагляду за парадкам у сваёй акрузе, яна ахоўвала пэўны ўчастак польска-савецкай мяжы. Што ўжо казаць пра звычайных паліцэйскіх?

Як бачна, сярод беларускай сялянскай масы ў міжваеннай Польшчы найбольш прыкметнымі былі пракамуністычныя настроі. Дакументы паліцыі прыводзяць шмат розных прыкладаў антыдзяржаўных выказванняў і вальнадумства. Аднак пры ўсёй масавасці варожых адносін да ўлады іх нельга назваць сістэмнымі, пэўным чынам структурна выбудаванымі і тым больш кіруемымі. Як правіла, гэта была эмацыйная рэакцыя на тую ці іншую падзею або інфармацыю. Да такой рэакцыі найперш, несумненна, спрычынілася бальшавіцкая прапаганда. Яе вынікі найбольш адбіліся на маладым пакаленні. Часам выяўляліся пры дробных бытавых калізіях. Больш таго, выразна, акцэнтавана прабальшавіцкіх настрояў, як гэта спрабавала падаць мясцовая ўлада, было не так і шмат. Гэта былі выпады хутчэй у бок той улады. У той жа час і цвёрдых, і адкрытых сімпатыкаў антыдзяржаўнай ментальнасці была нешматлікая колькасць. Па ўсім відаць, паліцыя праводзіла перманентны маніторынг палітычных настрояў (любога характару), і ў Круговіцкай гміне яны не выходзілі з-пад яе ўвагі і кантролю.

Разам з тым афіцыёзную карцінку настрояў „заходнікаў” польскія ўлады стараліся падаць у колерах лаяльнасці. Гэта падмацоўвалася фактурай у выглядзе разнастайнай падтрымкі ўлады з боку насельніцтва. Хоць для яе, відавочна, уключаўся так званы адміністрацыйны

[32] W. Śleszyński, *Województwo poleskie*, s. 245.

[33] Гэта меркаванне польскага чыноўніка пра стан у Лунінецкім павеце: ДАБВ, ф. 2002, воп. 2, спр. 2, арк. 35: Do Wielmożnego Pana Wojewody Poleskiego.

[34] A. Rosik-Rosiński, A. Ochał, *Wspomnienia podoficera KOP Antoniego Rosika-Rosińskiego*, „Przegląd Historyczno-Wojskowy”, 2015, t. 16 (67), nr 1 (251), s. 140.

рэсурс. Наяўнасць той карцінкі была абумоўлена найперш прапагандысцкімі задачамі.

Соцыум Круговіцкай гміны характарызаваўся сярэдняй — па заходнебеларускіх мерках — ступенню палітызаванасці. З аднаго боку — меншай, чым у „заходнікаў" на паўночны захад ад гэтай зямлі, з другога — большай, чым у жыхароў Палесся, якое пачыналася адразу на поўдні ўказанай адміністрацыйнай адзінкі. Натуральна, ступень зацікаўленасці палітыкай, залежнасці ад яе ў мястэчку гміны была большай, чым у вяскоўцаў. Гэта адбівалася нават на побытавым узроўні, у кантэксце штодзённасці.

**Summary**

**The Spontaneous Expressions of Political Moods in Upcountry Western Belarus: In Reality and in Official Reports**

*(the Case of the Kruhovitshe Commune in the Luniniec County)*

For the population of Western Belarus as the case of the Kruhovitshe Commune shows the Polish state was not the motherland from the beginnings and it did not become one over the next twenty years. Polish authorities were severely criticized by the local villagers on various aspects of life cultural, economic, political and military. The author of this paper describes an incident from the life of common people ordinary citizens living in various villages. However, it would be an exaggeration to claim that these statements were threats and that they were of dangerous dimensions. In this period in the official reports all expressions of positive emotions towards Polish authorities were recorded and the wishful thinking of authorities was treated as reality. Therefore, there is no doubt that the reports were exaggerated and made for propaganda purposes. However, the authorities did not idealize the attitude of the local population towards them and negative attitude were taken into consideration (first of all by the police).

**Keywords:** Kruhovitshe, social moods, critique of authorities, police reports

**Streszczenie**

**Spontaniczne przejawy nastrojów politycznych na zachodniobiałoruskiej prowincji: w rzeczywistości i w oficjalnych raportach**

*(na przykładzie gminy Kruhowicze w powiecie łuninieckim)*

Dla ludności zachodniobiałoruskiej, o czym świadczy konkretny przykład gminy Kruhowicze, państwo polskie od samego początku nie było ojczyzną i nie stało się nią później w ciągu kolejnych dwudziestu lat. Ze strony mieszkańców wsi pod adresem władz padały ostre wypowiedzi dotyczące różnych dziedzin życia — kulturalnego, gospodarczego, politycznego, wojskowego. Autor artykułu przytacza zdarzenia z życia zwykłych ludzi — szeregowych mieszkańców różnych wsi. Niemniej jednak nie można powiedzieć, że ich wypowiedzi miały charakter gróźb i niebezpieczną skalę.

W tymże czasie w oficjalnych raportach odnotowywano wszelkie przejawy sympatii do władz polskich, a życzenie władz brano za rzeczywistość. Nie ma zatem wątpliwości, że raporty były naciągane i robiono to w celach propagandowych. Jednak władze nie idealizowały stosunku ludności do siebie, a nieprzychylne nastroje były brane pod uwagę (przede wszystkim przez policję).

**Słowa kluczowe:** Kruhowicze, nastroje społeczne, krytyka władz, raporty policji.

**Anatol Trafimczyk** — kandydat nauk historycznych i filologicznych, sekretarz naukowy Instytutu Literaturoznawstwa Ośrodka Badań Białoruskiej Kultury, Języka i Literatury Narodowej Akademii Nauk Białorusi. Zainteresowania badawcze: historia Białorusi I połowy XX w. (poszczególne aspekty polityki i kultury), mikrohistoria (wsi Kruhowicze Wielkie), literatura białoruska XX w. (tematyka historyczna i polityczna w białoruskiej poezji, dramaturgia białoruska dla dzieci). Autor ponad dwustu publikacji naukowych, w tym czterech monografii. Popularnonaukowa książka „1939 год і Беларусь: забытая вайна" [„1939 rok i Białoruś: zapomniana wojna"] (wydawnictwo „Januszkiewicz A. M.", 2014) została uznana za książkę roku (według Radia Swaboda) oraz otrzymała nagrodę im. Franciszka Bahuszewicza przyznawaną przez Białoruski PEN Club.

artykuły

**Jan Nikołajuk**
(Białystok)

# MiG-i nad Bielskiem. Radziecki 126. Pułk Lotnictwa Myśliwskiego i jego lotniska

W 1940 roku w Związku Radzieckim zapadła decyzja o budowie dużej ilości nowych lotnisk, na których miały stacjonować pułki lotnicze tworzone w ramach rozbudowy Armii Czerwonej. Budowę takich lotnisk zaplanowano również w obwodzie białostockim, który w październiku 1939 roku został włączony w skład Białoruskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej. Na terenie republiki stacjonowały oddziały wojskowe podlegające dowództwu Zachodniego Specjalnego Okręgu Wojskowego w Mińsku[1]. Na terenie obwodu białostockiego planowano wybudowanie 11 lotnisk z betonowym pasem startowym[2].

Za budowę lotnisk odpowiadał Ludowy Komisariat Spraw Wewnętrznych (NKWD) i dlatego budową każdego z nich kierował funkcjonariusz NKWD. Był to kierownik obiektu budownictwa specjalnego[3]. W celu zakamuflowania prowadzonych prac w oficjalnych dokumentach nie używano nazw obiektów, lecz każdemu z nich przydzielono indywidualny numer kodowy, którego używano w korespondencji. Rosjanie na budowę każdego z lotnisk planowali przeznaczyć kwotę 16 milionów rubli. W ramach budowy lotniska zamierzali przeprowadzić między innymi prace związane z budową urządzeń tymczasowych, odwodnieniem terenu oraz prace ziemne i betoniarskie. Przy dwunastogodzinnym dniu pracy budowę wszystkich lotnisk planowano zakończyć do 1 września 1941 roku[4].

Jednym z takich lotnisk było lotnisko położone na południowy-zachód od Bielska Podlaskiego. Nie była to przypadkowa lokalizacja. Już w latach 30. XX wieku polskie władze wojskowe podjęły decyzję o budowie w tym

[1] Do 10 lipca 1940 r. okręg nosił nazwę Białoruski Specjalny Okręg Wojskowy.

[2] Planowano budowę lotnisk w Bielsku, Goniądzu, Jabłonowie k. Łap, Zabłudowie, Rosi, Kwaterach k. Świsłoczy, Stokach k. Świsłoczy, Skidlu, Kraśnianach, Skołubowie k. Grodna i na Krywlanach. Do 22 czerwca 1941 r. na żadnym z nich nie zakończono prac budowlanych.

[3] Za budowę lotnisk odpowiadało Główne Kierownictwo Budownictwa Lotniskowego (Главное управление аэродромного строительства) powołane rozkazem Ludowego Komisarza Spraw Wewnętrznych nr 00328 z 27 marca 1941 r.

[4] Государсвенный архив общественных объединений Гродненской области (dalej: ГАООГО), ф. 6195, оп. 1, д. 209: Справка о состоянии работ по объектам спецстроительства НКВД по Белостоцкой области на 21.5.41 г., л. 43-56.

**Аляксандр Гужалоўскі**
(Мінск)

# Апагей культу Сталіна ў БССР. 1940-я — пачатак 1950-х гадоў

Дасягненню культу Сталіна свайго апагея папярэднічалі гады яго згортвання і паралельнага існавання разам з культам Гітлера на акупаванай немцамі тэрыторыі рэспублікі. Як вядома, да часу ўварвання нямецкіх войскаў у чэрвені 1941 года, нацысцкія прапагандысты на чале з Гебельсам сфармавалі публічны вобраз фюрэра — месіянскага лідара, пакліканага да выратавання айчыны, бацькі нацыі, бясстрашнага салдата. Вядомасць Гітлера ўвесь час узрастала дзякуючы яго эмацыйным прамовам на мітынгах, парадах і па радыё. Сотні тысяч тыражаваных партрэтаў і бюстаў фюрэра дапаўняліся мільёнамі экземпляраў яго палітычнай аўтабіяграфіі «Майн Кампф». Немцы павінны былі публічна прысягаць Гітлеру амаль у рэлігійнай форме, вітаць адзін аднаго нацысцкім салютам, дэманстраваць іншыя формы пакланення, якія межавалі з паранояй. Невыкананне гэтых норм сведчыла аб палітычнай нядобранадзейнасці і было дастатковай падставай для зняволення ў турме.

Сталіна, які ўважліва сачыў за ўсімі падзеямі ў Германіі, непакоіла не столькі ўсталяванне ў гэтай краіне дыктатарскага рэжыму і абслугоўваючага яго культу асобы, колькі планы фюрэра захапіць жыццёвую прастору на Усходзе, якія адкрыта дэкларавалiся ў другой палове 1930-х гадоў. З 1933 па 1939 гады савецкая прапаганда фармавала ў масавай свядомасці вобраз германскай нацыі, падзеленай на эксплуататараў-фашыстаў на чале з Гітлерам і прыгнечаных працоўных, спачуваючых дзяржаве рабочых і сялян. Разам з упэўненасцю ў класавым характары будучай вайны, у насельніцтва стваралася эмацыйная варожасць і непрыняцце асобы Гітлера. Актыўнае выкарыстанне імя заснавальніка нацыянал-сацыялізму ў савецкім прапагандысцкім дыскурсе адыграла злавесную ролю ў лёсе селяніна з Кіраўскага раёна А. Адстаўнога. 5 жніўня 1937 года тройка НКУС прысудзіла яго да 10 гадоў лагераў за тое, што «меў вялікае знаёмства з германскім Гітлерам, вёў з ім ліставанне», чаго звычайны калгаснік рабіць, канешне, не мог[1].

[1] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), ф. 4п, воп. 1, спр. 17087, арк. 39.

Насаджэнне ва ўмовах вялікага тэрору ідэі барацьбы з «ворагамі народа», у тым ліку з германскім фашызмам часам прыводзіла да нечаканага прапагандыстамі адваротнага эфекту. Так, 20 красавіка 1937 года, па вяртанні з Нараўлянскага раёна, старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР Аляксандр Чарвякоў дакладаў першаму сакратару Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі Васілю Шаранговічу, што «ў нямецкім сельсавеце мелі месца выпадкі прамых заяў „Гітлер наш сябра", а ў нямецкай школе з'яўляліся фашысцкія знакі»[2]. У тым жа годзе пракуратура рэспублікі паведаміла выконваючаму абавязкі сакратара ЦК КП(б)Б Аляксею Волкаву пра арыштаванага настаўніка з вёскі Заброддзе Стадолавіцкага сельсавета Лельчыцкага раёна Рамана Крывіцкага, які скончыў выступ на мітынгу 7 лістапада 1937 года словамі «Няхай жыве Гітлер!»[3]. У калгасе імя Варашылава Самахвалавіцкага сельсавета Мінскага раёна ў разгар масавых рэпрэсій праваахоўныя органы зафіксавалі чуткі пра хуткую вайну з Германіяй: «Гітлер мае на кожнага чалавека кулямёт. Савецкі Саюз не дасць рады Германіі. Трэба мяняць савецкія грошы на прадукты»[4]. У дакладзе на XIII з'ездзе беларускага камсамола, які адбыўся ў лютым 1939 года, першы сакратар ЦК ЛКСМБ Васіль Галоўкін узгадаў «некаторыя школы» Клічаўскага раёна, дзе вучні распаўсюджвалі фашысцкія значкі і спявалі антысавецкія песні[5].

Новы знешнепалітычны курс на паляпшэнне савецка-германскіх адносін, абраны Сталіным у жніўні 1939 года, спыніў у СССР антыфашысцкую прапаганду, а таксама ўсялякую крытыку на адрас кіраўніка нацысцкай Германіі. Гітлер, сярод іншых кіраўнікоў замежных дзяржаў, павіншаваў Сталіна з 60-годдзем[6]. Юбіляр адправіў яму ў адказ ветлівую падзяку[7].

Сітуацыя змянілася 22 чэрвеня 1941 года, калі ў Германіі і СССР узнікла неабходнасць мабілізаваць узброеныя сілы і насельніцтва для вядзення цяжкай вайны, а таксама ўздзейнічаць на варожую армію і насельніцтва занятых варожых тэрыторый. Ваюючыя бакі выкарыстоўвалі ўвесь арсенал прапагандысцкіх тэхналогій, уключаючы газеты, часопісы, плакаты, улёткі, радыётрансляцыі, школу, канцэрты,

[2] НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 12099, арк. 117.
[3] НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 12068, арк. 54.
[4] НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 12099, арк. 132.
[5] НАРБ, ф. 4п, воп. 1, спр. 13761, арк. 17.
[6] «Звязда», 23.12.1939, № 295, с. 4.
[7] «Звязда», 25.12.1939, № 297, с. 4.

лекцыі, выставы. Ад пачатку Сталін і Гітлер зрабіліся ў іх цэнтральнымі постацямі.

Для вядзення прапаганды сярод насельніцтва нацысты стварылі адмысловае міністэрства на чале з Іозефам Гебельсам. Пры міністэрстве былі створаны два аддзелы: барацьбы супраць Камінтэрна і Усходні («Вінета»). Апошні меў пададдзел актыўнай прапаганды (у ім былі аддзяленні па выпуску брашур, улётак, газет, плакатаў, па арганізацыі выстаў, па выкарыстанні перасоўных гучнагаварыцеляў), а таксама пададдзелы культуры, кніжнай прадукцыі, кіна- і радыёпрапаганды. Паралельна, з мэтай прапагандысцкага ўздзеяння на акупаванае насельніцтва ўсходніх абласцей дзейнічалі адмысловыя структуры ў апараце імперскага міністра ўсходніх тэрыторый Альфрэда Розенберга, а таксама пры генеральным штабе арміі. Да канца лета 1941 года ва ўсіх буйных гарадах Беларусі ў гарадскіх управах альбо пры ваенна-палявых камендатурах дзейнічалі аддзелы культуры і асветы альбо аддзелы прапаганды.

Сталін зрабіўся галоўным аб’ектам крытыкі ў нямецкай прапагандзе адпаведна інструкцыі Гебельса ад 5 чэрвеня 1941 года[8]. Кіраўнік савецкай дзяржавы прадстаўляўся крыважэрным чарнавусым карлікам, хлуслівым і двудушным, які без жалю адпраўляе на верную смерць мільёны чырвонаармейцаў. Сатыра на Сталіна мела выразны антысеміцкі ўхіл — вярхоўны галоўнакамандуючы паказваўся «жыдабальшавіком», у атачэнні прадстаўнікоў «габрэйскага ўраду саветаў». Менавіта так ён выглядаў на карыкатуры Земляка «„Кароткі курс гісторыі” каляднае елкі»[9], а таксама ў фельетоне Я. Здалевіча «Сталін сярод народу»[10].

Трэба адзначыць, што сталінскае кіраўніцтва 1930-х гадоў давала багаты матэрыял для крытыкі савецкіх парадкаў. У рэдакцыйным артыкуле часопіса «Новы шлях» дзейнасць кіраўніка савецкай дзяржавы па пабудове асноў сацыялізму характарызавалася наступным чынам: «Тыран Сталін праліў мора народнае крыві й дасягнуў таго, што ў аднэй з багацейшых краінах сьвету пануе голад і галота, а людзі пазбаўленыя радасьці»[11]. Прапагандысцкія матэрыялы, што выдаваліся ў акупаваным немцамі Мінску, высмейвалі сімвалы нядаўняга савец-

[8] Е. М. Ржевская, *Геббельс: Портрет на фоне дневника*, Москва 1994, с. 255.

[9] Земляк, *«„Кароткі курс гісторыі” каляднае елкі»*, «Новы шлях», 1942, № 12, с. 23.

[10] Я. Здалевіч, *Сталін сярод народу. Заміж фэльетону*, «Беларуская газэта», 8.04.1943, № 27, с. 4.

[11] *Да чаго імкнецца Гітлер?*, «Новы шлях», 1942, № 6, с. 2.

кага жыцця: «СССР — Сталін самы страшны рабаўнік», «КСМ — капайце Сталіну магілу», «МТС — магіла таварышу Сталіну», «ССП — суполка сталінскіх падлізаў»[12]. Крытыкаваліся таксама савецкія «культавыя» тэхналогіі, якія добра памятала насельніцтва: «Скульптура, маляваньне прысьвячаліся адтварэньню гэтак званых „правадыроў" і „кіраўнікоў", падробленых „герояў" — Чапаева, Шчорса»[13].

Гітлер наадварот падаваўся моцным, упэўненым чалавекам, «правадыром Вяліканямеччыны», стваральнікам «першай народнай дзяржавы ў сьвеце»[14]. Нямецкае ўварванне ў СССР тлумачылася ў прапагандысцкіх матэрыялах яго жаданнем вызваліць народы СССР ад бальшавізму. Пра эфектыўнасць гэтай прапаганды сведчыць прывітальная тэлеграма Гітлеру ад пражскіх беларусаў, якую ў канцы чэрвеня 1941 года склаў будучы кіраўнік Беларускай народнай самапомачы Іван Ермачэнка[15].

Пасля ўваходу ў савецкія населеныя пункты, нямецкія салдаты, часам з падтрымкай мясцовага насельніцтва, знішчалі шматлікія вывы савецкіх правадыроў на чале са Сталіным. Здзейсненыя ў адносінах да твораў манументальнага мастацтва падобныя акцыі набывалі сімвалічны сэнс. Ва ўмовах вайны да ўсталявання выяў новых герояў на апусцелых пастаментах справа не дайшла. Затое з'явіліся партрэты фюрэра ў адміністрацыйных, навучальных, культурніцкіх установах. Не вымагалі таксама вялікіх фінансавых і арганізацыйных намаганняў тапанімічныя наваўвядзенні. Імем фюрэра назвалі плошчу ў Брэсце (сёння плошча Леніна), вуліцы імя Гітлера з'явіліся ў Гомелі (сёння вул. Савецкая), Гродна (сёння вул. Э. Ажэшкі) і некаторых іншых беларускіх гарадах.

Акупанты не пярэчылі, калі беларускае насельніцтва адзначала рэлігійныя святы, у першую чаргу, Каляды і Вялікдзень. Разам з тым, абавязковыя ўрачыстыя мерапрыемствы праводзіліся 20 красавіка ў дзень нараджэння Гітлера, а таксама 1 мая ў Дзень вызваленай працы. У гэтыя дні ладзіліся ўрачыстыя мітынгі і народныя дэманстрацыі, абавязковым элементам якіх былі партрэты фюрэра. Паводле ўспамінаў беларускага пісьменніка Рыгора Мурашкі, першы ў Мінску

[12] Асьцюк, *Што абазначаюць савецкія скарочаныя словы?*, «Беларуская газэта», 25.03.1943, № 23, с. 4.

[13] С., *Бальшавіцкае ўзгадаваньне і ягоныя вынікі*, «Беларуская газэта», 21.01.1943, № 5, с. 2.

[14] *Чаго жадае Гітлер. Вяліканямеччына на шляху да Новай Эўропы*, «Новы шлях», 1942, № 7, с. 18.

[15] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 25, воп. 6, спр. 68, арк. 24.

партрэт Гітлера намаляваў былы беларускі карэспандэнт «Архітэктурнай газеты» Пляханаў[16]. Неўзабаве да іх прадукавання былі прыцягнуты прафесійны мастакі — аўтар шматлікіх партрэтаў савецкіх правадыроў Павел Гуткоўскі[17], будучы аўтар праекта дзяржаўнага сцяга БССР Мікалай Гусеў[18], а таксама былы старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР Мікалай Дучыц[19].

Кожнае выступленне беларускіх артыстаў, што засталіся ў акупаваных гарадах, пачыналася са слоў падзякі правадыру Германіі «за адроджанае беларускае нацыянальнае мастацтва». Паказу кожнага фільма папярэднічала дэманстрацыя «Германскага штотыднёвага агляду», дзе звычайна фігураваў фюрэр. Тое, што засталося ад бібліятэк і музеяў таксама было павінна выконваць перш за ўсё новыя ідэалагічныя задачы. Сярод іншых прапагандысцкіх матэрыялаў, партрэт фюрэра «упрыгожваў» экспазіцыю Слонімскага музея[20], а таксама выставу твораў мастака-самавука Марозава ў Бабруйску[21]. Мінчанка А. С. Ісакава, якая ў 1943 годзе вучылася ў 35-й сталічнай школе, у сваім інтэрв'ю ўзгадвала, як іх, трэцякласнікаў, строем, з загадзя раздадзенымі нацысцкімі сцяжкамі, вадзілі ў перасоўны музей Гітлера[22].

Перад школай акупацыйная адміністрацыя ставіла задачу выхавання маладога пакалення ў духу нацыянал-сацыялізму, які прызнаваў толькі адну легітымную ўладу фюрэра. З новых школьных падручнікаў дзеці маглі даведацца, што ўжо не Сталін, а Гітлер забяспечвае іх радаснае і здаровае дзяцінства. Прымеркаваны да дня нарадзінаў Гітлера нумар часопіса для дзяцей «Школьнік» паведамляў юным чытачам, што «Правадыр Вялікай Германіі аслабаніў ад бальшавізму і крывавага тэрору ГПУ нашу бацькаўшчыну Беларусь»[23].

[16] Р. П. Платонаў, *Старонкі гісторыі Беларусі. Архівы сведчаць: з навуковай спадчыны*, уклад. У. В. Фядосаў і інш., навук. рэд. М. Ф. Шумейка, Мінск 2002, с. 296.

[17] П. М. Гуткоўскі быў арыштаваны ў 1944 г. і асуджаны за супрацоўніцтва з нацыстамі да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў.

[18] М. Гусеў і М. Дучыц у 1944 г. былі арыштаваны НКДБ БССР, але тады ж адпушчаны пасля хадайніцтва Панцеляймона Панамарэнкі, да якога, у сваю чаргу, звярнуліся па заступніцтва незаплямленыя знаходжаннем у акупацыі Заір Азгур і Іван Ахрэмчык.

[19] Я. Ціхановіч, *Партрэт стагоддзя*, Мінск 2015, с. 119, 319.

[20] І. М., *Слонімскі музей*, «Новы шлях», 1943, № 19, с. 12.

[21] В. Баярскі, *Выстаўка мастака-самавука*, «Беларуская газэта», 10.02.1943, № 11, с. 3.

[22] Л. Селицкая, В. Селеменев, *Партизаны не смогли уничтожить Кубэ во время взрыва в театре*, «Комсомольская правда в Белоруссии», 13.05.2010, № 87, с. 6.

[23] «Школьнік», 1943, № 3, с. 1.

У першыя месяцы вайны савецкія партызаны не былі гатовыя да актыўнай контрпрапагандысцкай дзейнасці. Знаходзячыся ў інфармацыйнай блакадзе, яны асцерагаліся самастойна яе пачынаць. Да таго ж, пачатак вайны правакаваў крытычнае, часам негатыўнае стаўленне часткі савецкага грамадства да дзеянняў вышэйшага кіраўніцтва. Гэта ў сваю чаргу размывала народную веру ва ўсемагутнасць калектыўнага бацькі, зніжала яго сацыяльны статус. Паводле ўспамінаў Уладзіміра Калесніка, у 1942 годзе, калі ў прыватных размовах партызан праяўляліся настроі прыгнечанасці, неразумення, чаму Чырвоная Армія адступае, «іранічны, нястрыманы ў словах» Іван Мацко запярэчыў аднаму з песімістаў: «Не хныч! Наш Ёська задасць яшчэ гэтаму Адольфу пытлю, што той касцей не пазбірае. Папомніш маё слова!». За падобнае фамільярнае стаўленне да Вярхоўнага галоўнакамандуючага камандзір атрада адразу адабраў у маладога партызана зброю[24].

Характэрна, што падрыхтаваны ЦК КП(б)Б і Саветам Народных Камісараў БССР 11 ліпеня 1941 года першы зварот да насельніцтва, якое апынулася на акупаванай тэрыторыі, паведамляў «братам і сёстрам» пра словы Сталіна аб уступленні ў «смяртэльную схватку са злейшым і каварным ворагам — германскім фашызмам», а таксама абяцаў, што менавіта Сталін дапаможа яго перамагчы[25]. Падобны змест мелі іншыя ўлёткі, адозвы, газеты, якія ЦК засылаў на акупаваную тэрыторыю. Так, у складзеным на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б 25 красавіка 1942 года спісе літаратуры, якую меркавалі закідваць на акупаваную тэрыторыю з дапамогай авіяцыі, першым нумарам былі пазначаны «Даклад таварыша Сталіна 6 лістапада 1941 года і прамова Сталіна 7 лістапада 1941 года», другім — «Загад таварыша Сталіна № 55»[26].

Савецкі партызанскі рух на тэрыторыі Беларусі меў сістэму прапагандысцкіх органаў, якія ўзначальваліся і накіроўваліся ЦК КП(б)Б і Беларускім штабам партызанскага руху. Ва ўсіх партызанскіх атрадах дзейнічалі партыйныя і камсамольскія арганізацыі, у многіх — прапагандысцкія групы. У снежні 1942 года ЦК КП(б)Б прыняў рашэнне аб выданні газет ва ўсіх 10 абласцях і 50 раёнах Беларусі. Больш аператыўна на важнейшыя падзеі адгукаліся ўлёткі, якія мелі невялікі памер і маглі быць надрукаваны ў паходных умовах. Там, дзе была магчымасць, праводзіліся іншыя формы палітычнай работы сярод насельні-

24 У. Калеснік, *Доўг памяці*, Брэст 2005, с. 303.

25 *Зборнік лістовак усенароднай партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941-1944 гг.)*, Мінск 1952, с. 15-17.

26 НАРБ, ф. 4п, воп. 100, спр. 1, арк. 49.

цтва — размовы, сходы, мітынгі, чыткі палітычнай літаратуры і яе распаўсюд. Гэтую працу савецкія партызаны маглі весці пераважна на адлегласці ад буйных населеных пунктаў і размешчаных там гарнізонаў.

Галоўнай мэтай партызанскіх прапагандысцкіх структур з'яўляўся ўздым насельніцтва на барацьбу супраць нямецкіх акупантаў. З гэтай мэтай распаўсюджвалася інфармацыя аб перамогах Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, гераізме байцоў і камандзіраў, партызан, працаўнікоў савецкага тылу, злачынствах фашыстаў і здраднікаў, асуджаных на пагібель. Сталін прадстаўляўся ў партызанскіх прапагандысцкіх матэрыялах як галоўны «абаронца сацыялістычнай Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Ілюзію нябачнай прысутнасці правадыра на акупаванай тэрыторыі стваралі ўлёткі, у якіх паведамлялася пра сабраныя беларускімі працоўнымі і партызанамі для фронту грошы і друкаваліся атрыманыя ў адказ падзякі Вярхоўнага галоўнакамандуючага[27].

Імя кіраўніка краіны прысутнічала ў назвах шматлікіх савецкіх партызанскіх фармаванняў, тым самым уздымаючы баявы дух народных мсціўцаў. У беларускіх лясах дзейнічала 5 партызанскіх брыгад, 24 атрады, полк і эскадрон імя Сталіна[28]. Беларускіх савецкіх партызан таксама натхнялі на подзвігі газеты «Па сталінскаму шляху», «Сталінец», «Сталінская молодежь», «Сталінская праўда», «Сталінскі сцяг» і да т.п.

Адначасова савецкая прапаганда фармавала ў партызан пачуцце агіды да Гітлера, у тым ліку праз наданне яму зааморфнага вобразу. Гэты прыём павінен быў паспрыяць шырокаму ўспрыманню акупантаў як звяроў, спачуванне да якіх немагчыма. Найбольш удала гэта атрымалася ў серыі карыкатур мастака Лепельскай партызанскай брыгады імя Сталіна Мікалая Гуціева. Не менш эфектыўным контрпрапагандысцкім прыёмам было высмейванне Гітлера ў зразумелых народу прыпеўках, адна з якіх з'явілася на старонках падпольнай «Звязды» ужо ў верасні 1942 года: «Зорка бліснула на небе / Хлопец падзівіўся / Беларускім нашым хлебам / Гітлер падавіўся»[29].

Пераход рэспублікі да мірнага жыцця азначаў вяртанне да поўна-

[27] *Таварышу Сталіну І. В.* Лістоўка-тэлеграма: аб зборы сродкаў працоўнымі і партызанамі Беларусі на пабудову самалётаў і браняпаяздоў, «Савецкая Беларусь» і тэлеграма таварыша Сталіна ў адказ на яе. Б. м. 1943.

[28] *Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944)*, авт. колл. А. Л. Манаенков и др., Минск 1983, с. 673, 675, 676, 698, 713, 714.

[29] *Партызанскія прыпеўкі*, «Звязда», 20.09.1942, № 4, с. 2.

маштабнага культу Сталіна, які дасягнуў свайго апагею на мяжы 1940-1950-х гадоў. Выявы дыктатара зноў зрабіліся абавязковым атрыбутам гарадской прасторы і службовых інтэр'ераў, яго працы цытаваліся ў кнігах, артыкулах, радыёперадачах. Аб ім здымалі фільмы і ставілі спектаклі. Прапагандысцкі вобраз правадыра набываў новыя міфалагічныя рысы, пераўтвараючыся ў неад'емную частку савецкай ідэнтычнасці.

Разам з савецкай уладай на Беларусь вярнулася савецкая тапанімія, скасаваная ў часы нямецкай акупацыі[30]. Наданне тапонімам імя правадыра па-ранейшаму разглядалася ў якасці важнага сродку ўмацавання не толькі яго культу, але таксама агульнай саветызацыі насельніцтва, перш за ўсё заходняй часткі БССР. На працягу некалькіх першых пасляваенных гадоў шырокамаштабных кампаній па перайменаванні не праводзілася. Тым не менш, колькасць сталінскіх тапонімаў увесь час павялічвалася, пераважна ў сельскай мясцовасці. Пра іх з задавальненнем распавядалі СМІ, робячы акцэнт на тым, што ініцыятыва надання калгасу імя правадыра сыходзіла ад калгаснікаў. Вось як карэспандэнты часопіса «Работніца і сялянка» апісвалі працэс узнікнення ў 1946 годзе калгаса імя Сталіна ў Жабінкаўскім раёне Брэсцкай вобласці: «І ў былым маёнтку пана Бабінскага, дзе мы і нашы дзяды гадамі гнулі спіны, была арганізавана першая на ўсю акругу сельскагаспадарчая арцель. — Назавем, таварышы, свой калгас іменем І. В. Сталіна, — прапанаваў былы панскі конюх Варфаламей Алянюк»[31].

Працэс аднаўлення культу Сталіна суправаджаўся грубымі парушэннямі прынцыпаў партыйнага жыцця: трынаццаць гадоў, з 1939 года па 1952 год не склікаліся з'езды і пяць гадоў, з 1947 года па 1952 год — пленумы ЦК. Роля Палітбюро ЦК, якое амаль ніколі не збіралася ў поўным складзе, была таксама прыніжана. Узраслі падазронасць і недавер Сталіна да навакольнага атачэння, у тым ліку да яго асабістага сакратарыята. Да канца 1945 года найбольш праслаўленыя военачальнікі атрымалі прызначэнні ў аддаленыя раёны і такім чынам былі выдалены з палітычнага жыцця. Пачаўся новы цыкл рэпрэсій. Ідэя сусветнай рэвалюцыі канчаткова адышла на другі план, саступіўшы месца ідэі савецкай імперскасці[32].

[30] Гл. напр.: Н. Бандарчук, *У калгасе імені Сталіна*, «Звязда», 25.10.1944, № 106, с. 2.

[31] М. Хрысціч, П. Чэрных, *Расказ аб шчасці*, «Работніца і сялянка», 1946, № 3, с. 16.

[32] У БССР гэтая ідэя ўвасаблялася ў жыццё з дапамогай фармавання ў масавай

З мэтай надання Сталіну статусу класіка марксізму-ленінізму ў 1945-1953 гадах актывізавалася выданне і вывучэнне яго творчай спадчыны. Паводле падлікаў супрацоўнікаў кніжнай палаты БССР, агульны наклад яго тэарэтычных прац, артыкулаў, прамоў, выдадзеных з 1925 па 1949 гады на беларускай мове перавысіў 5 млн. асобнікаў[33]. Найбольш тыражаваным сталінскім творам, перакладзеным на беларускую мову, стаў даклад на Надзвычайным VIII Усесаюзным з'ездзе саветаў «Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР», які выдаваўся 13 разоў агульным накладам каля мільёна асобнікаў[34]. Другое месца, паводле тыражнасці, займала біяграфія правадыра — толькі да 70-годдзя дыктатара ў Мінску быў надрукаваны яе 100-тысячны наклад[35]. «Гісторыю ВКП(б). Кароткі курс» друкавалі на беларускай мове чатыры разы агульным накладам 250 тыс. асобнікаў[36]. У 1952 годзе 100-тысячным накладам выйшла праца «Эканамічныя праблемы сацыялізма ў СССР». Акрамя таго, да смерці аўтара Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б паспеў перакласці і выдаць 13 тамоў збору яго твораў[37]. У рэспубліцы выходзілі таксама творы Сталіна на рускай, польскай, літоўскай мовах, а таксама мове ідыш.

Уся гэта прадукцыя вывучалася ў разгалінаванай сістэме палітычнай асветы — ад гурткоў палітпісьменнасці да вячэрніх універсітэтаў марксізму-ленінізму. Асаблівая ўвага з боку партыйных прапагандыстаў надавалася спецыялізаваным структурным адзінкам па вывучэнні біяграфіі Сталіна, яго прац, а таксама «Кароткага курсу». Напрыклад, гурток па вывучэнні прац Сталіна камсамольскай арганізацыі Касцюневіцкага сельсавета Маладзечанскай вобласці меў усе прыкметы фармальнай адукацыйнай установы. У ім меліся кіраўнік, зацверджаная праграма заняткаў, кантрольныя пытанні. Творы правадыра канспекталіся ў працоўных сшытках. Памяшканне, дзе праходзілі заняткі, было аформлена партрэтамі і лозунгамі, працавала радыёкропка. На камсамольскіх сходах рэгулярна заслухоўва-

свядомасці беларусаў комплексу «малодшага брата». Гл. напр.: Н. Каменская, *Вялікі рускі народ — старэйшы брат і абаронца беларускага народа*, «Звязда», 13.11.1948, № 225, с. 2.

33 *Выданне твораў І. В. Сталіна ў Беларусі*, «Літаратура і мастацтва», 17.12.1949, № 52, с. 1.

34 В. Палянскі, *Творы І. В. Сталіна на беларускай мове*, «Полымя», 1950, № 5, с. 90.

35 НАРБ, ф. 4п, воп. 47, спр. 233, арк. 265.

36 *Настольная кніга мільённых мас*, «Літаратура і мастацтва», 4.10.1952, № 40, с. 3.

37 З. Матузаў, *Напярэдадні дэкады*, «Беларусь», 1953, № 2, с. 8.

ліся справаздачы членаў гуртка, а таксама паведамленні кіраўніка аб ходзе заняткаў[38]. Аднак, арганізацыйныя высілкі ідэолагаў не маглі змяніць агульны дагматычны характар заняткаў, якія ў большасці выпадкаў зводзіліся да чытання ўголас і пераказвання прачытанага.

Магчымасці вуснай прапаганды значна падвысіліся пасля ўтварэння ў 1947 годзе Таварыства па распаўсюджванні палітычных і навуковых ведаў. На працягу трох першых гадоў яго існавання сябры беларускага аддзялення таварыства прачыталі звыш 70 тыс. лекцый, якія праслухалі 6,5 млн. чалавек[39]. Часцей за іншыя гучалі лекцыі на такія тэмы, як: «Таварыш Сталін — вялікі сцяганосец міру», «Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна савецкі народ будуе комунізм», «І. В. Сталін — лепшы друг совецкай моладзі»[40].

Важную ролю ў канструяванні культу па-ранейшаму адыгрывала прэса. Імя правадыра ў розных кантэкстах згадвалася амаль у кожным нумары беларускіх газет і часопісаў. Візуальныя рэпрэзентацыі Сталіна ў прэсе не мелі падобнага навязлівага характару і супадалі з савецкім святочным цыклам. Кананічныя выявы дыктатара з’яўляліся на першых палосах газет у дзень смерці Леніна 21 студзеня, 23 лютага ў дзень Савецкай Арміі, 1 мая ў дзень міжнароднай салідарнасці працоўных, 5 мая ў дзень бальшавіцкага друку, 9 мая ў дзень Перамогі, 7 лістапада ў дзень Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, 5 снежня ў дзень Сталінскай Канстытуцыі. Абавязковымі лічыліся візуальныя рэпрэзентацыі правадыра ў дні выбараў, калі яго можна было ўбачыць апускаючым у скрыню бюлетэнь.

Выбары ў саветы ўсіх узроўняў, якія больш не з’ўляліся элементам палітычнай барацьбы, уяўлялі рытуал, альбо як пісала тагачасная прэса, «усенароднае свята», у выніку якога абіраліся «лепшыя прадстаўнікі савецкага народа». Адпаведна падобнаму разуменню электаральнага працэсу, яўка выбаршчыкаў і вынікі галасавання за «блок камуністаў і беспартыйных» набліжаліся да 100%. З падобнымі вынікамі, напрыклад, скончыліся выбары ў мясцовыя саветы БССР, якія праходзілі 11 студзеня 1948 года. Мінск у той дзень набыў святочны выгляд — на фасадах дамоў, над заводскімі брамамі, на агароджах скавераў з’явіліся чырвоныя транспаранты, агітацыйныя плакаты, партрэты правадыроў.

[38] І. Панцялееў, *Вывучаюць біяграфію таварыша Сталіна*, «Чырвоная змена», 30.12.1950, № 157, с. 3.

[39] Н. Сігналаў, *Несці веды ў масы працоўных — вялікая і пачэсная справа*, «Беларусь», 1951, № 1, с. 29.

[40] *Лекцыі і даклады аб жыцці і рэволюцыйнай дзейнасці І. В. Сталіна*, «Літаратура і мастацтва», 22.12.1951, № 51, с. 2.

Асвятляўшыя выбары журналісты імкнуліся ўзняць святочны настрой насельніцтва да стану эйфарыі: «Каля дошкі са спісамі выбаршчыкаў спынілася маладая дзяўчына. Яна знаходзіць сваё прозвішча ў спісе. „Вы разумееце? — звяртаецца яна да суседкі. — Першы раз удзельнічаю ў выбарах, і кандыдатам, за якога я прагаласую заўтра, з'яўляецца таварыш Сталін. Гэта шчаслівы дзень. Ён запомніцца мне на ўсё жыццё»[41]. Распаўсюджаным прапагандысцкім прыёмам было змяшчэнне на старонках газет выяў бюлетэняў, на якіх перапоўненыя пачуццямі выбаршчыкі рабілі надпісы кшталту «Няхай жыве вялікі Сталін!», «Прывітанне геніяльнаму палкаводцу таварышу Сталіну!», «Я аддаю свой голас за росквіт нашай Радзімы, за вялікага Сталіна!»[42]. На дапамогу журналістам былі мабілізаваны літаратурныя класікі[43].

Сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў СССР у першыя пасляваенныя гады не спрыяла зацікаўленасці насельніцтва ў павышэнні вытворчасці працы, нараджала сумневы ў слушнасці сацыяльнай палітыкі кіраўніцтва, адмоўна адбівалася на міжнародным іміджы краіны. Адразу пасля пераадолення голаду 1946-1947 гадоў Сталін распачаў зніжэнне раздробных коштаў на прамысловыя і харчовыя тавары. Адным з прапагандысцкіх эфектаў гэтага захаду было ўмацаванне аўтарытэту кіраўніка савецкай дзяржавы, які пахіснуўся ў вачах тых, хто пабачыў дабрабыт еўрапейскіх краін у гады вайны.

Кожнае зніжэнне коштаў у 1947-1952 гадах суправаджалася прапагандысцкай кампаніяй, скіраванай на ўмацаванне ў насельніцтва савецкага патрыятызму, патэрналісцкіх настрояў, а таксама працоўнага энтузіязму. Тысячы выступоўцаў на сходах, арганізаваных на заводах і фабрыках, у калгасах і навучальных установах БССР нагадвалі іх удзельнікам каму персанальна трэба дзякаваць за хуткі надыход усеагульнага дабрабыту. Дзякавалі за яго правадыру не толькі на працоўных месцах, але таксама ў хатніх умовах. 16 снежня 1947 года, у дзень першага зніжэння коштаў, карэспандэнт газеты «Звязда» зазірнуў у хату мінскага рабочага І. Ерахаўца, які жыў ва Усходнім завулку: «„Слава яму, роднаму і любімаму" — і позіркі, поўныя любві і ўдзячнасці, накіроўваліся на партрэт правадыра»[44]. Ні «Звязда», ні іншыя беларускія газеты нічога не пісалі пра канфіскацыйны харак-

[41] *На выбарчых участках*, «Звязда», 11.01.1948, № 8, с. 1.

[42] *Словы любві да Сталіна*, «Звязда», 12.02.1946, № 32, с. 2.

[43] Я. Колас, *Першы дэпутат*, «Звязда», 17.12.1950, № 252, с. 1.

[44] *У імя далейшага ўмацавання магутнасці нашай Радзімы, у імя палепшання добрабыту совецкіх людзей!*, «Звязда», 16.12.1947, № 249, с. 2.

тар грашовай рэформы 1947 года, прымусовыя дзяржаўныя займы, павышэнне падаткаў, тарыфаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі і іншых выплат дзяржаве, што было адваротным бокам «цуда» зніжэння коштаў.

Пачынаючы з 1929 года кожны юбілей Сталіна спрыяў новаму вітку яго культу. Усе яны, набываючы сацыяльнае гучанне, былі больш, чым асабістая дата ў жыцці генеральнага сакратара. Яго 65-ы дзень нараджэння ў разбуранай вайной Беларусі святкавалася сціпла, пераважна на сходах працоўных. На іх прымаліся падвышаныя абавязацельствы па аднаўленні інфраструктуры рэспублікі. Напрыклад, на падобным сходзе, які адбыўся 21 снежня 1944 года на лунінецкім чыгуначным вузле, рабочыя і майстры паабяцалі «рабіць пробу тармазоў і апрацоўку вагонаў без браку за 10-15 мінут»[45]. Затое апошні, 70-гадовы юбілей Сталіна зрабіўся грамадска-палітычнай падзеяй планетарнага маштабу.

1949 год у Савецкай Беларусі быў годам юбілеяў. 30-годдзе БССР, 10-годдзе ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР, нарэшце 70-годдзе правадыра суправаджаліся грандыёзнымі ўрачыстымі мерапрыемствамі, дэманстраваўшымі эканамічныя, сацыяльныя і культурныя дасягненні працоўных рэспублікі, іх палітычную і працоўную актыўнасць, адзінства партыі і народа. Падрыхтоўкай юбілею правадыра ў агульнадзяржаўным маштабе займаўся камітэт на чале са старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мікалаем Швернікам.

З набліжэннем да юбілею святочных матэрыялаў у СМІ рабілася ўсё больш і больш. Як і падчас святкавання 60-годдзя правадыра, газеты змяшчалі кранальныя ўспаміны тых, каму пашчасціла яго ўбачыць на ўласныя вочы. Адзін з беларускіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР так перадаў эмацыйны стан свайго калегі падчас з'яўлення Сталіна на сцэне: «Побач са мной сядзела дэпутат з Брэсцкай вобласці Матрона Антонаўна Ігнацюк. Калі я зірнула на яе, то на вачах убачыла слёзы. Нахіліўшыся, яна мне ціха шапнула: — Ад радасці плачу, ад радасці»[46].

Новай жанравай формай юбілейных матэрыялаў сталі рэпартажы з калгасаў імя Сталіна, якія, дзякуючы сваёй назве, дасягнулі найвышэйшых вытворчых паказчыкаў. У снежні 1949 года адзін з падобных калгасаў, арганізаваных у вёсцы Засулле Стаўбцоўскага раёна, зрабіў-

[45] Філіповіч, *65 год з дня нараджэння І. В. Сталіна*, «Авангард», 24.12.1944, № 43, с. 2.

[46] Е. Зіма, *Ад усяго сэрца*, «Работніца і сялянка», 1949, № 12, с. 3.

ся аб’ектам экскурсійнага агляду. Удзельнікі экскурсій з усёй Беларусі, агледзеўшы калгасныя свінарнік, птушнік, пасеку, фруктовы сад, і даведаўшыся пра запраектаваныя стайню, лазню, саджалкі і клуб, у захапленні пыталі: «Адкуль сілы возьмеце, каб такое падняць?». І адразу ж атрымлівалі ўпэўнены адказ экскурсавода-старшыні калгаса: «Сілу Сталін нам даў. Жыць і працаваць па Сталінскаму статуту сельгасарцелі — вялікага шчасця дасягнуць можна»[47].

У гады «позняга сталінізму» калгасы, названыя ў гонар правадыра ўжо не маглі быць адсталымі. Яны ўвесь час знаходзіліся ў фокусе ўвагі раённага партыйнага кіраўніцтва, ім дапамагалі фінансава, тэхнічна, арганізацыйна, у іх першых «нараджаліся рысы комуністычнага будучага»[48]. Так, у калгасе імя Сталіна Кайкаўскага сельсавета Мінскага раёна адбываліся пасяджэнні вучонага савета Інстытута меліярацыі, воднай і балотнай гаспадаркі АН БССР[49]. У калгасы імя Сталіна Шчучынскага і Ваўкавыскага раёнаў рэгулярна накіроўваліся экскурсіі сялян-аднаасобнікаў[50]. У калгасе імя Сталіна Васілевіцкага раёна Палескай вобласці кампазітар Несцер Сакалоўскі арганізаваў народны хор[51]. Са свайго боку «калгаснікі-сталінцы», як, напрыклад, камсамольцы калгаса імя Сталіна Астравецкага раёна Маладзечанскай вобласці, бралі абавязацельствы збіраць павышаныя ўраджаі[52]. Выканаўшыя свае абавязацельствы, «сталінцы» атрымлівалі ад дзяржавы шчодрыя ўзнагароды, накшталт аўтамабіля «Перамога», падараванага старшыні калгаса імя Сталіна Старадарожскага раёна К. Завесіну[53]. Інфармацыя пра негатыўныя з’явы калгаснага жыцця, напрыклад пра рэгулярныя парушэнні статута сельгасарцелі ў калгасе імя Сталіна Клімавіцкага раёна, не трапляла на старонкі савецкіх газет[54].

На працягу снежня 1949 года павялічваўся паток падарункаў Сталіну ад беларускіх працоўных. Калектыў Мінскага трактарнага завода падараваў мадэль новага трактара, калектыў Мінскага аўтамабільна-

47 І. Захараў, *У калгасе імя Сталіна*, «Работніца і сялянка», 1949, № 12, с. 21.

48 М. Любан, *Калгас імя Сталіна*, «Беларусь», 1949, № 10, с. 13-15.

49 *Паседжанне вучонага савета ў калгасе імя Сталіна*, «Звязда», 26.03.1949, № 61, с. 2.

50 *Пасля экскурсіі ў калгасы*, «Звязда», 27.03.1949, № 62, с. 1.

51 М. Кандыдатаў, *Кампазітар у калгаснікаў*, «Літаратура і мастацтва», 14.08.1948, № 33, с. 4.

52 Ф. Пазнякоў, *Ад імя калгасных камсамольцаў*, «Работніца і сялянка», 1948, № 10, с. 9.

53 «Звязда», 18.11.1950, № 231, с. 3.

54 НАРБ, ф. 915, воп. 2, спр. 128, арк. 9.

га завода — новы грузавік, Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава — новы станок, Мінскага радыёзавода — упрыгожаную разьбой і інкрустацыяй радыёлу, Мінскага мотавелазавода — пазалочаны веласіпед[55]. Ткачыхі Віцебскага дывановага камбіната вырабілі высокамастацкі дыван, калгаснікі Мядзельскага раёна — 8 каляровых абрусаў з беларускім арнаментам, супрацоўнікі Баранавіцкага абласнога музея — інкруставаны 2650 элементамі партрэт генералісімуса[56]. У выніку неспрыяльнага збегу абставін жаданне дагадзіць праваdыру магло прывесці да адваротнага выніку. У падобную сітуацыю трапілі аўтары аднаго з вырабленых да юбілею інкруставаных партрэтаў. Выгравіраваны на ім надпіс «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» прыйшлося тэрмінова даваць у рускім перакладзе, бо нехта ў апошнюю хвіліну прачытаў яго з націскам на прыназоўнік «ад», пераўтварыўшы яго такім чынам у назоўнік[57].

Віншаваць юбіляра савецкія працоўныя мусілі не толькі песнямі, вершамі і саматужнымі вырабамі на святочных мерапрыемствах, але таксама подзвігамі на працоўных месцах. Найбольш каштоўны падарунак напярэдадні 70-годдзя правадыр атрымаў ад супрацоўнікаў канструктарскага бюро Ігара Курчатава. 29 жніўня 1949 г. на палігоне ў Семіпалацінскай вобласці былі праведзены паспяховыя выпрабаванні першай савецкай атамнай бомбы «РДС-1», якая паклала канец манаполіі ЗША на ядзерную зброю. Бліжэй да юбілейных дзён няўцямная назва бомбы «ракетны рухавік спецыяльны» была перароблена на больш актуальную — «ракетны рухавік Сталіна».

У адрозненні ад галоўнага падарунка, які быў зроблены ва ўмовах найстрогай сакрэтнасці, пра іншыя шматлікія працоўныя здзяйсненні ў гонар правадыра з задавальненнем распавядалі СМІ. Напрыклад, са снежаньскага нумара 1949 года беларускага жаночага часопіса можна было даведацца пра вінтаўшчыцу мінскага тонкасуконнага камбіната Е. Федарэнчык, якая выканала норму на 120%, токара вагонарамонтнага дэпо станцыі Жлобін Т. Гаранкову, якая адужала 5 гадавых норм, а таксама перадавую брыгаду фрэзероўшчыц Барысаўскай фабрыкі піяніна[58]. Да 70-годдзя Сталіна было разгорнута агульнарэспубліканскае сацыялістычнае спаборніцтва. У снежні 1949 года на «ста-

[55] *Падарункі таварышу І. В. Сталіну ад працоўных Совецкай Беларусі*, «Звязда», 18.12.1949, № 249, с. 1.

[56] *Ад шчырага сэрца*, «Літаратура і мастацтва», 21.12.1949, № 53, с. 4.

[57] Я. Брыль, *Вячэрняе. Лірычныя запісы і мініяцюры*, Мінск 1994, с. 34.

[58] *У чэсць 70-годдзя таварыша Сталіна*, «Работніца і сялянка», 1949, № 12, с. 19.

лінскую вахту» ўсталі лесарубы Піншчыны, машыністы мінскага чыгуначнага вузла, выкладчыкі і студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Адным з першых у БССР план юбілейнага года прадказальна выканаў Бабруйскі машынабудаўнічы завод імя Сталіна[59].

Адпаведна распрацаванай партыйным кіраўніцтвам рэспублікі праграме святкавання юбілею, на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, машынна-трактарных станцыях, навучальных установах было створана 12 993 гурткоў па вывучэнні біяграфіі Сталіна, якія аб'ядналі 260 тыс. чалавек. Важным прыёмам укаранення прапагандысцкага вобраза правадыра было абмеркаванне віншавальнага ліста Сталіну ад беларускага народа, у якім узяло ўдзел 2 777 800 жыхароў БССР. Акрамя магчымасці паставіць уласны подпіс пад калектыўным лістом, кожны беларус мог зрабіць гэта ў індывідуальным парадку. Толькі з Брэсцкай вобласці на адрас юбіляра было адпраўлена каля 700 віншавальных лістоў і паштовак[60].

У снежні 1949 года ў БССР адбыліся юбілейныя тэатральная дэкада і кінафестываль, прайшлі цыкл радыёперадач і серыя тэматычных канцэртаў. У Акадэміі навук і вышэйшых навучальных установах рэспублікі былі арганізаваны прысвечаныя правадыру навуковыя сесіі, вучоныя саветы і канферэнцыі. Культурна-асветніцкія ўстановы рэспублікі адгукнуліся на юбілей шэрагам выстаў, лекцый, вечарын[61]. Кіраўніцтва кінастудыі «Беларусьфільм» даручыла Уладзіміру Корш-Сабліну зняць дакументальны фільм, прысвечаны таму, як Беларусь святкуе «вялікі дзень 21 снежня»[62]. У адрозненні ад папярэдняга, 60-гадовага юбілею, паломніцтвы беларускіх працоўных на радзіму правадыра не арганізоўваліся, але макет дамка ў Горы цяпер можна было пабачыць у Доме-музеі І з'езда РСДРП у Мінску[63].

Акрамя агульнарэспубліканскай праграмы юбілейных дзён, кожнае прадпрыемства, калгас, навучальная ўстанова была павінна распрацаваць уласны план святкавання 70-годдзя з дня нараджэння І. В. Сталіна. Напрыклад, у Мінскай музычнай школе-дзесяцігодцы пры Белдзяржкансерваторыі святочныя мерапрыемствы адбываліся з 28 лістапада па 28 снежня 1949 года і ўключалі размовы, даклады, вечарыны,

[59] *Азнамянуем 70-годдзе з дня нараджэння таварыша І. В. Сталіна новымі вытворчымі поспехамі*, «Звязда», 5.12.1949, № 240, с. 1.

[60] НАРБ, ф. 4п, воп. 47, спр. 198, арк. 10-11, 81.

[61] *Да 70-годдзя з дня нараджэння вялікага Сталіна*, «Літаратура і мастацтва», 10.12.1949, № 51, с. 1.

[62] Ф. Бондарава, *Кіначасопіс № 37-38*, «Літаратура і мастацтва», 7.01.1950, № 2, с. 3.

[63] *У доміку-музеі І з'езда РСДРП*, «Звязда», 7.04.1950, № 71, с. 1.

канцэрты, сходы, выраб альбомаў і нават стварэнне «электрыфікаванай дошкі пытанняў і адказаў па біяграфіі таварыша Сталіна»[64].

На працягу юбілейнага 1949 году ў Савецкай Беларусі ўзнікла найвялікшая колькасць сталінскіх тапонімаў. Пачаўся святочны год пастановай ЦК КП(б)Б і Савета Міністраў БССР аб наданні Мінскаму політэхнічнаму інстытуту, у сувязі з 30-годдзем утварэння БССР, імя І. В. Сталіна[65]. Юбілейную дату падобным чынам адзначылі мясцовыя ўлады. Напрыклад, пастановай Слуцкага гарвыканкама імя Сталіна было нададзена мясцовай электрастанцыі[66].

Але пік тапанімічных ініцыятыў прыпаў на канец года. 8 снежня 1949 года першы сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Гусараў звярнуўся да сакратара ЦК Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) Георгія Малянкова па дазвол перайменаваць у сувязі з юбілеем Бабруйскую вобласць у Сталінскую, а горад Бабруйск — у Сталінск. Кіраўнік БССР так аргументаваў сваю ініцыятыву: «Бабруйская вобласць створана паводле ініцыятывы таварыша Сталіна І. В., у гады вайны насельніцтва Бабруйскай вобласці масава брала ўдзел у партызанскім руху і актыўна дапамагала часткам Чырвонай Арміі. Горад Бабруйск з'яўляецца прамысловым і культурным цэнтрам, налічвае да 100 тыс. жыхароў». Акрамя таго, у лісце М. І. Гусарава змяшчалася просьба надаць імя Сталіна Мінскаму трактарнаму заводу і Савецкай вуліцы ў Мінску[67]. З усіх прапаноў беларускага партыйнага кіраўніка была задаволена толькі адна і з вялікім спазненнем, калі ў 1952 годзе галоўную вуліцу беларускай сталіцы на 9 гадоў пераўтварылі ў праспект імя Сталіна. Да яго прымыкала вуліца Сталінградская (цяпер Валгаградская).

У адрозненні ад сталічных, рэгіянальныя тапанімічныя ініцыятывы не патрабавалі ўзгаднення ў Крамлі. Гэта давала мясцовым уладам неабмежаваныя магчымасці ў дэманстрацыі ўласнай адданасці дыктатару. Напярэдадні святкавання яго 70-гадовага юбілею калгасы імя Сталіна з'явіліся ў вёсках Кухты Вялейскага раёна, Чарняты Мядзельскага раёна, Журыхі Вілейскага раёна, Першаі Валожынскага раёна, Ветахмы Докшыцкага раёна і інш.[68] Юбілейнай тапанімічнай інавацыяй аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б было стварэнне

[64] НАРБ, ф. 799, воп. 1, спр. 213, арк. 1.

[65] *Да трыццацігоддзя Беларускай ССР*, «Літаратура і мастацтва», 14.01.1949, № 2, с. 1.

[66] С. Богдашич, *Слуцк: исчезнувший образ Сталина*, «Інфа-Кур'ер», 3.03.2016, № 9, с. 27.

[67] НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 1, арк. 56.

[68] *Калгасы імя Сталіна*, «Звязда», 14.12.1949, № 246, с. 1; *Калгас імя Сталіна*, «Звязда», 21.12.1949, № 251, с. 2.

калгасаў імя 70-годдзя Сталіна. Адна з першых падобных гаспадарак была створана ў вёсках Рагаўцы і Плаксы Пастаўскага раёна[69]. Неўзабаве калгас імя 70-годдзя правадыра з’явіўся ў Казлоўшчынскім раёне Баранавіцкай вобласці[70] і некаторых іншых мясцовасцях.

Статус свята вымагаў ад усіх асоб, задзейнічаных у яго правядзенні, высокай ступені адказнасці. У першую чаргу гэта тычылася працаўнікоў СМІ. Дыктар беларускага радыё Ілья Курган, які ў той час агучваў найважнейшыя ўрадавыя матэрыялы ў прамым эфіры, узгадваў: «У снежні 1949 года, калі краіна святкавала 70-годдзе Сталіна (я працаваў на радыё крыху больш месяца), атрымалася так, што многія калегі захварэлі грыпам. Мне давялося працаваць па дзве змены. Абстаноўка на студыі была даволі напружаная: вельмі адказныя перадачы ішлі тады ў эфір. Я, як звычайна, чытаў з аркуша, хаця, канешне, трэба было з тэкстам азнаёміцца загадзя. І вось чытаю матэрыял на тэму: Сталін і Чырвоная Армія. Тэкст, зразумела, завераны ўсімі патрэбнымі подпісамі. І раптам бачу дакладна і ясна надрукаваную фразу: „Сталін — прычына бяздольнасці Чырвонай Арміі”. Выпраўляю па ходзе: „Сталін — прычына баяздольнасці...”. Потым клічу Марыю Васільеўну — рэдактара. Папрасіў, каб прысела на стул, потым паказваю ёй машынапіс. Перачытала, але ад хвалявання нічога не заўважыла. Калі зноў прачытала, зразумела. Як яна мне дзякавала! Мы абодвы добра разумелі: калі б памылка пайшла ў эфір, дык павезлі б куды-небудзь далей — і мяне, і яе, і старшыню радыёкамітэта...»[71].

Як і ў дзень святкавання 60-гадовага юбілею, галоўнай пляцоўкай святкавання 70-годдзя правадыра ў Мінску стаў Вялікі тэатр оперы і балета. 21 снежня тут адбылося ўрачыстае пасяджэнне, на якое была запрошана вышэйшая партыйная і савецкая наменклатура, дэпутаты, героі вайны і працы, дырэктарскі корпус, вучоныя, мастакі, пісьменнікі. Да іх з урачыстымі прамовамі звярнуліся першы сакратар ЦК КП(б)Б М. І. Гусараў, першы сакратар ЦК ЛКСМБ Пётр Машэраў, а таксама піянерка, вучаніца 12-й мінскай школы Н. Скалабан. Скончылася пасяджэнне прыняццем прывітальнага ліста юбіляру і сумесным выкананнем партыйнага гімна «Інтэрнацыянал». Увечары ў Мінску і іншых святочна ўбраных гарадах рэспублікі адбыліся народныя гулянні[72].

[69] М. Астаневіч, *Калгас імя 70-годдзя таварыша Сталіна*, «Чырвоная змена», 31.12.1949, № 160, с. 3.

[70] *Па старонках газет*, «Звязда», 22.08.1950, № 169, с. 3.

[71] И. Н. Курков, *Белтелерадиокампания. Мир живого эфира*, Минск 2007, с. 237.

[72] *Урачыстае паседжанне ў Мінску, прысвечанае 70-годдзю таварыша Сталіна*, «Літаратура і мастацтва», 28.12.1949, № 54, с. 3.

Святочныя мерапрыемствы расцягнуліся да канца 1949 года, а на працягу 1950 і 1951 гадоў газета «Звязда» мела сталую рубрыку «Паток прывітанняў правадыру з віншаваннямі з нагоды 70-годдзя».

Смерць дыктатара і пахаванне ў маўзалеі не змяніла стаўлення да яго як да чалавекабога. У другой палове 1953 — пачатку 1956 гадоў на афіцыйным узроўні Сталіна працягвалі шанаваць як вялікага правадыра, «прадаўжальніка справы Леніна». Па-ранейшаму на плошчах гарадоў стаялі яго помнікі. Партрэты правадыра, як і раней, з'яўляліся абавязковым элементам службовых памяшканняў. Іх неслі працоўныя на дэманстрацыях 7 лістапада і 1 мая. У кнігарнях прадаваліся сталінскія працы і грамплацінкі з яго прамовамі. На ўгодкі смерці вывешваліся чырвоныя сцягі з жалобнымі стужкамі. Пра надзвычайную асобу «лепшага сябры беларускага народа», як і ў папярэднія два з паловай дзесяцігоддзя, распавядалася з высокіх партыйных трыбун, старонак газет і школьных падручнікаў. Уся адказнасць за неабгрунтаваныя рэпрэсіі супраць жыхароў рэспублікі была ўскладзена на Лаўрэнція Берыю і Лаўрэнція Цанаву.

Хрушчоўская дэсталінізацыя ў Савецкай Беларусі пачалася ў апошнія месяцы праўлення Мікалая Патолічава і працягвалася пад кіраўніцтвам Кірылы Мазурава, які ўзначальваў партарганізацыю рэспублікі з 1956 года па 1965 год. Паводле яго ўласных слоў, К. Т. Мазураў шчыра падтрымаў рашэнні XX і XXII з'ездаў КПСС, імкнуўся данесці ўсё пачутае на гэтых з'ездах да людзей, лічыў вялікі сталінскі культ і дробныя культы партыйных кіраўнікоў сведчаннем нізкай культуры іх носьбітаў. У адным з інтэрв'ю, дадзеных незадоўга да смерці, беларускі партыйны кіраўнік казаў: «Пасля даклада Хрушчова стала ясна, што Сталін дапускаў не проста памылкі, ён вінаваты ў дапушчаных злачынствах, прычым самых жорсткіх»[73].

**Summary**

**The Zenith of the Cult of Stalin in the Belorussian Soviet Socialist Republic — The 1940s and Early 1950s**

The paper approaches the construction of the Stalin's cult in the Belorussian Soviet Socialist Republic as presented in archive sources, periodicals and works of contemporary researchers. The scanty texts which appeared during two waves of de-Stalinization—in the late 1950s and the early 1960 and in the late 1980s and the early 1990s—did not explain this phenomenon. They merely provided the outline of the problem without revealing the essence of the cult, the real forms it took, its symptoms and consequences.

The author focuses on the period from the German aggression on the Soviet Union, when this cult was shaken to the year 1953, when it reached its zenith. This cult, strengthened

[73] *Кирилл Мазуров*, авт.-сост. С. М. Белов и др., Минск 1999, с. 222, 264.

with unrelenting pressure, mobilized the society to support the Soviet totalitarian system, at least as efficiently as the Marxist doctrine. The main tool in the cult's construction was the party's bureaucracy—the real ruling class in the Soviet society. The cult was constructed through the propaganda machinery and, in reality, it became a state religion with its holy scriptures, dogmas, rituals, rites, holidays and holiness. The party leadership ordered and controlled the picture of the charismatic leader, using mas media, literature and arts and the educational system.

**Keywords:** Stalin's cult, the Belorussian Soviet Socialist Republic, the party bureaucracy, totalitarian regime, mass media, literature, arts, jubilee, state religion.

**Streszczenie**

**Apogeum kultu Stalina w BSRR. Lata 40. — początek 50. XX wieku**

W artykule na podstawie źródeł archiwalnych, wydawnictw periodycznych i prac współczesnych badaczy prześledzono budowanie kultu Stalina na Białorusi Radzieckiej. Nieliczne prace, które pojawiły się w czasie dwóch fal destalinizacji — w drugiej połowie lat 50. i 60. oraz w drugiej połowie lat 80. i 90. — nie wyjaśniły fenomenu kultu przywódcy w BSRR. Zarysowano w nich jedynie kontury problemu bez wyjaśnienia istoty kultu, jego konkretnych form, przejawów i następstw.

Autor analizuje okres od napaści faszystowskich Niemiec na ZSRR, gdy kult został zachwiany, do roku 1953, gdy czczenie przywódcy sięgnęło szczytu. Wsparty nieograniczoną presją kult nie mniej efektywnie aniżeli doktryna marksistowska mobilizował społeczeństwo do okazywania poparcia dla radzieckiego reżimu totalitarnego. Kult przywódcy szerzono w tradycyjnym społeczeństwie archaicznym i miał on irracjonalne podstawy, o czym dobitnie świadczyła cała radziecka kultura polityczna. Głównym narzędziem w budowaniu kultu była biurokracja partyjna — rzeczywista klasa rządząca w społeczeństwie radzieckim. Kult zaszczepiano przy pomocy machiny propagandowej i w rezultacie stawał się on religią państwową z własnymi świętymi tekstami, dogmatami, rytuałami, obrzędami, świętami i świętościami. Na rozkaz i pod kontrolą kierownictwa partyjnego obraz charyzmatycznego przywódcy celowo kształtowano przy pomocy środków masowego przekazu, literatury, sztuki oraz placówek oświatowych.

**Słowa kluczowe:** kult Stalina; Białoruś Radziecka; biurokracja partyjna; reżim totalitarny; środki masowego przekazu; literatura; sztuka; jubileusz; religia państwowa.

**Alaksandr Gużałouski** — historyk, muzeolog, pedagog, profesor w Katedrze Etnologii, Muzeologii i Historii Sztuki Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego. Absolwent Mińskiego Państwowego Instytutu Pedagogicznego im. M. Gorkiego (1983), doktorant Wydziału Muzealnictwa Instytutu Naukowo-Badawczego Kultury Akademii Nauk ZSRR w Moskwie (1991). Pracował m.in. w Białoruskim Państwowym Muzeum Historii Wielkiej Wojny Ojczyźnianej, Narodowym Historycznym Muzeum Republiki Białoruś.

**Helena Głogowska**
(Gdańsk)

# Konstanty Kalinowski (Kastuś Kalinouski) w świadomości Białorusinów w Polsce

Postać Konstantego Kalinowskiego, urodzonego w 1838 roku w Mostowlanach, wpisała się w białoruską świadomość narodową jeszcze w latach I wojny światowej, gdy działacze młodego ruchu białoruskiego poszukiwali bohaterów narodowych, by dążenia niepodległościowe osadzić w tradycji historycznej Wielkiego Księstwa Litewskiego i jego spuścizny. Kastuś Kalinouski, przywódca powstania styczniowego na Litwie i Białorusi, stał się jednym z nich, głównie za sprawą nielegalnego pisma w języku białoruskim (pisanego „łacinką") — „Mużyckaja Prauda". Pisał o nim historyk, badacz powstania styczniowego Usiewaład Ihnatouski w pracy „Historyja Biełarusi XIX i paczatku XX stahoddzia" (Miensk 1929). W 1933 roku w Wilnie z okazji 70. rocznicy powstania styczniowego i 15. rocznicy Białoruskiej Republiki Ludowej ks. Adam Stankiewicz wydał książkę pt. „Kastuś Kalinoŭski, „Mużyckaja Praŭda" i ideja niezależnaści Biełarusi". Michaś Maszara i Maksim Tank napisali poematy poświęcone Konstantemu Kalinowskiemu, a Piotr Sierhijewicz namalował portret i obrazy „Kastuś Kalinouski siarod paustancau" i „Kastuś Kalinouski i Walery Wróbleuski na ahladzie addziełau". Po II wojnie światowej postać K. Kalinowskiego znalazła się w podręcznikach do nauki języka białoruskiego w Polsce, pisano o nim w tygodniku Białorusinów w Polsce „Niwa", w „Biełaruskich kalendarach"; był bohaterem utworów literackich, takich jak: „Siarebrany jazdok" („Srebrny jeździec") Sokrata Janowicza, „Aposzni" („Ostatni") Mikołaja Hajduka oraz wierszy Alesia Barskiego i Wiktora Szweda. Jego imieniem nazwano ulicę w Białymstoku, Szkołę Podstawową w Mostowlanach i Dom Kultury w Gródku.

Pamięć o Konstantym Kalinowskim wśród Białorusinów w Polsce w okresie międzywojennym i powojennym wiązała się głównie z pierwszą gazetą białoruską „Mużyckaja Prauda", pisaną „łacinką", i z powstaniem styczniowym. W 1919 roku w wydawanym w Wilnie za zgodą „wajennaj cenzury" i subsydiowanym przez władze polskie czasopiśmie „Biełaruskaje Žyćcio" (pod redakcją Franciszka Olechnowicza) ukazały się artykuły ks. Władysława Tołłoczki „Z minułych polska-biełaruskich adnosin" i „Chto byŭ Konstant Kalinoŭski?". Autor w pierwszym z nich przywołuje postać Konstantego Kalinowskiego, który był „hłaŭnym wajakam u hety čas (1863 rok — przyp. H. G.) za demakratyčnaje adradžeńnie Biełarusi":

„Uściaž čutno ŭ hety čas jaho dužy hołas, klikajučy šlachockuju moładź, kab pracawać pamiž narodam i dla narodu biełaruskaha. Pa jaho inicyjatywie i pad jaho kiraŭnictwam pierakładalisia tady rewalucyjnyja pieśni na biełaruskuju mowu, adčynialisia pačatkowyja škoły, u jakich wučyli pa biełarusku, arhanizawałasia moładź u hramadu, kab apracoŭwać dla naroda zrazumiełyja biełaruskija knižki. 3 maja 1863 h. Rząd Narodowy wydaŭ manifest da Biełaruskaha Naroda (pa biełarusku). (...) Zasnawałasia tady ŭ Biełymstoku tajemnaja biełaruskaja drukarnia, dzie drukawalisia biełaruskija adozwy i časopiś „Mužyckaja Praŭda". (...) Padpiswaŭ jaje sam Kalinoŭski, karystajučysia pseŭdanimam „Jaśka, haspadar z pad Wilni". Zarhanizawanaja polskaja moładź sama pa ŭsim kraju razwaziła hetuju hazetu i adozwy. Kalinoŭski apranuŭsia ŭ biełaruskuju świtku, kab i z uniešniaha pahladu być jaknajbližej biełaruskaha naroda. Haračuju jon napisaŭ adozwu da biełaruskaha naroda, u jakoj razwitajecca z im i z Baćkaŭščynaj pierad swajoj śmierciu z ruki kata na šubienicy. „Biełarusy, braty maje rodnyja", piša Kalinoŭski ŭ swajoj apošniaj adozwie, a dalej zwaračywajecca z hetakimi sławami: „(...) wajuj, Narodzie, za swaje čełaviečaje i narodnaje prawa, za swaju wieru, za swaju ziamlu rodnuju". A jak Kalinoŭski lubiŭ Biełaruś, chaj świedčać hetyja jaho słowy: „Biełaruskaja ziamielka, hałubka maja, hdziež padziełosia ščaście i dola Twaja? (...)"[1]. Ks. Władysław Tołłoczko, przywołując przykład m.in. Konstantego Kalinowskiego, chciałby, aby duch jego świecił tym, „chto choča realizawać supolnaje žyćcio biełarusaŭ z palakami zhodna z kličam: wolnyja z wolnymi, roŭnyja z roŭnymi!"[2].

W następnym numerze w osobnym artykule ks. Władysław Tołłoczko przybliżył postać Konstantego Kalinowskiego, „jaki wielmi lubiŭ biełaruski narod", korzystając z pamiętnika Jakuba Gieysztora. Zwrócił w nim uwagę na szlak życiowy bohatera, poczynając od przyjścia na świat: „Radziŭsia 21 studnia 1838 h. ŭ falwarku Mostoŭlany Jałoŭkoŭskaj parachwii, Wałkawyskaha pawietu, u Horadzienščynie, značycca ŭ zapraŭdnaj Biełarusi"[3]. Pisząc o „Mužyckiej Praudzie", stwierdzał: „Dziŭnaja reč, što ŭ 1863 hodzie biełaruskaja mowa była dla palakaŭ i dobraja, i „wyrobiona", kab joju možna było karystacca tady, jak išło pra narodnuju sprawu"[4].

[1] Ks. U. Tołočka, *Z minułych polska-biełaruskich adnosin*, „Biełaruskaje Žyćcio", 4.08.1919, nr 9, s. 4.

[2] Tamże.

[3] Ks. U. Tołočka, *Chto byŭ Konstant Kalinoŭski*?, „Biełaruskaje Žyćcio", 15.08.1919, nr 10, s. 2.

[4] Tamże, s. 3.

W okresie międzywojennym zwłaszcza, na Grodzieńszczyźnie, żyła pamięć o powstaniu styczniowym i o jego przywódcy Konstantym Kalinowskim. W okolicy Świsłoczy krążyły legendy o bohaterskim „Kastusiu", które zainspirowały Wiktora Kordowicza do zbierania materiałów o nim. Po II wojnie światowej W. Kordowicz ukończył monograficzną pracę „Konstanty Kalinowski" (Warszawa 1955). Dla Białorusinów w II Rzeczypospolitej, podobnie jak i w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Radzieckiej, K. Kalinowski stawał się bohaterem narodowym. W Polsce, zwłaszcza dla Białorusinów katolików, wiązał się z początkami białoruskiego odrodzenia narodowego w drugiej połowie XIX wieku.

8 maja 1930 roku Zarząd Główny Towarzystwa Szkoły Białoruskiej (TSB) z siedzibą w Wilnie zwrócił się do Teodora Seweryna z Mostowlan z propozycją powołania tam szkoły białoruskiej i koła TSB imienia Konstantego Kalinowskiego: „Грамадзяніну Тодару Сэвэрыну вёска Мастаўляны Ваўкавыскага пав. Галоўная Управа Т-ва БШ просіць Вас і ў Вашай асобе ўсё сьвядома грамадзянства вёскі Мастаўляны — Бацькаўшчыну Вялікага Беларускага Народніка Рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага, які за „Мужыцкую праўду" аддаў жыцьцё сваё на Маскоўскай шыбеніцы, — падумаць над тым, каб адчыніць у Мастаўлянах беларускую школу і гурток ТБШ імені Кастуся Каліноўскага. Як гэта сталася, што дасюль Мастаўляны ня маюць ні такога гуртка, ні такой школы. Навокал Мастаўлянаў ёсьць шмат гурткоў ТБШ, нпр. Сьвіслацкі, Дабравольскі, Раманаўскі, Вяліка-Грынкоўскі, Ельцаўскі і др. — усюды ідзе беларуская культурна-асьветная праца. Сьпяць адны Мастаўляны, тыя Мастаўляны, імя якіх залатымі літарамі упісана ў гісторыю Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня і вызваленьня. Сьпяшайцеся грамадзяне. Пішэце ў Галоўную Управу і мы дамо ўсе парады. У Сьвіслачы можыце зьвярнуцца да Пётры Габца, вул. Акапова № 34, у Добрай Волі да Аляксандра Васілёнка, у Раманаўцах да Язэпа Жыўлюка, у Вялікіх Грынках — да Мікалая Шмыгі"[5]. Pismo podpisali przewodniczący TSB Feliks Steckiewicz i sekretarz Ryhor Szyrma. Wynika z niego, że w latach 30. w Mostowlanach nie było zainteresowania ani Konstantym Kalinowskim, ani białoruską działalnością oświatową i narodową.

W okresie międzywojennym inteligencja białoruska skupiona była w Wilnie. Tam istniały instytucje białoruskie, wydawano pisma białoruskie. W mieście tym przy placu na Łukiszkach powieszono Konstantego Kalinowskiego, więc postać ta Białorusinom nie była obojętna, zwłaszcza

[5] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 883, воп. 1, спр. 97, л. 101.

katolikom. W 1933 roku Białoruska Chrześcijańska Demokracja i TSB połączyły dwie ważne rocznice: 15. rocznicę Białoruskiej Republiki Ludowej i 70. rocznicę powstania styczniowego. 25 marca w Sali Litewskiej „Apollo" ks. Adam Stankiewicz wygłosił wykład „Konstanty Kalinowski, „Mużyckaja Prauda" i idea niepodległości Białorusi". Spotkało się to ze sprzeciwem znacznej części białoruskiej społeczności wileńskiej, co znalazło odbicie w białoruskiej prasie: „(...) У той-жа вечар (w sobotę 25 marca — przyp. H. G.) адбылася акадэмія зладжаная беларускай хадэцыяй супольна з ТБШ у літоўскай салі „Апольлё". Хадэкі чамусьці злучылі абход 15-лецьця абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі з нібы-то 70-лецьцем існаваньня беларускае прэсы, прыпісваючы павадыру польскага паўстаньня 1863 году Кастусю Каліноўскаму выдаваньне першае беларускае газэты „Мужыцкая Праўда". Запраўды-ж ніякае газэты Каліноўскі не выдаваў, а друкаваў толькі праклямацыі пад супольным загалоўкам „Мужыцкая Праўда", заклікаючы ў іх беларусаў, каб слухаліся польскага паўстанчага ўраду і ішлі біць расейцаў. Каму патрэбна была гэтая містыфікацыя, — ня ведаем; але, дзякуючы злучэньню абходу незалежнасьці з абходам у чэсьць Каліноўскага, хадэцкая ўрачыстасьць ператварылася ў польска-беларускае яднаньне на грунце асобы супольнага героя Каліноўскага. Прадстаўнік польскага грамадзянства гр. Выслоух у сваей прамове заклікаў сабраных на ўрачыстасьці, каб ішлі па сьлядох Каліноўскага да будаваньня польска-беларускае фэдэрацыі"[6]. Referat ks. Adama Stankiewicza został opublikowany przez Białoruski Komitet Narodowy w postaci osobnej broszury[7]. Zaczyna się ona „Listem spod szubienicy" Konstantego Kalinowskiego:

*„Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе,*
*І часам спамяні пра Яська твайго,*
*Што загінуў за праўду для дабра твайго!*
*А калі слова пяройдзе ў дзела,*
*Тады за праўду станавіся сьмела,*
*Бо адно праўдай, у грамадзе згодна,*
*Дажджэш, Народзе, старасьці свабодна...*
*А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,*
*То я з таго сьвету табе адазвуся"*[8].

[6] *З Беларускага жыцьця. У Вільні*, „Родны край", 8.04.1933, nr 8, s. 5.

[7] A. Stankiewič, *Kastuś Kalinoŭski, „Mužyckaja Praŭda" i ideja Niezaležnaści Biełarusi*, Wilnia 1933.

[8] А. Станкевіч, *Кастусь Каліноўскі „Мужыцкая праўда" і ідэя незалежнасьці*

Ks. Adam Stankiewicz, przywołując te słowa, wskazał na ideowy związek między datą 25 marca 1918 roku i pracą Konstantego Kalinowskiego w latach 1862-1863: „Словамі, якія зьмешчаны на пачатку гэтай працы, слаўны народны барацьбіт наш Кастусь Каліноўскі разьвітваўся зь беларускім народам у адным з прадсьмертных сваіх лістоў, пісаных у астрозе незадоўга перад сваёй сьмерцяй. У пісьме гэтым, як бачым, Каліноўскі жадае, каб беларускі народ, за які хутка меў ён злажыць жыцьцё сваё, помніў аб ім, за што з свайго боку прыракае такжа аб гэтым народзе помніць і нават адгукнуцца з таго сьвету. Прадсьмертную волю вялікага барацьбіта нашага, сьвяткуючы ўрачыста гэты юбілей, спаўняем як належыцца. Сяньня сьвяткуем 15-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, а разам з гэтым і 70-я ўгодкі першай беларускай часопісі „Мужыцкая праўда", рэдактарам і выдаўцом якой быў Кастусь Каліноўскі. Лучачы гэтыя два юбілеі ў адзін і разам іх сяньня сьвяткуючы, ні аднаго зь іх не памяншаем, а, наадварот, павялічваем, бо допаўняем. Тое ўсё, чаго сваей працай агулам, а перадусім „Мужыцкай праўдай", а такжа і сьмерцяй сваей даканаў К. Каліноўскі для беларускага народу семдзесят гадоў таму, змагаючыся за волю і долю гэтага народу, — акт абвешчання незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. падабраў, згарнуў у цэласьць, прыкрасіў, дапоўніў і выразіў як яўную — ужо сучасную — волю беларускага народу да вольнага і самастойнага жыцьця. Словам, зярнё, якое на беларускай грамадзка-палітычнай ніве пасеяў Каліноўскі, акт 25 сакавіка 1918 г. зжаў, карыстаючыся пладом гэнага зярняці для сяўбы далейшай. Як бачым, сапраўды між пятнаццатымі ўгодкамі абвешчаньня Беларусі незалежнай і між 70-мі ўгодкамі „Мужыцкай праўды" існуе ідэёвая лучнасьць"[9].

Ks. Adam Stankiewicz przedstawił zainteresowanie Konstantym Kalinowskim w nauce polskiej, rosyjskiej i białoruskiej: „Вось жа ў гісторыі польскай і расейскай Каліноўскі прадстаўлены звычайна або як „самолюбивый безумный мятежник", або як „polski bohater narodowy o krańcowych nieco poglądach". (...) Прыйшоў урэшце такжа час, калі, як бы спаўняючы прадсьмертную волю Каліноўскага, успомніла аб ім і беларуская навука. Беларускія вучоныя, як праф. Ігнатоўскі, зь няпамяці, з шматлетніх плесьняў на сьвятло дзённае пачалі выдабываць слаўную

*Беларусі (Рэфэрат, прачытаны на ўрачыстай акадэміі 25 сакавіка 1933 г., з прычыны 15-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі і 70-ых угодкаў беларускай прэсы)*, [w:] А. Станкевіч, *З Богам да Беларусі. Збор твораў*, Вільня 2008, s. 216.

[9] Tamże, s. 216-217.

асобу нашага народнага героя Каліноўскага. Дзякуючы беларускай навуцы, асоба яго стала папулярызавацца, весткі аб ім сталі пранікаць у народныя гушчы, асабліва ж у душы беларускай моладзі. У Менску ў беларускай сцэнічнай літаратуры паявілася нават драма „Кастусь Каліноўскі", якая нескалькі гадоў таму была ўлюбёнай п'есай Менскага беларускага тэатру. Словам, памяць аб слаўным Каліноўскім сапраўды аджыла ў нас. Зацікаўленьне ім паўстала значнае, асабліва ў гэтых гадох, калі выпалі 70-я ўгодкі „Мужыцкай праўды" і калі ў будучым годзе прыпадаюць такжа 70-я ўгодкі казьні ягонай. Сяньня ў беларусаў аб Каліноўскім, калі яшчэ не стварылася цалком, дык творыцца — нават у навуцы — легэнда як аб барацьбіце за незалежнасьць Беларусі, і прытым у сучасным разуменьні. (...) сапраўднае месца Каліноўскага ў навуцы належна не абазначана дагэтуль ня толькі ў палякаў і расейцаў, што ёсьць цалком натуральным, але такжа і ў нас, беларусаў. Даканаць гэтага павінна навука беларуская. Так, Каліноўскі — гэта сапраўдны беларускі самастойнік, але свайго часу, і маладой беларускай навуцы належа спакойна і вытрывала разьясьніць сутнасьць гэтай яго самастойніцкай ідэі, яе граніцы, тэрыторыю, на якой ідэалы свае жадаў зьдзейсьніць, і, урэшце, варункі, у якіх ён жыў і працаваў, бо за семдзесят гадоў, якія аддзяляюць нас ад таго часу, калі жыў Каліноўскі, у жыцьці нашага народу, а такжа і ў нашым паняцьці, шмат зьмянілася. Вось жа, маючы гэта ўсё на памяці, насколькі пазваляюць мне цесныя рамкі гэтага рэфэрату і ўрачыстасьць сяньняшняга дня, складаю я аб Каліноўскім і яго працы свае ўвагі. І калі б гэта праца мая ў беларускай — ды і не беларускай — навуцы выклікала большае зацікаўленьне гэнай слаўнай асобай, паглыбляючы аб ёй веду, і калі б узбудзіла ўдзячнасьць для яе ў нашым народзе, я ўважаў бы, што дапяў сваей мэты"[10].

Ks. Adam Stankiewicz zebrał dostępne wówczas dokumenty, wspomnienia i opracowania. Na podstawie metryki chrztu ustalił, że miał on podwójne imię: Wincenty Konstanty: „Дарэчы будзе тут адзначыць, што Каліноўскі, як гэта відаць з мэтрыкі, зваўся двайным імем: Вінцэнты Канстанты, і што сам ён сябе зваў і падпісваў як Вінцэнты, а ў гісторыі бадай выключна ведамы як Канстанты"[11].

Zwracał uwagę na znaczenie pisemek „Mużyckaja Prauda" dla Białorusinów: „Значэньне „Мужыцкай праўды" для беларусаў сапраўды вялікае. Гэта першая газэтка, якая была пісана па-беларуску і якая будзіла народ наш да вольнасьці сацыяльнай і нацыянальнай"[12].

[10] Tamże, s. 217-218.
[11] Tamże, s. 220.
[12] Tamże, s. 226.

Ks. Adam Stankiewicz określił narodowość Konstantego Kalinowskiego jako białoruską: „Кастусь Каліноўскі, як гэта відаць зь яго друкаў, быў, безумоўна, згодна з духам свайго часу, сьведамым беларусам і вёў барацьбу за самастойнасьць беларускага народу, але ў рамках польскай фэдэрацыі, якую ён разумеў як вольны саюз вольных народаў. Аднак сярод многіх польскіх дасьледчыкаў мінуўшчыны нашага краю і сярод польскага грамадзянства ўцёрлася праканаsuccessfully, што К. Каліноўскі беларусам ня быў, ня меў ніякіх палітычных плянаў агульнапольскіх, і ня бачыў ніякай розьніцы між палякамі з Польшчы і беларусамі ў гістарычнай Літве”[13]. Udowadniał, że nie jest Polakiem we współczesnym znaczeniu tego słowa: „Каліноўскі (...) нідзе сваей польскасьці не высоўвае, а, наадварот, высоўвае асобнасьць нашага краю ад Польшчы, калі кажа, што польскае паўстаньне ня брала пад увагу інтарэсаў Літвы (знача, такжа і Беларусі), што Літва цьверазейшая ад Польшчы і што дзеля гэтага край наш не хацеў ісьці на паўстаньне, што ўрад расейскі ня мае спачуцьця ў сэрцах літоўцаў (знача, і беларусаў), і агулам Каліноўскі яўна процістаўляе Польшчы край наш, не як польскую правінцыю якую, але як цалком асобны край з асобнымі ад палякаў народамі, які, аднак, з Польшчай гісторыя сапраўды лучыла, асабліва яшчэ ў той час, многімі вузламі. (...) Словам, ніякіх падстаў няма лічыць К. Каліноўскага палякам, а ўсё прамаўляе за тым, што ён беларус, бо ён сапраўды такім быў”[14].

Ks. Adam Stankiewicz nazwał go bojownikiem o samodzielność polityczną Białorusi i Litwy. Udowadniał to stanowisko, przytaczając wspomnienia Jakuba Gieysztora, w których autor określa Konstantego Kalinowskiego jako separatystę[15]. Przytoczył też „Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России, Вильна 1867, s. 185) Wasyla Ratcza: „Каліноўскі з настроем герцэнаўскай школы, на чале самалюбных асобаў з чырвоных літвінаў, стойка праводзіў ідэю самастойнасьці Літвы”[16].

Nawiązując do aktu o niepodległości Białorusi z 25 marca 1918 ks. Adam Stankiewicz uważał go za dziedzictwo Konstantego Kalinowskiego: „У акце 25 сакавіка 1918 г. аказаўся нам узноў Каліноўскі, ягоныя ідэалы ўваскрэсьлі ўва ўсей сваей красе. Уваскрэсьлі яны з большай ужо сілай, у шырэйшых ужо рамках”[17]. Nawoływał jednocześnie do pracy na

[13] Tamże, s. 229.
[14] Tamże, s. 231.
[15] Tamże.
[16] Tamże, s. 232.
[17] Tamże, s. 235.

rzecz narodu: „Адно толькі больш любові і веры да народу і ахвярнай працы над ім, з народам для народу, як рабіў Каліноўскі, а тады — закончу яго ж словамі — здабудзем такую вольнасьць у нашай бацькаўшчыне, якой ані нашы бацькі, ані нашы дзяды ня бачылі"[18].

Ukazanie się opatrzonej w bogatą bibliografię broszury ks. Adama Stankiewicza spotkało się z krytycznymi uwagami na temat narodowości K. Kalinowskiego, m.in. krajowców, a doceniano wykorzystanie w niej wszystkich dostępnych materiałów: „Referat pod powyższym tytułem, który ks. Adam Stankiewicz wygłosił w roku bieżącym na obchodzie 15-lecia ogłoszenia niepodległości Białorusi, ukazał się obecnie w druku. Daje to możność zapoznania się dokładniejszego z wywodami prelegenta, względnie autora pomienionego szkicu historycznego. Przede wszystkiem należy podkreślić, że ks. Stankiewicz wyzyskał sumiennie wszystkie dostępne źródła do swej pracy. Czy zaś jego kategoryczna konkluzja, że słynny powstaniec, zwany „dyktatorem Litwy" był świadomym Białorusinem, a wydawana przezeń „Mużyckaja Prauda" może być uważana za pierwsze pismo białoruskie — jest słuszna, to inna rzecz. Na ten temat możnaby się spierać, że Konstanty Kalinowski był szczerym ludowcem, że mając do czynienia z ludnością białoruską pisał i agitował w języku białoruskim, że wreszcie był zdecydowanym przeciwnikiem polityki centralistycznej Warszawy — to nie ulega wątpliwości, ale to jeszcze nie dosyć, by go uważać za szermierza ideałów narodowych białoruskich. Postać Kalinowskiego nie jest dotychczas należycie oświetlona przez historyków. Wątpić można, aby to nawet kiedykolwiek nastąpiło wskutek braku dostatecznych źródeł. Zwykły to los działaczy konspiracyjnych. Relacje pamiętnikarskie (do których należy zaliczyć również „Historię powstania" A. Gillera) z natury rzeczy muszą być traktowane z wielkim krytycyzmem i wymagają sprawdzenia i uzupełnienia przez inne materiały (listy, dokumenty i t. p.), a tych właśnie brak. Wskutek tego w charakterystykach Kalinowskiego będą zawsze panowały dowolność i subiektywizm. Uważam zresztą, że zastanawianie się nad narodowością Kalinowskiego jest poniekąd kwestją akademicką. Ponieważ w owym czasie ruch narodowy białoruski jeszcze nie istniał, nie mogło więc być mowy o świadomych Białorusinach, z pochodzenia zaś i kultury Kalinowski należał do środowiska szlachecko-polskiego. Wystarczy stwierdzić, że Konstanty Kalinowski był konsekwentnym rewolucjonistą — ludowcem, wyznawcą ideałów demokratycznych i federacyjnych, obrońcą tradycyj W. Ks. Litewskiego, może być uważany przeto raczej za przedstawiciela typowego ideologii krajowej, niż za bohatera narodowego

[18] Tamże, s. 236.

białoruskiego. Również mam pewne wątpliwości, czy „Mużyckaju Praudu” można uważać za pierwsze czasopismo białoruskie. Wprawdzie ulotki pod tym tytułem były numerowane (Nr.Nr. 1-7), z treści jednak były to tylko odezwy agitacyjne i nie miały zupełnie charakteru periodyków. Ale jest to kwestja natury czysto formalnej i mająca znaczenie jedynie dla bibliografów. Powyższe zastrzeżenia nie pomniejszają w niczym wartości pracy ks. A. Stankiewicza. Bądź co bądź jest to pierwszy obszerniejszy życiorys najwybitniejszego powstańca z 1863 roku, w którym zostały uwzględnione wszystkie dotychczasowe o nim dane biograficzne. Cenną zwłaszcza jest zamieszczona bibljografja, zawierająca wszystkie materiały drukowane i rękopiśmienne, dotyczące pośrednio lub bezpośrednio osoby Konstantego Kalinowskiego i jego działalności rewolucyjnej”[19].

Od 1933 roku nastąpiło wyraźne zainteresowanie Konstantym Kalinowskim wśród inteligencji białoruskiej w Polsce. W 1934 roku z okazji 70. rocznicy śmierci Konstantego Kalinowskiego ks. Adam Stankiewicz pisał: „У мінулым 1934 г. прайшло 70 гадоў ад сьмерці слаўнага барацьбіта за вызваленьне зямель быўшага Вял. Кн. Літоўскага з пад маскоўскага панаваньня, Кастуся Каліноўскага, з імем якога зьвязаны першы ў беларускай мове рэвалюцыйна-вызвольны часапіс „Mužyckaja Prauda”[20].

Postać ta stała się też przedmiotem zainteresowania białoruskich twórców — poetów i malarzy. W 1934 roku z okazji 70. rocznicy śmierci Konstantego Kalinowskiego młody białoruski poeta Michaś Maszara napisał i wydał poemat „Śmierć Kastusia Kalinoŭskaha”, który w 1935 roku w czasopiśmie „Kałośsie” zrecenzował młody białoruski krytyk literacki Stanisław Stankiewicz[21]. W 1938 roku Maksim Tank także w tym piśmie opublikował swój poemat „Kalinoŭski”[22]. Piotr Sierhijewicz namalował portret Konstantego Kalinowskiego, który na osobnej wklejce również ukazał się w czasopiśmie „Kałośsie” w 1936 roku przy artykule o artyście z okazji pierwszej indywidualnej wystawy jego prac w Wilnie[23]. Ks. Adam Stankiewicz, recenzując jego prace, szczególną uwagę zwrócił na jego obraz „Kalinoŭski”: „Абразом гістарычнага зьместу, узорам эпіцкага творства, вобак з „Усеславам” зьяўляецца „Каліноўскі”, абраз размерамі

19 Rec. a. [Abramowicz Ludwik?], „Przegląd Wileński”, 15.10.1933, nr 17, s. 8.

20 Ад. Станкевіч, *„Mužyckaja Prauda” i „Гомон”*, „Калосьсе”, 1935, nr 1, s. 34.

21 „Калосьсе”, 1935, nr 1.

22 „Калосьсе”, 1938, nr 1, s. 1-8.

23 Ад. Станкевіч, *Зацемкі аб П. Сергіевічу і яго творстве (з нагоды выстаўкі рысункаў і малярства)*, „Калосьсе”, 1936, nr 1, s. 44-46; П. Сергіевіч, *Кастусь Каліноўскі*, „Калосьсе”, 1936, nr 1, wklejka między s. 24 i 25.

найбольшы за ўсе іншыя, яшчэ крыху нявыканчаны. — Лес. Грамада сялян. Пасярэдзіне К. Каліноўскі — у сьвітцы, малады, энэргічны, з агнем у вачах прамаўляе аб патрэбе барацьбы з царом. Гледзячы на гэты абраз, здаецца чуеш, як слаўны „Дыктатар Літвы" ў беларускай мове граміць царскую тыранію над Краем, заклікае сялян да барацьбы за зямлю й волю, як прадстаўляе сьветлы ідэал незалежнасьці „Вялікага Літоўскага Княства", у якім усе народы будуць вольныя, шчасьлівыя, у якім будзе панаваць праўда і справядлівасьць"[24]. W autobiografii, pisanej w 1960 roku, Piotr Sierhijewicz wspominał: „Найбольш працаваў над гістарычнай тэмай паўстання 1863 г. і аб Кастую Каліноўскім. Гэтая тэма мяне зацікавіла яшчэ ў 1933 годзе, калі адзначалі 70-годдзе паўстання. Пісаліся беларускія паэмы і вершы аб паўстанні, чыталіся лекцыі аб гераічных і ахвярных паўстанцах, асвятлялася палымяная постаць змагара Кастуся Каліноўскага. Захапіўся і я маляваць не гэту тэму. Не маючы яшчэ добрай падрыхтоўкі па кампазіцы, не ўдалася мне карціна. Доўгае шуканне і праца над тыпажом, паездкі ў Маскву і Ленінград наведаць музеі і галерэі ўзбагацілі маё паняцце аб кампазіцыі. У 1952 годзе вярнуўся я да ўспомненай тэмы, тры гады маляваў карціну „Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 года". Мае таварышы мастакі казалі: нічога не будзе, не намалюеш Каліноўскага, але калі кончыў карціну і прынёс яе на выстаўку, віншавалі мяне з поспехам. Ужо думаў, што закончыў з гісторыяй 1863 года. Але два гады пазней пабачыў ясна сюжэт на гэтую ж тэму па-новаму і намаляваў другі абраз „К. Каліноўскі і В. Врублеўскі робяць агляд паўстанцаў 1863 года"[25].

Przed II wojną światową dla Białorusinów w Polsce, zwłaszcza dla młodego pokolenia białoruskiej inteligencji, Konstanty Kalinowski jawił się jako symbol walki o prawa Białorusinów i o białoruską niepodległość[26]. Wraz z wybuchem wojny nie przestał nim być nadal. Jego postać zajęła znaczące miejsce w historii Białorusi i na łamach prasy, w tym białostockiej „Nowaj Darohi".

Jazep Najdziuk, rodem z Grodzieńszczyzny, autor historii Białorusi „Biełaruś uczora i siannia", wydanej w Mińsku w 1943 roku, tak pisał w niej o Konstantym Kalinowskim: „(...) скончыўшы унівэрсытэт, горача ўзяўся за працу на роднай беларускай ніве. Апрануўшы вясковую саматканую сьвітку, Каліноўскі вандраваў па роднай Гарадзеншчыне ад вёскі да вёскі, будзіў народ, усьведамляў яго ў патрэбе змаганьня

[24] Ад. Станкевіч, *Зацемкі аб П. Сергіевічу*, s. 45.
[25] С. Сергіевіч, *Чуюся ў сіле творчага пад'ёму*, „Ніва", 13.08.2000, nr 33, s. 10.

з царызмам і панамі, якія няволілі сялянства і ўвесь беларускі край. Ён заклікаў да працы над адраджэньнем беларускае культуры і беларускага гаспадарства”[27]. W historii zamieszczono ilustrację, przedstawiającą Konstantego Kalinowskiego[28]. W wydanej w 2010 roku, a pisanej na początku lat 80. XX wieku wznowionej historii jej autor powstaniu styczniowemu i walce Konstantego Kalinowskiego o niepodległość Białorusi poświęcił osobny rozdział[29].

Na Białostocczyznę, gdzie przed II wojną światową nie ukazywały się osobne pisma białoruskie, białoruskojęzyczne czasopisma trafiały z Wilna. Pod okupacją niemiecką w Białymstoku istniał Komitet Białoruski, przy którym wydawano gazetę białoruską „Nowaja Daroha”. Redagował ją białoruski poeta i historyk Teodor Iljaszewicz. W 1942 roku ukazał się w niej artykuł z okazji 80-lecia prasy białoruskiej, w którym pisano: „80 гадоў таму назад, у ліпені 1862 г., у Беластоку выйшла першая беларуская (нелегальная) газэта „Мужыцкая Праўда”. Выдаў яе вядомы змагар за волю Беларускага Народу — Кастусь Каліноўскі, сам паходзіўшы з Мастаўлян, Ялаўскай воласьці, Ваўкавыскага павету. Кастусь Каліноўскі першы падняў сьцяг нацыянальнага змаганьня і заклікаў беларускі народ „ваяваць за свайго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчыну”. Кастусь Каліноўскі першы паказаў сваёй працай і жыцьцём, як трэба жыць і ўміраць за свой народ. Як вядома, за ўдзел у паўстаньні 1863 г. супроць Масквы, у якім Каліноўскі адыгрываў у Беларусі выдатную ролю й быў фактычным дыктатарам паўстанцкай акцыі, ён быў арыштаваны й, урэшце, павешаны 10.III. (ст. ст.) 1864 г. на Лукішскім пляцы ў Вільні. Кастусь Каліноўскі разумеў, якое значэньне ў яго дзейнасьці мае друкаванае слова. Таму ён у палове ліпеня 1862 г. пачаў выдаваць нелегальна беларускую газэту пад назовам „Мужыцкая Праўда”. Выйшла яе ўсяго сем нумароў. Навонкі газэта выглядала вельмі скромна. Ня гледзячы на тое газэта пашыралася сярод беларускага сялянства ў Берасьцейшчыне, Горадзеншчыне, Дзісеншчыне й па іншых кутках Беларусі. „Мужыцкая Праўда” Кастуся Каліноўскага, ня гледзячы на нядоўгае існаваньне й скромны выгляд, (а пісаў яе, з увагі на нелегальнасьць, сам К. Ка-

[26] Patrz: M., *K. Kalinoŭski — pieršy zmahar za Biełaruś*, „25 сакавіка”, 1938, nr 1 (3), s. 11-13.

[27] Я. Найдзюк, *Беларусь учора і сяньня*, Менск 1943, s. 127.

[28] Tamże, s. 130.

[29] J. Najdziuk, *Paznavajma historyju biełaruskaha narodu*, Biełastok — Inaurocłau 2010, s. 117-123: rozdział *Paŭstańnie 1863 h. i zmahańnie Kastusia Kalinoŭskaha za niezaležnaść Biełarusi*.

ліноўскі) — гэта першая беларуская газэта. Іншай газэты ў тых умовах і абставінах тады быць не магло. Пасьля „Мужыцкае Праўды” паўстае цэлы рад нелегальных беларускіх часопісаў, бо хутка пасьля паўстаньня 1863 г. быў забаронены беларускі друк. Узнаўленьне легальнага беларускага друку мы маем аж у пачатку XX сталецьця, калі ў 1906 г. выходзіць „Наша Доля”, а пасьля „Наша Ніва”. Значэньне Кастуся Каліноўскага (калі разглядаць яго з пункту гледжаньня далейшага разьвіцьця беларускае прэсы) ня толькі ў тым, што ён даў пачатак беларускай прэсе. Перадусім ён зьяўляецца сымбалем для ўсіх працуючых у беларускай прэсе й журналістыцы — сымбалем чэснага й вернага служэньня справе свайго народу. Для яго друкаванае слова ня было самамэтай, а было аружжам у яго працы. Вось гэты варунак павінна спаўняць сапраўды беларуская прэса. Прэса для нас зьяўляецца вялікім аружжам, нязмянімым сродкам у нацыянальным і палітычным узгадаваньні нашага народу. Таму кожны працаўнік прэсы павінен да сваёй працы адносіцца з як найбольшай самакрытыкай і чуць адказнасьць за кожнае сваё слова. Для кожнага працаўніка беларускае прэсы постаць яе пачынальніка Кастуся Каліноўскага павінна быць прыкладам крыштальнае сумленнасьці, шчырасьці й адданасьці справе свайго народу. (...) Прэса павінна быць тым аружжам, якое мабілізуе ўсе нашыя народныя сілы для супольнага нацыянальна-народнага высілку. Гэта ў сваім часе разумеў Кастусь Каліноўскі, які жыў у зусім іншых умовах, як мы. Тады беларускі дух яшчэ драмаў у нетрах сялянскіх масаў. Кастусь Каліноўскі быў першым з тых, хто яго пачаў будзіць да жыцьця. Цяпер беларускі рух шырокай хваляй разьліўся па нашай Бацькаўшчыне. Нашыя заданьні лягчэй выпаўняць”[30].

Pisząc na łamach gazety „Nowaja Daroha” o białoruskim ruchu narodowym na Grodzieńszczyźnie, Grodno uznano za jeden z najstarszych jego ośrodków ze względu na działalność w nim Konstantego Kalinowskiego: „Горадня ўважаецца за адзін з найстарэйшых цэнтраў беларускага адраджэнскага руху. І зусім слушна. Яшчэ падчас паўстаньня 1862 году Горадня была сядзібай Кастуся Каліноўскага, які да пакліканьня яго на становішча дыктатара Беларусі й Літвы быў горадзенскім ваяводай. Тут крысталізавалася яго сэпаратыстычная думка, тут адбываў ён нарады із сваімі прыхільнікамі й аднадумцамі, тут снаваліся пляны поўнага аддзяленьня паўстанчага руху ў Беларусі з-пад уплываў польскага Ураду й адраджэньня незалежнасьці Вялікага Князьства.

[30] *80-лецьце беларускае прэсы*, „Новая Дарога”, 9.08.1942, nr 20, s. 3.

Дзякуючы беспасярэдняму кіраўніцтву паўстаньнем ў Горадзеншчыне праз К. Каліноўскага, рух гэты прыняў тут больш выразны, чым у іншых землях, беларускі характар. Пашыраныя тут у вялікай колькасьці экзэмпляры „Мужыцкай Праўды" і іншых выданьняў у беларускай мове, умацоўвалі ў шырокіх масах беларускага сялянства й дробнай шляхты сьведамасьць нацыянальнай адасобленасьці. Гэта спрычынілася да таго, што распачаты Каліноўскім рух, пасьля таго як паўстаньне было здушана, не загінуў, а паўстанчыя традыцыі і ідэя беларускага сэпаратызму перахоўвалася тут яшчэ доўгія гады, аж пакуль не дакацілася сюды новая ажыўляючая хваля нацыянальна-асьвядамляючай дзейнасьці Францішка Багушэвіча і Браніслава Эпімах-Шыпілы"[31].

Do wątku „Mużyckiej Praudy" i Konstantego Kalinowskiego powracano na łamach gazety przy różnych okazjach, bowiem pasował on do kontekstu białoruskiej działalności wydawniczej na Białostocczyźnie: „Беластоцкая акруга адыграла не малую ролю ў гісторыі беларускай адраджэнскай прэсы ня толькі таму, што ў Беластоку нарадзілася першая беларуская газэта „Мужыцкая Праўда" (1863 г.) але і таму, што й пазьней яна займала адно з відных месц у разьвіцьці беларускага друку. „Мужыкая Праўда" была ўжо прадметам абшырнейшых публікацыяў, — таму на гэтым месцы мы толькі ўспомнім, што гэтая нелегальная газэта выдавалася правадыром паўстанчага руху на Беларусі Кастусём Каліноўскім, які сам запаўняў яе зьмест. Выходзіла лістоўкай малога фармату й друкавалася лацінкай. Пашыралася газэта сярод сялянства"[32].

Wiosną 1944 roku wspominano bohaterską śmierć Konstantego Kalinowskiego: „Сёлета, 24 сакавіка, мінае 80 гадоў ад дня гераічнай сьмерці беларускага рэвалюцыянера, актыўнага змагара з расейскім царызмам, аўтара „Мужыцкай Праўды", першай патаемнай баявой газэты, што выдавалася ў Беластоку, — Кастуся Каліноўскага. (...) Хваля гэтага рамантызму й нацыянальнага адраджэньня дакацілася ў палавіне мінулага веку й да нас і памагла выдатна ў палітычным асьведамленьні Беларускага Народу. Гадунцом настрояў гэтай пары і быў Кастусь Каліноўскі, рэдактар „Мужыцкай Праўды". Паходзіў ён з фольварку Мастаўлян, Ваўкавыскага павету. Бацька быў ткачом. Малады Кастусь канчае ў 1855 г. прогімназію ў Сьвіслачы й едзе вучыцца ў унівэрсытэт, спачатку ў Маскву, а пасьля на юрыдычны факультэт у Пецярбург, які скончыў у 1860 г. З Пецярбургу варочаецца ён на Бацькаўшчыну і адразу пачынае равалюцыйную працу. (...) Так

[31] Ул. Крынскі, *Адраджэнскі рух у Горадзеншчыне*, „Новая Дарога", 6.09.1942, nr 24, s. 4.

ахвярна закончыў сваё маладое жыцьцё сын сяньняшняй Беластоцкай зямлі, барацьбіт за волю новай, адраджаючайся з прыгоннага сну Беларусі, першы барацьбіт за „народную праўду”. Асоба Кастуся Каліноўскага, безкампраміснага змагара з расейскім імпэрыялізмам, (...) у пару новага змаганьня з прагавітаю Масквой за нашу Радзіму, вырастае ў сымбаль гераічнага чыну і гераічнай сьмерці за волю Бацькаўшчыны”[33]. Jakby w odpowiedzi na propagandę „Nowaj Darohi” działający od 1943 roku oddział partyzantki radzieckiej na Białostocczyźnie w okolicach Gródka obrał sobie za patrona Konstantego Kalinowskiego[34].

Po II wojnie światowej w zmienionych granicach Białorusini, którzy pozostali w Polsce, w tym na swych etnicznych ziemiach na Białostocczyźnie, do 1956 roku nie mieli możliwości prowadzenia działalności społecznej i wydawniczej. Dopiero powstanie Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego i tygodnika białoruskiego „Niwa” stworzyło szanse na tego rodzaju aktywność. W odrodzonej działalności poszukiwano wzorców do naśladowania, nawiązywano do tradycji historycznej. W 1957 roku w „Niwie” ukazał się artykuł ówczesnego nauczyciela w Siedliskach pod Giżyckiem — Franciszka Biernikowicza (ur. 21.10.1919 Warancy pow. dziśnieński — zm. 25.08.2003 Giżycko). Przypomniał on o zbliżających się rocznicach urodzin i śmierci Konstantego Kalinowskiego: „Надыходзяць вялікія ўгодкі нарадзін і смерці Кастуся Каліноўскага. Уся яго дзейнасць ад пачатку да канца служыла інтарэсам беларускага народу і таму імя Кастуся Каліноўскага, вялікага нашага рэвалюцыянера — дэмакрата дарагое кожнаму беларусу. Тым больш дарагі ён нам, беларусам — жыхарам Беластоцкай зямлі, дзе правёў ён свае маладыя годы і пачаткі грамадска-палітычнай дзейнасці. Кожны культурны народ ушаноўвае памяць сваіх лепшых сыноў. Робяць гэта палякі, робяць гэта і іншыя народы. Ці можам мы, беларусы, не памятаць аб сваім героі і не ўшанаваць яго памяці? Хіба не! У сучасны момант ходзяць чуткі аб тым, што Галоўнае Праўленне БГ-КТ выступіла да дзяржаўных устаноў з просьбай пабудавання помніка Кастусю Каліноўскаму. Ініцыятыва вельмі цэнная, я аднак выражаючы свае собскія погляды адношуся да гэтай справы з песімізмам. Не таму, што не веру ў добрыя адносіны нашых дзяржаўных устаноў да беларускай справы ў Польшчы, а перш за ўсё таму, што наша дзяржава знаходзіцца ў цяжкіх эканамічных абставінах. Думаю, што прыдзе яна заўсёды

32 *Беларуская прэса ў Беласточчыне*, „Новая Дарога”, 13.02.1944, nr 7, s. 3.
33 А. Явар, *Каліноўскі*, „Новая Дарога”, 19.03.1944, nr 12, s. 3.
34 А. Амільяновіч, *Імя Каліноўскага*, „Ніва”,7.06.1964, nr 23, s. 5.

нам з помачу, калі мы, беларусы ўложым свой уклад у гэту справу. Ініцыятыва павінна выйсці ад нас не толькі ў слове, але і ў дзейнасці. Выражаючы гэты погляд, высоўваю пад адрасам ГП БГ-КТ наступную прапанову: 1. Паклікаць з актыўных дзеячоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства камітэт абходу 125-гадавіны нарадзін і сотай гадавіны з дня смерці Кастуся Каліноўскага. 2. Змабілізаваць усю беларускую інтэлігенцыю да гэтай справы. Адносна працы вышэй прапанаванага камітэта лічу патрэбным: 1. Утварыць спецыяльны фонд на пабудову ў Беластоку помніка Кастусю Каліноўскаму. 2. Выступіць да Беластоцкай Ваяводскай рады з просьбай выдзялення адпаведнай плошчы пад гэтую пабудову. 3. У рамках існуючага Выдавецкага фонда пачаць працу над выданнем збору пісьмовай дзейнасці Кастуся Каліноўскага. 4. Аб'явіць конкурс на навуковую працу на беларускай мове аб Кастусю Каліноўскім. Можа некаторыя скажуць, што гэта задача не на нашы сілы. Дадуць прыклад нездавальняючай зборкі на існуючы Выдавецкі фонд. (...) Беларускім дзеячам жадаю верыць у свае сілы і паставіць на высокім арганізацыйным узроўню гэтую справу. У такіх абставінах наша ініцыятыва напэўна будзе падтрымана і ўстановамі, і нашай дзяржавай"[35].

Jesienią 1957 roku młody dziennikarz „Niwy" Sokrat Janowicz odwiedził w Wilnie Piotra Sierhijewicza, który w rozmowie z nim nawiązał do zainteresowania Konstantym Kalinowskim: „хачу яшчэ дапрацаваць партрэт Кастуся Каліноўскага"[36]. Sokrat Janowicz informował czytelników, że w Litewskim Republikańskim Muzeum Sztuki znajduje się wielkie płótno „Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў", zaś drugi wariant tej kompozycji znajduje się w Grodzieńskim Obwodowym Muzeum Krajoznawczym[37]. Przy tym artykule zamieszczono reprodukcję obrazu „Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў" z komentarzem: „Ці часам гэта не ў Перацёскіх лясах легендарны «Дыктатар Беларусі і Літвы» выступае з прамовай да сваіх жаўнераў?"[38].

Na początku stycznia 1958 roku w „Niwie" przypomniano o rocznicach urodzin Konstantego Kalinowskiego i wybuchu powstania styczniowego: „Месяц студзень мае асаблівую вагу для беларусаў. У гэтым месяцы (21-га) мінае 120 год з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, тым больш, што ў гэтым месяцы (22-га) адзначаем 95-ую гадавіну выбуху

[35] Фр. Берніковіч, *Дастойна ўшанаваць памяць Кастуся Каліноўскага*, „Ніва", 15.09.1957, nr 37, s. 5.

[36] С. Яновіч, *У Пятра Сергіевіча*, „Ніва", 13.10.1957, nr 41, s. 3.

[37] Tamże.

[38] Tamże.

Студзеньскага паўстання, у якім Кастусь Каліноўскі адыграў выдатную ролю”[39].

W styczniu 1958 roku powołano Komitet Budowy Pomnika Konstantego Kalinowskiego. 20 stycznia odbyło się organizacyjne posiedzenie Komitetu. Na łamach „Niwy” relacjonowano jego przebieg: „прыйшлі прадстаўнікі навукі, культуры, ваяводскіх улад, палітычных арганізацыяў і грамадскія дзеячы. Паседжанне адкрыў старшыня Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку — Станіслаў Юхніцкі. Настаў час — каб грамадскасць Беласточчыны ўвекавечніла памяць нашага выдатнага земляка — героя беларускага і польскага народаў, які ўзняў барацьбу супраць царызма „за нашу і вашу вольнасць”. З цікавым дакладам на тэму дзейнасці Кастуся Каліноўскага выступіў пісьменнік Юзэф Кавальскі. Пасля даклада ўзніклі спрэчкі — як найлепш увекавечніць памяць Кастуся Каліноўскага. Перадусім, пастаноўлена назваць імям Кастуся Каліноўскага новапабудаваную школу ў Мастаўлянах, дзе ён нарадзіўся і ўстанавіць там мемарыяльную дошку. Пастаноўлена звярнуцца да Прэзідыума Гарадской рады нарадовай у Беластоку, каб адну з вуліц у горадзе назваць ім. К. Каліноўскага. Вырашана таксама распачаць дзейнасць дзеля атрымання сродкаў на пабудову помніка Кастуся Каліноўскага ў постаці Дома народнай творчасці, які-б быў названы імям Кастуся Каліноўскага, дзе-б гуртавалася праца польскіх і беларускіх самадзейных калектываў і ладзіліся-б іншыя культурныя мерапрыемствы. У заключэнні пасяджэння выбрана 30-асабовы Камітэт, які ўзначаліў старшыня Ваяводскай рады ў Беластоку, Станіслаў Юхніцкі”[40]. Powołanie Komitetu jako jedno z ważniejszych wydarzeń 1958 roku odnotował we wspomnieniach ówczesny redaktor naczelny „Niwy” Jerzy Wołkowycki: „1958. 20 студзеня, напярэдані 120-й гадавіны з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, у клубе ТППР у Беластоку заснаваўся Камітэт пабудовы помніка нашаму слаўнаму земляку. Прысутнічалі палітычныя і грамадскія дзеячы, прадстаўнікі навукі і культуры. З дакладам аб дзейнасці Кастуся Каліноўскага выступіў пісьменнік Юзаф Кавальскі. Вырашылі будаваць помнік у форме Дома народнай творчасці, назваць адну з беластоцкіх вуліц імем Кастуся Каліноўскага, прысвоіць Кастусёва імя і новай школе ў Мастаўлянах. 30-асабовы камітэт узначаліў старшыня Ваяводскай рады ў Беластоку Станіслаў Юхніцкі”[41].

[39] *Юбілеі 1958 года*, „Ніва”, 5.01.1958, nr 1, s. 2.

[40] *У Беластоку паклікана Камітэт пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму*, „Ніва”, 26.01.1958, nr 4, s. 1.

[41] Г. Валкавыцкі, *Віры. Нататкі рэдактара*, Беласток 1991, s. 44.

Szczególne zainteresowanie Konstantym Kalinowskim przejawiała redakcja „Niwy". Z okazji 120. rocznicy urodzin Franciszek Biernikowicz napisał artykuł biograficzny o nim jako o postaci mało znanej Białorusinom: „(...) многа лепшых сыноў нашага народа, аддаўшых сваё жыццё ў змаганні за яго вызваленне ёсць нам, беларусам, яшчэ сёння мала знаных. Да такіх належыць і наш народны герой — Кастусь Каліноўскі. Праўда, у апошнія часы гісторыкі, і ў тым ліку гісторыкі беларусы, займаліся гэтым пытаннем. Але ў сувязі з тым, што жыццё і дзейнасць Каліноўскага апрацоўвана з розных пунктаў гледжання і магчыма абмежаванага ліку крыніц, у творах іх знаходзяцца недахопы і супярэчнасці. Як-жа ў сучасны момант прадстаўляецца праўда аб Кастусю Каліноўскім? 21 студзеня (ст. ст.) 1838 г. у сям'і Сымона Каліноўскага ў вёсцы Мастаўляны, Беластоцкага павета, прыйшоў на свет Кастусь Каліноўскі. Бацька яго, некалькі кілометраў ад Мастаўлян у вёсцы Якушоўка меў невялікі маёнтак, а ў ім невялічкую ткацкую фабрыку. У гэтай мясцовасці Кастусь праводзіў свае маладыя гады. Пазнаваў жыццё тутэйшых сялян. Ад 1846 года да 1855 вучыцца ў школе ў Свіслачы. (...) Быў ён да апошняй хвіліны свайго кароткага жыцця непахільным змагаром за беларускую справу. У сваім звароце да беларускага народа пісаў: «Ваюй народ, за свае чалавечыя і народныя правы, за сваю веру, за сваю зямлю родную!»"[42] Franciszek Biernikowicz akurat studiował zaocznie historię na Uniwersytecie Warszawskim i pod kierunkiem profesora Henryka Samsonowicza pisał pracę magisterską o Konstantym Kalinowskim, dlatego też wśród Białorusinów w Polsce był wówczas jego największym znawcą. W tej „Niwie" zamieszczono także obok artykułu portret Konstantego Kalinowskiego oraz fragment poematu Michasia Maszary, poświęconego bohaterowi powstania styczniowego:

*„Паўстанне згашана, зламана,*
*лікуй і цешся, Мураўёў:*
*табой заглумлена, стаптана*
*надзея вольнасьці ізноў.*
*Пад цяжкім ботам мураўёўскім*
*замоўкла Беларусь і Польшч*
*і сам нат грозны Каліноўскі*
*ужо цару не страшны больш.*
*Пануры мур — астрог... і краты*

[42] Фр. Берніковіч, *Кастусь Каліноўскі. Да 120 гадавіны з дня нараджэння*, „Ніва", 2.02.1958, nr 5, s. 6.

*у лёху цёмным і глухім*
*як леў зняволены, „дыктатар”*
*сядзіць, закуты ў ланцугі.*
*...*
*Чаргой праходзяць успаміны*
*у сумных думках змагара*
*— Не страшна згінуць...*
*Трэба — згіну.*
*Я знаю — гіну не дарма*
*Паўстане край мой,*
*край любімы...*
*Яму я волю абвясціў*
*Цябе, народ,*
*цябе, радзіма,*
*як я,*
*ніхто так не любіў.*
*І веру я,*
*што голас сына,*
*якога кат вядзе на крыж,*
*прайдзе, як гром, па ўсёй краіне*
*і ўскалыхне нямую ціш.*
*Няхай ты спіш яшчэ народзе,*
*няхай пакутай і цямрой*
*твой кат у дзікім карагодзе*
*яшчэ глуміцца над табой.*
*Але ні гора, ні няволя,*
*што ў хаце сталі на папас,*
*не згасяць зор тваіх ніколі,*
*што ткуць свой шлях у прышлы час.*
*І вы, муры маёй вязніцы,*
*вы — сведкі крыўды і пакут,*
*вас хутка крыллем навальніцы*
*змяце з зямлі працоўны люд”*[43].

W ramach zainteresowania Konstantym Kalinowskim w „Niwie” opublikowano artykuł białoruskiego pisarza Ilii Kłaza o potomkach Kalinowskich na Białorusi: „Кастусь Каліноўскі! І перад намі ўзнікае мужны, адкрыты твар, злёгку выгнутыя бровы, удумлівыя вочы, густыя пас-

[43] М. Машара, *Кастусь Каліноўскі (урывак з паэмы)*, „Ніва”, 2.02.1958, nr 5, s. 6.

мы русых валасоў... Гады і падзеі не пашкадавалі ні хаткі ў Якушоўцы, што ў сямі кілометрах ад райцэнтра Свіслач, дзе правёў сваё дзяцінства Кастусь, ні будынка прагімназіі, дзе вучыўся будучы змагар за волю і шчасце беларускага народа. Час захаваў для нас толькі некалькі фотаздымкаў Кастуся Каліноўскага, ды паданні аб храбрым Світцы, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. (...) Удзячныя патомкі склалі не мала вершаў і песень аб народным багатыру. На сцэнах тэатраў ішла п'еса аб Каліноўскім, кінорэжысёры адлюстравалі яго вобраз на экране, гісторыкі і літаратуразнаўцы напісалі многа прац і манаграфій. Не так даўно закончыў аповесць аб Каліноўскім аўтар гэтых радкоў. І ў часе працы не давала спакою ўпартая думка: ці ёсць у жывых сваякі Кастуся Каліноўскага? Дзе яны? Адны знаёмыя рэкамендавалі спыніць пошукі, іншыя раілі пісаць лісты да некаторых людзей, якія носяць прозвішча Каліноўскіх. Дапамаглі сябры. Адзін з іх пазнаёміў мяне з настаўніцай сярэдняй школы Мінска, Станіславай Мышанковай-Каліноўскай. — Так, — адказала яна. — Далёкае сваяцтва ёсць. Але якое — не растлумачу. Аб гэтым лепш раскажа мой дзядзька Франц Эмануілавіч Каліноўскі... адрас: Гомельская вобл., Парыцкі р-н, вёска Навозы (20 км ад райцэнтра). — Гэта правільна. Мы — сваякі... Яго дзед Абрагам Каліноўскі разам з сястрою Гануляй былі вывезены панам з Гродзеншчыны пад Бабруйск у 1825 годзе. Абрагам быў родным братам Сымона Каліноўскага — бацькі Кастуся. У Абрагама было тры сыны — Іосіф, Эмануіл, Мікола. Сын Ганны — Ігнат у Мінску сустрэўся з Кастусём Каліноўскім, які ўгаварыў яго вучыць дзяцей. Дзеці Мацей (стаў настаўнікам) і Іосіф (быў начальнікам станцыі Гомель). Франц Эмануілавіч арганізаваў у Навозах калгас, быў старшынёй сельскага савета. Меў 76 г. і жыў з малодшым сынам Яраславам — брыгадзірам у калгасе. Сын Station — інжынер у Ленінградзе, дачка Уладзіслава — настаўніца. Аб апошніх хвілінах Кастуся Каліноўскага я ведаю з апавяданняў Ігната. Ён прысутнічаў на пакаранні. Мацей выкладаў беларускую мову ў мінскай школе. Памёр у першыя гады савецкай улады. У газеце „Звязда" за 1928 г. паведамлялася аб юбілеі настаўніка-культурніка Мацвея Каліноўскага. Нар. у 1864 г. у сям'і беззямельнага селяніна, у 1889 скончыў настаўніцкую семінарыю і з таго часу працуе настаўнікам. 29.12.1930 г. газеты „Звязда" і „Советская Белоруссия" паведамілі, што памёр дырэктар 35 школы Мацвей Каліноўскі. У яго былі дзеці[44]".

[44] І. Клаз, *У пошуках сваякоў Кастуся Каліноўскага. Карэспандэнцыя з Мінска*, „Ніва", 9.03.1958, nr 10, s. 3.

W tym samym numerze „Niwy", w dodatku dla dzieci „Zorka", opublikowano portret Konstantego Kalinowskiego z propozycją urządzenia w szkołach z nauką języka białoruskiego gazetek ściennych mu poświęconych: „«Нашым Кастусём» называў беларускі народ вядомага нам рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага, беларускага нацыянальнага героя. Няхай у кожнай школе будзе насценгазета аб жыцці і дзейнасці «нашага Кастуся»"![45]

Latem 1958 roku na łamach „Niwy" rozpoczęła się propaganda społecznej zbiórki środków na budowę domu-pomnika Konstantego Kalinowskiego w Białymstoku. Nawiązywano przy tym do zbliżającego się tysiąclecia państwa polskiego oraz przyjaźni i współpracy polsko-białoruskiej na przestrzeni wieków, wspominając m.in. bitwę pod Grunwaldem. Apelowano do Białorusinów o dobrowolne składki na rzecz inwestycji, mającej służyć pojednaniu polsko-białoruskiemu: „Набліжаецца Тысячагоддзе Польскай Дзяржавы. Вялікая гэта дата! Яна будзе ўрачыста адзначацца ва ўсёй краіне. На працягу амаль усёй гісторыі польскага народа назіраюцца моцныя праяўленні творчага беларуска-польскага сяброўства і ўсебаковага супрацоўніцтва. (...) Успомнім светлую постаць славутага Кастуся Каліноўскага. Студзеньскае паўстанне 1863 года перш выбухла на Беларусі, пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, і на Беларсі найдаўжэй яно пратрымалася, дзякуючы іменна Каліноўскаму, якога падтрымліваў беларускі люд. Шляхецкія яго кіраўнікі, кіруючыся імперыяльнай палітыкай, імкнуліся да аднаўлення Польшчы ў межах 1772 года. Кастусь Каліноўскі выступіў супроць палітыкі, імкнуўся разбудзіць усеагульнае паўстанне, якое дало б свабоду і незалежнасць усім народам, прыгнечаным царскай Расіяй. Погляды Каліноўскага падзялялі не толькі беларусы, але і палякі, польскія сяляне. Пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ваявалі ўсе супольна за супольную справу. Нездарма Кастуся Каліноўскага завуць героем двух братніх народаў: беларускага і польскага. Камітэт па адзначэнню 120 годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, які існуе ў Беластоку, разгортвае сваю дзейнасць. Пастаноўлена пабудаваць Дом-помнік Кастусю Каліноўскаму, дзе знайшлі б сабе адпаведныя памяшканні гурткі мастацкай самадзейнасці, гурткі народнай творчасці і Беларускі хор і тэатр. Зразумела, што будуць тут перахоўвацца рэдкія памяткі і дакументы аб Каліноўскім. Камітэт звяртаецца да ўсяго грамадства Беласточчыны і краіны з просьбай складаць добраахвотныя грашовыя ахвяры. Галоўнае Праўленне Беларуска-

[45] *„Наш Кастусь"*, „Зорка", 9.03.1958, nr 10, s. 1.

га грамадска-культурнага таварыства ўжо выасыгнавала і пераслала 10 тыс. злотых на рахунак Камітэта пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму. Неабходна таксама, каб усе аддзелы нашага таварыства прыступілі да збірання добраахвотных грашовых складчын. Справа пабудовы Дома-помніка Кастусю Каліноўскаму — гэта справа ўсяго грамадства нашай краіны. Супольнымі сіламі пабудуем Дом — помнік Кастусю Каліноўскаму!"[46] Wkrótce podano numer konta w banku, na który można było wpłacać dobrowolne składki wraz z informacją o jego stanie i o wpłaceniu nań 100 tysięcy złotych przez Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej: „Ужо сабрана 111.765 зл на пабудову Дома Помніка К. Каліноўскаму ў Беластоку, у тым ліку Камітэт атрымаў 100.000 зл ад Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай. Чытачы! Складайце добраахвотныя складчыны на пабудову Дома — Помніка"[47].

Na łamach „Zorki" zwracano się ze szczególnym apelem do uczniów: „Яны — шыбеніцу, мы — помнік. Давайце пагаворым аб Кастусю Каліноўскім. Хто ён і чаму мы шануем яго памяць" — так распачаў свой урок з вучнямі настаўнік па беларускай мове ў вёсцы Н. (...) Цяпер у Беластоку пакліканы камітэт будовы помніка Кастусю Каліноўскаму. Цар і паны збудавалі яму шыбеніцу. Шыбеніца разляцелася. А мы супольнымі сіламі збудуем Каліноўскаму помнік (...)"[48].

Akcja społeczna zbierania środków na budowę domu-pomnika nie przyniosła jednak oczekiwanych efektów. Wpłat było mało i ich wysokość była niewielka. W „Niwie" informowano o nielicznych wpłatach: „На „Дом-Помнік" К. Каліноўскаму, уплацілі: Ф. Баслык — 55 зл., Ул. Лазінскі — 20 зл., Школа ў Седлісках, павет Ольштын — 52 зл., ПСС у Беластоку — 2.000 зл. Просім чытачоў прысылаць свае дабраахвотныя складчыны на конта камітэта: ПКО — 12-9-315 у Беластоку"[49]. W „Zorce" Henryk Biernikowicz (syn Franciszka Biernikowicza) informował o zebraniu na ten cel w Siedliskach pod Giżyckiem 217 zł 60 gr[50].

Latem 1959 roku pod znakiem zapytania stanął problem budowy domu-pomnika ze względu na niskie wpływy środków ze społecznej zbiórki. Wywołało to na łamach „Niwy" dyskusję, czy będzie i czy w ogóle warto budować taki dom. Pytania takie stawiali czytelnicy, co świadczyło zdaniem redakcji o zainteresowaniu inwestycją: „Мы атрымалі некалькі лістаў, у якіх нашы чытачы пытаюць, ці будзе пабудаваны Дом-помнік К. Каліноўскага, аб якім мы даволі шырока пісалі ў канцы мінулага

[46] *Пабудуем Дом-помнік Кастусю Каліноўскаму*, „Ніва", 24.08.1958, nr 34, s. 1.
[47] „Ніва", 5.10.1958, nr 40, s. 1.
[48] Ж. Дубок, *Яны — шыбеніцу мы — помнік*, „Зорка", 23.11.1958, nr 47, s. 1, 3.

і на пачатку гэтага года. Лісты з пытаннямі нашых чытачоў гавораць аб тым, што памяць аб вялікім сыне беларускага і польскага народаў, Кастусю Каліноўскім, жыве ў нашым народзе. Бо сапраўды К. Каліноўскі на гэта заслугоўвае. І калі б такі Дом пабудаваць у Беластоку, гэта быў бы найлепшы помнік вялікаму герою. Ці будзе пабудаваны Дом? На гэтае пытанне нельга адказаць адным словам — так, або не. Пабудова Дома-помніка залежыць ад грашовых складчын нашага грамадства. Як дагэтуль, складчыны вельмі малыя. Камітэт пабудовы сабраў усяго 121.000 зл. Зразумела, што за гэтыя грошы не зможам пабудаваць Дом, у якім — як мы пісалі — быў бы беларускі тэатр, ці сцэна для мастацкіх гурткоў і г.д. Камітэт пабудовы Дома — помніка К. Каліноўскага запланаваў сваю дзейнасць да 1964 г. Да гэтага часу Камітэт павінен: 1) Перайменаваць вуліцу Новасасновую ў Беластоку на вуліцу К. Каліноўскага. 2) На радзіме К. Каліноўскага ў Мастаўлянах умураваць у новапабудаваную школу мемарыяльную дошку і прысвоіць гэтай школе яго імя. 3) На працягу 5 год Камітэт пры дапамозе ўсяго грамадства мае сабраць сродкі на пабудову Дома — помніка К. Каліноўскага ў Беластоку і ў 100-гадавіну смерці закласці фундамент пад гэты дом”[51].

W ramach dyskusji czytelnicy proponowali rozwinąć akcję zbioru środków przez czytelników „Niwy”, np. Piecia Iwaniuk z Plosek apelował: „Вы пісалі ў апошнім нумары „Нівы”, што грамадскі камітэт пабудовы Дома — помніка К. Каліноўскага сабраў мала грошай. На маю думку неабходна пабудаваць гэты дом і такім чынам ушанаваць памяць нашага героя. Патрэбна таксама дапамагчы камітэту ў зборы грашовых сродкаў. Я думаю найлепш было б, каб кожны чытач нашай газеты правёў працу ў сваім асяроддзі, сабраў грошы і выслаў на адрас Камітэта, або рэдакцыі. І таму, заклікаю ўсіх чытачоў распачаць збор грошай, і падтрымаць гэтым самым ініцыятыву грамадскага камітэта”[52]. Krytycznie o zbieraniu środków odezwał się również Franciszek Biernikowicz z Siedlisk: „На працягу амаль цэлага года Камітэт змог сабраць (...) 21 тыс. зл. (нельга лічыць 100 тыс. зл. атрыманых з ВРН у Беластоку). На аснове ўсяго гэтага можна сцвердзіць, што Камітэт бяздзейнічае, бо інакш гэта цяжка зразумець. Да гэтага часу, так здаецца, толькі рэдакцыя „Ніва” праяўляе ў гэтай справе якую-небудзь ініцыятыву. Але рэдакцыя не можа кіраваць гэтай справай, і таму

[49] „Ніва”, 10.05.1959, nr 19, s. 7.

[50] Г. Берніковіч, *На Дом Каліноўскага*, „Зорка”, 31.05.1959, nr 22, s. 7.

[51] *Ці будзе пабудаваны Дом — помнік К. Каліноўскага?*, „Ніва”, 23.08.1959, nr 34, s. 5.

неабходна ажывіць Камітэт. На мой погляд, гэтай справай павінна больш заняцца Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Трэба, каб яно паклікала пры ГП БГКТ падкамітэт будовы Дома-помніка. Падкамітэт павінен складаць на кожным пленарным пасяджэнні ГП БГКТ справаздачу аб сваёй працы. Думаю, што спаборніцтва ў гэтай справе польскага і беларускага грамадства ў нічым тут не пашкодзіць. Тым больш і дагэтуль такое спаборніцтва існуе, але існуе яно ў бяздзейнічанні. Пакрываць недахопы працы Камітэта пабудовы Дома — помніка тым, што падымалася для гэтага шмат акцый, нельга. У апошні час адзін з часопісаў паведаміў, што ў самым Беластоку, жыхары гэтага горада выпіваюць у год на дзесяткі мільёнаў зл. гарэлкі. Гэта зусім не гаворыць аб недахопе сродкаў. Справа пабудовы Дома-помніка Кастуся Каліноўскага — гэта важная справа не толькі таму, што гэтым умацуе памяць свайго народнага героя, хоць гэта і найважнейшая мэта, але і таму што, будуючы Дом-помнік, мы прыложым цаглінку да развіцця беларускай культуры. Гэтым самым мы падтрымаем аўтарытэт Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а гэта не благая справа"[53].

Sprawa budowy domu-pomnika K. Kalinowskiego została ostatecznie rozstrzygnięta w 1964 roku. W międzyczasie ulicę Nowososnową w Białymstoku nazwano imieniem K. Kalinowskiego. W 1959 roku w Mostowlanach zaś oddano do użytku nowo wybudowaną szkołę podstawową, którą miano nazwać imieniem K. Kalinowskiego. Z dziennikarskiego obowiązku udał się tam Sokrat Janowicz, ale nie nadano wówczas ani imienia patrona, ani nie odsłonięto dwujęzycznej tablicy na szkole. Relację z rozpoczęcia roku szkolnego w Mostowlanach dziennikarz przedstawił w „Niwie": „Еду ў Мастаўляны. Яшчэ раз прыпамінаю ўказанне галоўнага рэдактара. Значыць, маю зрабіць некалькі здымак з урачыстага распачацця першага навучальнага года ў школе імя Кастуся Каліноўскага ў Мастаўлянах. А ўжо абавязкова трэба было сфатаграфаваць мемарыяльную дошку ў двух мовах на сцяне школы! Гістарычная місія! Школьны будынак прывітаў пусткай. Пусткай дзіўнай майму прыўзнятаму настрою? Некалькі дзесятак дзяўчынак і хлопчыкаў сабралося на калідоры. Пачынаецца першы вучнёўскі ранішнік у наступаючым навучыльным годзе. Кіраўнік Мікола Рэмжа сардэчна вітае ўсіх выхаванцаў. Я, як адзіны афіцыйны госць, таксама „дакладаю сваіх

[52] П. Іванюк, *Трэба пабудаваць Дом-помнік К. Каліноўскага*, „Ніва", 30.08.1959, nr 35, s. 7.

[53] Ф. Берніковіч, *Яшчэ раз аб пабудове Дома — помніка К. Каліноўскага (Артыкул дыскусійны)*, „Ніва", 6.09.1959, nr 36, s. 7.

тры грошы". Пачатковай школе ў Мастаўлянах яшчэ не прысвоена імя Кастуся Каліноўскага. Гэтая ўрачыстасць мела адбыцца 2-га верасня г.г. Аднак тут нібы перашкодзіла рэарганізацыя Аддзела культуры ў Беластоку. На сценах школы не ўбачыў не толькі двухмоўнай мемарыяльнай дошкі, але нават і школьнай шыльды. Старшыня мясцовай грамадскай рады Міхась Усовіч нешта прыпомніў, што крыху там узбіралася грошай на „гэтую дошку". Але, калі ніхто з уладаў гэтым не цікавіцца... то...? Дарэчы будзе дадаць, што Міхась Усовіч з'яўляецца членам Камітэта пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму, які існуе ў Беластоку[54]".

Odsłonięcie dwujęzycznej tablicy ku czci K. Kalinowskiego w Szkole Podstawowej w Mostowlanach przeniesiono na 22 lipca 1959 roku, ówczesne święto odrodzenia Polski. Już w maju 1959 roku informowano o tym na łamach „Niwy": „22 ліпеня г.г. на радзіме вялікага змагара за вызваленне польскага і беларускага народа К. Каліноўскага, у Мастаўлянах, у новапабудаванай школе будзе ўмуравана мармуровая мемарыяльная дошка, грошы на якую сабрала мясцовае насельніцтва"[55]. Relacja Piotra Czerniakiewicza z odsłonięcia tablicy i jednocześnie nadania szkole imienia K. Kalinowskiego wskazuje, jak postać K. Kalinowskiego wykorzystano do uczczenia 15. rocznicy Polskiego Komitetu Wyzwolenia Narodowego: „Невялікая вёска Мастаўляны, урачыста адзначыла свята 22 ліпеня. Дзень пятнаццацігоддзя спалучыўся тут з урачыстым адкрыццём мемарыяльнай дошкі, умураванай у сцяну мясцовай школы і прысваеннем гэтай школе імя Кастуся Каліноўскага. Тут у Мастаўлянах 121 год таму назад нарадзіўся Кастусь КАЛІНОЎСКІ — змагар за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларусаў і палякаў, арганізатар і кіраўнік студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве. З самага ранку 22 ліпеня да Мастаўлян пачалі збірацца жыхары з навакольных вёсак. Прыбываюць мастацкія калектывы і госці. Перад будынкам мясцовай школы распачынаецца агульны мітынг. З дакладам аб 15 гадавіне Польскай Народнай Рэспублікі выступае старшыня Прэзідыума ПРН гр. Яўгень Стшалкоўскі. З гонарам пералічвае дасягненні нашай краіны за мінулыя 15 год. Затым з кароткім прывітаннем і пажаданнямі з выпадку слаўнага юбілею выступае сакратар Павятовага камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі тав. Аляксандр Камінскі. Старшыня ПРН гр. Стшалкоўскі ўручае дзеячам павета дзяржаўныя ўзнагароды. Пасля сакратар Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства

[54] С. Яновіч, *Зазвінеў званок*, „Ніва", 7.09.1958, nr 36, s. 1.

ў Польшчы Віктар Швед расказаў аб жыцці і дзейнасці ўраджэнца вёскі Мастаўляны КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА. Пры поўнай цішыні з мемарыяльнай дошкі ўмураванай у сцяну мясцовай школы пад рукой старшыні ПРН спадае пакрывала. На дошцы ў польскай і беларускай мовах: „У вёсцы Мастаўляны 21.III.1838 г. нарадзіўся КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ змагар за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне палякаў і беларусаў, арганізатар і кіраўнік студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве. Загінуў з рук царскіх сатрапаў 10.III.1864 г. у Вільні. Ушаноўваючы памяць героя жыхары Мастаўлян прысвойваюць школе яго імя. Сакавік 1959". Школе ў Мастаўлянах прысвойваецца імя КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА. Старшыня ПРН гр. Стшалкоўскі віншуе кіраўніка са знамянальнай падзеяй і ўручае школьнікам партрэт Кастуся Каліноўскага, з пажаданнем поспехаў у жыцці і вучобе. У адказ на словы старшыні ПРН школьнікі запэўняюць, што прысваенне школе імя КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА адзначаць яшчэ лепшымі поспехамі ў вучобе. На гэтым заканчваецца афіцыйная частка мітынга. На прышкольным пляцы пачынаецца мастацкая частка, у якой прыняў удзел Калектыў ГП БГКТ з Беластока, мастацкі калектыў пры ПДК у Міхалове, калектыў з Гарадка і іншыя. Да позніх гадзін прадаўжаецца народнае гулянне. Да ўвагі ўдзельнікаў рэчавая і кніжная латарэі, буфет і іншыя мерапрыемствы. Радасна сустрэлі і весела правялі слаўны юбілей 15-годдзя нашай дзяржавы жыхары Мастаўлян і ваколіц"[56]. Jerzy Wołkowycki we wspomnieniach podkreślił białoruski charakter święta 22 lipca w powiecie białostockim: „Моцным беларускім акцэнтам адзначыў Беластоцкі павет сёлетняе ліпеньскае свята. У Мастаўлянах у сцяну мясцовай школы ўмуравалі мемарыяльную дошку. (...) Павятовая рада падарыла школе і партрэт Кастуся Каліноўскага, заказаны на ўрачыстасць у Любы Красоўскай. Так выканалі мы другое рашэнне Камітэта пабудовы дома-помніка К. Каліноўскага, першае — прысваенне імя беластоцкай вуліцы — здзейснілі раней. Засталося апошняе — Дом. Тэрмін — 1964 год, а сабралі толькі 121 000 зл.[57]

W ciągu kolejnych lat na łamach „Niwy" i „Kalendarzy Białoruskich" przypominano postać Konstantego Kalinowskiego, utrwalając go tym samym w świadomości Białorusinów Białostocczyzny, głównie w kontekście jego pochodzenia, „Mużyckiej Praudy" oraz kierowania powstaniem

55 (мб), *Мемарыяльная дошка К. Каліноўскаму*, „Ніва", 24.05.1959, nr 21, s. 2.
56 (пч), *На радзіме К. Каліноўскага*, „Ніва", 2.08.1959, nr 31, s. 1-2.
57 Г. Валкавыцкі, *Віры*, s. 55.

styczniowym. Podkreślano głównie aspekt socjalny i klasowy oraz internacjonalistyczny jego działalności. Postać Kastusia Kalinouskiego w latach 60. wprowadzono do programu nauczania języka białoruskiego. Wincuk Skłubowski na łamach „Niwy" pisał o „Mużyckiej Praudzie" zgodnie z duchem czasów: „Яна несла ў народ праўду аб інтэрнацыянальнай дружбе і брацтве працоўных мас — вольных народаў, праўду, якая здзейснілася пасьля Кастрычніцкай Рэвалюцыі і вызвалення польскага народа ад фашысцкай няволі і панскага ярма"[58]. Podkreślał internacjonalizm w czasie powstania styczniowego: „Студзеньскае паўстанне 1863 г. дае вымоўныя прыклады супрацоўніцтва і інтэрнацыянальнай дружбы рускага, польскага, беларускага і літоўскага народаў. Яно было справай перадавых слаёў гэтых народаў і нічога супольнага з гістарычнай праўдай не мае прадстаўленне яго як барацьбы польскага і рускага народаў. Два напрамкі ў студзеньскім паўстанні: „белых" і „чырвоных", іх адносіны да справы сацыяльнага вызвалення працоўных мас, з'яўляюцца ілюстрацыяй, што сапраўды народны рух ёсьць рухам інтэрнацыянальным, тады калі рух эксплуататарскіх класаў, рух скіраваны супраць працоўных — з'яўляецца нацыяналістычным"[59]. Stwierdzał, że „інтэрнацыянальная дружба братніх славянскіх народаў, выкутая супольнай барацьбой у час студзеньскага паўстання, развівалася і ўмацнялася надалей у супольным змаганні пралетарыяту і працоўных мас Расіі, Польшчы і Беларусі"[60]. Na podstawie artykułów Wincentego Skłubowskiego można zauważyć wyraźne dopasowywanie ideologii Konstantego Kalinowskiego do współczesnej ideologii komunistycznej, głoszącej internacjonalizm klasy robotniczej i chłopstwa.

Działalność i publicystyka K. Kalinowskiego stały się przedmiotem badań naukowych Aleksandra Barszczewskiego i Franciszka Biernikowicza[61]. W 1961 roku Aleksander Barszczewski opublikował artykuł „Агляд публіцыстычна-літаратурнай спадчыны Кастуся Каліноўскага"[62]. Podsumowując działalność Konstantego Kalinowskiego, Aleksander Barszczewski stwierdzał: „Каліноўскі верыў у гістарычны сэнс і паспяховасць сялянскай рэвалюцыі, бачыў у ёй будучыню сваёй айчыны. Не

[58] В. С., *Мужыцкая Праўда*, „Ніва", 20.03.1960, nr 12, s. 4.

[59] В. Склубоўскі, *За нашу і вашу свабоду*, „Ніва", 3.02.1963, nr 5, s. 1-2.

[60] В. Склубоўскі, *За нашу і вашу свабоду. Рэвалюцыйныя дэмакраты*, „Ніва", 10.02.1963, nr 6, s. 5. Patrz także: В. Склубоўскі, *Кастусь Каліноўскі — патрыёт і інтэрнацыяналіст*, «Беларускі каляндар 1978», Беласток 1977, s. 119-126.

[61] Ф. Берніковіч, *Праблескі і цені польска-беларускага супрацоўніцтва ў час студзеньскага паўстання*, [w:] *Навуковы зборнік*, Беласток 1964, s. 61-71.

[62] А. Баршчэўскі, *Агляд публіцыстычна-літаратурнай спадчыны Кастуся Ка-*

быў ён праціўнікам аб'яднання Літвы і Беларусі з вызваленай з-пад царызма дэмакратычнай Расіяй. У канкрэтных умовах успыхнуўшага паўстання 1863 года спалучаў лёсы Беларусі і Польшчы, разлічваючы на магчымасці незалежнага існавання сваёй краіны і сяброўскага сужыцця з вызваленай з-пад царскай тыраніі Польшчай. Усё сваё жыццё і дзейнасць падпарадкаваў Каліноўскі інтарэсам сялянскіх імкненняў і надзей, з якіх чэрпаў ён сваю ідэалогію і ў ажыццяўленні якіх бачыў сэнс свайго існавання і сваёй смерці"[63]. Aleksander Barszczewski jeszcze kilkakrotnie wracał do tematu K. Kalinowskiego w artykułach w „Kalendarzach Białoruskich" na 1974 i na 1988 rok[64].

W „Niwie" przedstawiano także polskie publikacje na temat Konstantego Kalinowskiego i powstania styczniowego. Magister Tomasz Plackowski, powołując się na wspomnienia Jakuba Gieysztora, przedstawił poglądy obozu „białych" na Konstantego Kalinowskiego: „Мемуарная літаратура з'яўляецца сур'ёзнай крыніцай, дазваляючай глыбей вывучаць студзеньскае паўстанне. Датычыць гэта асабліва малавядомых фактаў, або такіх, аб якіх нічога не гаворыцца ў іншых крыніцах. Выказваючы такое меркаванне, маем тут на думцы таксама і справу дзейнасці Кастуся Каліноўскага. На аснове мемуараў можам не толькі ўдакладніць факты звязаныя з яго дзейнасцю, але і паказаць адносіны да яе з боку прадстаўнікоў паасобных палітычных груповак падчас паўстання — дзеячаў, прадстаўляючых лагер Чырвоных і Белых. (...) Белыя займалі падвойную пазіцыю ў адносінах да Каліноўскага"[65].

W 1963 roku pojawił się pomysł utworzenia w Hajnówce Muzeum im. Konstantego Kalinowskiego. Na łamach „Niwy" opublikowano apel do czytelników o zbiór eksponatów, które miałyby charakteryzować kulturę materialną południowo-wschodniej Białostocczyzny[66]. Projektem budowy tego muzeum zainteresował się nawet I sekretarz KW PZPR w Białymstoku Arkadiusz Łaszewicz[67].

*ліноўскага*, «Навукова- літаратурны зборнік і беларускі каляндар 1961», Беласток 1960, s. 61-91.

63 Tamże, s. 90.

64 А. Баршчэўскі, *Кастусь Каліноўскі (да 110 гадавіны смерці)*, «Беларускі каляндар 1974», Беласток [b.r.w.], s. 63-68; А. Баршчэўскі, *Кастусь Каліноўскі (да 150 гадавіны з дня нараджэння)*, «Беларускі каляндар 1988», Беласток 1988, s. 92-97.

65 Т. Пляцкоўскі, *Кастусь Каліноўскі ва ўспамінах прадстаўніка Белых*, „Ніва", 15.07.1962, nr 28, s. 1, 4.

66 *Зварот Прэзідыум ГП БГКТ у справе збору экспанатаў для музея імя Кастуся Каліноўскага*, „Ніва", 25.08.1963, nr 34, s. 1.

67 Г. Валкавыцкі, *Віры*, s. 55.

W 1964 roku przypadała 100. rocznica tragicznej śmierci Konstantego Kalinowskiego. Na łamach „Niwy” informowano o książce Zygmunta Kosztyły i Ryszarda Kraśki „Z historii powstania styczniowego na Białostocczyźnie”[68]. Maciej Konopacki w okazjonalnym artykule przedstawił Wiktora Kordowicza — autora książki „Konstanty Kalinowski” (Warszawa 1955) i jego zainteresowania bohaterem powstania styczniowego[69]. Zamieszczono przy okazji zdjęcia Konstantego Kalinowskiego i miejsca na Górze Zamkowej w Wilnie, gdzie według tradycji ustnej pochowano go po straceniu. 21 marca 1964 roku w siedzibie ZG BTSK w Białymstoku odbyła się specjalna akademia. Z referatami o życiu i działalności Konstantego Kalinowskiego wystąpili Franciszek Biernikowicz i Aleksander Barszczewski. Instruktor Wiera Juszczuk przeczytała wiersz i fragment opowiadania Alesia Barskiego o Konstantym Kalinowskim. W części artystycznej wystąpił także teatralny zespół amatorski ze wsi Pawły z dwoma przedstawieniami „Валодзін гальштук” i „Боты”. Pokazano także film radziecki[70]. W 1962 roku Aleś Barski napisał wiersz „Kalinowski”:

*„На Плошчы Лукішскай сьнягамі цярушыць,*
*Вецер бясшумна канае ў змроку.*
*Я бачу, як ціха з далін Беларусі*
*Ідзе Каліноўскі ўпэўненым крокам.*
*Устала над плошчай у позе фатальнай*
*Аднарукая шэрая сьмерць — шыбеніца.*
*І жэстам бязьлітасным і разьвітальным*
*Больш не пазволіць ні марыць, ні біцца*
*Стаю ў натоўпе... надзея канае...*
*Ратунку не можа тут быць для героя.*
*А сэрца набраклае чорным адчаем,*
*Аб цудзе стыхійным, гарачае, мроіць.*
*– Шляхціц Каліноўскі прысуджаны к сьмерці. –*
*Словы на плечы ляглі, як цагліны.*
*– Гэта вы, шляхцічы — прапаведнікі сьмерці,*
*Я быў і астаўся навек селянінам.*

68 (км), *Паўстанне 1863 года і беларусы. Беларусіяна*, „Ніва”, 15.03.1964, nr 11, s. 5.

69 М. Канапацкі, *Стагоддзе трагічнай сакавіцкай раніцы*, „Ніва”, 22.03.1964, nr 12, s. 3.

70 мх, *У 100 гадавіну смерці К. Каліноўскага*, „Ніва”, 29.03.1964, nr 13, s. 2; (мх), *У 100 гадавіну смерці К. Каліноўскага*, «Беларускі каляндар 1966», Беласток 1965, s. 118.

*І гэтыя словы, як крэдо, як штандар,*
*Як кліч запаведны народнае справы,*
*Узняў Каліноўскі над царскаю бандай*
*Над крокам апошнім да сьмерці і славы”*[71].

W 1964 roku okazało się, że na budowę domu pomnika Konstantego Kalinowskiego w Białymstoku zebrano zbyt mało środków. Były redaktor naczelny „Niwy” stwierdzał: „Няўдачай закончылася ініцыятыва пабудовы дома-помніка Кастусю Каліноўскаму ў Беластоку. Сабралі ўсяго 140 тысяч злотых. Сума не павялічвалася, і старшыня пабудовы (ён жа і старшыня ВК ФАН) Станіслаў Юхніцкі вызначыў на 10 верасня хаўтуры: „Na posiedzeniu tym będzie podjęta decyzja odnośnie wykorzystania zebranych pieniędzy i ustalenia daty likwidacji działalności Komitetu”. Паклікалі мы камітэт прылюдна і з фанфарамі, зматвалі вудачкі ціха і сарамліва ў цесным пакойчыку-кабінеце старшыні Беластоцкага жыллёвага каапeратыва на алеі 1 Мая, 20. У той час Гарадок вяршыў свой прыгожы пачын — пабудову дома культуры. Не хапала грошай на абсталяванне бібліятэкі і чытальні. Мы і прапанавалі перадаць сабраныя ахвяраванні гарадоцкаму камітэту. Той, у сваю чаргу, абавязаўся назваць „Дом” імем слаўнага земляка. Так яно і сталася. Шырока адгукнуўся ніўскі заклік збіраць кніжкі для Гарадка”[72]. O przekazaniu zebranych środków na wyposażenie biblioteki i czytelni Domu Kultury w Gródku i o nadaniu mu imienia Konstantego Kalinowskiego informowano też na łamach „Niwy”: „Улічываючы грамадскую ініцыятыву і прызначэнне аб’екта, Камітэт пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму вырашыў прыйсці з дапамогай гарадчанам і пераказаў на Дом культуры ў Гарадку 140 тыс. зл. Нядаўна прэзідыум гэтага Камітэта пабывала ў Гарадку і супольна з Камітэтам будовы дома культуры абмеркавала мэту выкарыстання пераказаных на Дом грошай. Было вырашана, што пойдуць яны на абсталяванне бібліятэкі і чытальні. Пастаноўлена таксама назваць Дом культуры ў Гарадку імем Кастуся Каліноўскага і стварыць у Доме куток, прысвечаны нашаму слаўнаму земляку. Гэтыя пастановы заслугоўваюць на ўсебаковую падтрымку. Як месца, так і аб’ект, выбраны вельмі трапна. Гарадок — гэта ж амаль бацькаўшчына Кастуся Каліноўскага. Тут асабліва жывымі з’яўляюцца слаў-

[71] А. Барскі, *Каліноўскі*, [w:] *Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863-1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. Анталогія*, рэд. Я. Янушкевіч, Ракаў 2013, s. 80.

[72] Г. Валкавыцкі, *Віры*, s. 83.

ныя традыцыі вялікага барацьбіта за „нашу і вашу свабоду". Нездарма ў часы гітлераўскай акупацыі мясцовы партызанскі атрад меў імя Кастуся Каліноўскага"[73]. Uroczyste otwarcie Domu Kultury zaplanowano na rocznicę Rewolucji Październikowej — na 7 listopada[74]. Przeniesiono je jednak na 1965 rok ze względu na opóźnienia związane z wykończeniem sali kinowej: „Камітэт пабудовы Дома культуры вырашыў цяпер крыху пачакаць і зрабіць урачыстасць адкрыцця, калі будзе гатовы цэлы аб'ект. Па-другое, вырашана адпаведна падрыхтавацца і да самой урачыстасці. Між іншым, складаецца мастацкая праграма, у якой ганаровае месца займе постаць Кастуся Каліноўскага. Калі будаўнікі стрымаюць слова, адкрыццё дома-помніка можна будзе прыўрочыць да 127 гадавіны з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага (21 студзеня 1965 г.)"[75]. Ostatecznie otwarcie Domu Kultury w Gródku odbyło się 6 czerwca 1965 roku: „Фінал высакароднага грамадскага пачыну — урачыстае адкрыццё Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага. Прыгожы, добра абсталяваны культурны аб'ект — гордасць гарадчан — пабудаваны пры выдатнай дапамозе мясцовага насельніцтва. Будзе служыць Гарадку і цэлай аколіцы. Будзе ўшаноўваць імя слаўнага сына Беластоцкай зямлі, выдатнага правадыра студзеньскага паўстання, палымянага беларускага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага. А гэта імя забавязвае"[76]. W „Niwie" zamieszczono fotoreportaż Henryka Rogozińskiego. Dom Kultury uroczyście otworzył sekretarz KC PZPR, poseł Ziemi Białostockiej — Władysław Wicha. Wśród oficjalnych gości byli też sekretarz KW PZPR Sergiusz Rubczewski, przewodniczący Komitetu Budowy Pomnika K. Kalinowskiego, poseł Stanisław Juchnicki, dyrektor departamentu Ministerstwa Kultury Czesław Kałużny, zastępca przewodniczącego WRN Edmund Szczepański[77]. W foyer znalazło się gipsowe popiersie Konstantego Kalinowskiego. Z tej okazji Wiktor Szwed poświęcił wiersz budowniczym Domu Kultury im K. Kalinowskiego w Gródku:

*„З бацькоўскай вёскі Мастаўляны*
*Мо' і не раз праз Гарадок*
*Ішоў з наборам палымяным*
*„Мужыцкай праўды" ў Беласток.*

[73] (рл), *У Гарадку Дом культуры імя Кастуся Каліноўскага*, „Ніва", nr 44, 1.11.1964, s. 1-2.
[74] Tamże, s. 2.
[75] (рл), *Адкрыццё Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў 1965 годзе*, „Ніва", 22.11.1964, nr 47, s. 3.
[76] *У доме Кастуся*, „Ніва", 27.06.1965, nr 26, s. 3.
[77] Tamże.

*Складаў з вялікаю адвагай*
*Свае бунтарскія радкі,*
*Распальваў сэрцы пад сярмягай,*
*Ішлі змагацца дзецюкі.*
*Ішлі на панскія палацы,*
*За пот, за голад, мазалі.*
*Ішлі свабоды дамагацца,*
*Хлеба, правоў сваіх, зямлі.*
*За незалежныя краіны,*
*За Польшчу і за Беларусь,*
*За дарагі народ загінуў*
*Ў няроўнай барацьбе Кастусь.*
*Аддаў жыццё за наша шчасце,*
*За волю, роўныя правы.*
*Адкрыты нашы сэрцы насцеж*
*У іх Кастусь вечна жывы”*[78].

Pod koniec 1964 roku na łamach „Niwy” ogłoszono akcję zbierania książek dla biblioteki Domu Kultury w Gródku, która trwała przez cały rok. W tygodniku publikowano nazwiska darczyńców oraz tytuły podarowanych książek[79]. Wśród darczyńców znaleźli się: Biblioteka Powiatowa i Miejska z Bielska Podlaskiego, która podarowała dzieła W. Lenina oraz polską literaturę piękną, Łarysa i Jan Hieniuszowie z Zelwy (podarowali m.in.: „Туристские маршруты по Белоруссии”, „Наша родная мова” Alaksandra Krywickiego, „Нагбом” Ryhora Baradulina, „Віленскія камунары” Maksima Hareckiego, „Мой родны кут” Janki Bryla, „Новая зямля” і „Сымон Музыка” Jakuba Kołasa, „Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года” Anatola Smirnowa), Muzeum Literackie J. Kupały z Mińska — „Ой, рана на Івана” Zinaidy Bandarynej, Akademia Nauk BSRR — „Янка Купала ў беларускім мастацтве”, „Кацярына” Tarasa Szewczenki, „Янка Купала” Iwana Szarachouskiego, „Паэмы, драматычныя творы”, „Вершы і паэмы” Janki Kupały. Zbiorek swych wierszy z dedykacją podarował też Michaś Maszara z Mińska, a Stefan Zieniuk z Białegostoku przekazał książki „Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя” Sciapana Majchrowicza i „Гісторыя БССР” w dwóch tomach.

78 В. Швед, *Кастусю Каліноўскаму*, „Ніва”, nr 27, 4.07.1965, s. 3.
79 *Наша акцыя. Кніжкі для Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку*, „Ніва”, 20.12.1964, nr 51, s. 2; 1.04.1965, nr 14, s. 2; 11.04.1965, nr 15, s. 2; 18.04.1965, nr 16, s. 2; 25.04.1965, nr 17, s. 2; 9.05.1965, nr 19, s. 4; 29.08.1965, nr 35, s. 2; 17.10.1965, nr 42, s. 2; 24.10.1965, nr 43, s. 2; 7.11.1965, nr 45, s. 2.

12 czerwca 1966 roku Domowi Kultury w Gródku uroczyście nadano imię Konstantego Kalinowskiego, odsłaniając przy okazji tablicę z jego imieniem. Uroczystość połączono z 21. rocznicą utworzenia białostockiego Oddziału Wojsk Ochrony Pogranicza: „Найперш жыхары Гарадка сабраліся ў кіно дома культуры. Урачыстае пасяджэнне адкрыў сакратар прапаганды Павятовага камітэта ПАРП у Беластоку, тав. Аляксандр Давідзюк. Выступіў таксама афіцэр Польскага войска. Затым гарцэры гарадоцкай школы прывіталі гасцей. І тады наступіў найбольш урачысты момант: намеснік старшыні прэзідыум ПРН у Беластоку, тав. Тадэуш Вонсэк зняў заслону з табліцы з імем Кастуся Каліноўскага”[80]. Wiktor Rudczyk w sprawozdaniu z uroczystości na łamach „Niwy” przedstawił zasadność nadania takiego imienia Domowi Kultury w Gródku: „Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны, адкуль у Гарадок амаль рукой падаць — усяго 15 кіламетраў. Значыць правадыр паўстання з 1863 года ў Беларусі і на Літве з’яўляецца для жыхараў Гарадка проста земляком. Ёсць тады чым ганарыцца, і нездарма папрасілі яны Міністэрства культуры і мастацтва, каб менавіта гэтае імя прысвоіць свайму дому культуры”[81].

Jak wskazano powyżej popularyzacja postaci Konstantego Kalinowskiego na przełomie lat 50. i 60. XX w. wśród Białorusinów na Białostocczyźnie przyniosła wymierne efekty: nadano jego imię Szkole Podstawowej w Mostowlanach, Domowi Kultury w Gródku, nazwano jego imieniem ulicę w Białymstoku. Ukazały się liczne artykuły o nim w białoruskiej „Niwie” i w „Klendarzach Białoruskich”. W „Niwie” publikowano też fragmenty przedwojennych poematów o K. Kalinowskim Michasia Maszary[82] i Maksima Tanka:

*„Трэба заклік да раніцы кончыць, –*
*Ты па сёлах яго разнясеш.*
*Апранешся у торбы, лахмоцце,*
*Можа, возьмеш цымбалы і кій.*
*Хутка золак заззяе на плоце,*
*Хутка...*
*Трэба пісаць...*
*„Дзяцюкі”*[83].

[80] В. Рудчык, *Дом культуры імя К. Каліноўскага ў Гарадку*, „Ніва”, 3.07.1966, nr 27, s. 4.
[81] Tamże.
[82] М. Машара, *Кастусь Каліноўскі (Урывак)*, „Ніва”, 17.03.1963, nr 11, s. 1.
[83] М. Танк, *З паэмы „Каліноўскі”*, „Ніва”, 20.03.1960, nr 12, s. 3.

Opublikowano też fragmenty sztuki „Kastuś Kalinouski" Jeuścihnieja Mirowicza, granej w Mińsku w okresie międzywojennym[84]. Przy okazji artykułów publikowano też reprodukcje portretu K. Kalinowskiego oraz obrazów Piotra Sierhijewicza „K. Kalinowski wśród powstańców" i „K. Kalinowski i W. Wróblewski na przeglądzie oddziałów powstańczych".

Ważny był też wymiar edukacyjny — postać K. Kalinowskiego znalazła się w programach nauczania języka białoruskiego na Białostocczyźnie i pojawiała się w stopniowo wydawanych — poczynając od drugiej połowy lat 60. — podręcznikach do nauki języka białoruskiego. W lekcjach publikowanych wcześniej w „Niwie" dla klasy VIII znalazł się materiał „Мужыцкая праўда", a pod nim 8 pytań do tekstu: „1. Што ведаеш аб студзеньскім паўстанні і ўдзеле ў ім Кастуся Каліноўскага?, 2. Прачытай з кнігі „Мой родны кут" абразкі з жыцця Кастуся Каліноўскага, 3. Што гаворыць аўтар аб сялянскім жыцці ў часы паншчыны?, 4. Як адносіцца Каліноўскі да цара, чыноўнікаў і памешчыкаў?, 5. Да чаго заклікае аўтар беларускіх сялян?, 6. Чаму Каліноўскі падпісваўся псеўданімам „Яська гаспадар"?, 7. Складзі малы слоўнік выразаў, якія зачэрпнуты аўтарам з народнай мовы і якіх няма ў мове літаратурнай, 8. Якія польскія пісьменнікі пісалі творы аб студзеньскім паўстанні?"[85].

W 1968 roku z okazji 130 rocznicy urodzin K. Kalinowskiego w „Niwie" Mikołaj Hajduk w cyklu „Hutarki pa rodnaj historii" przedstawił w dwóch odcinkach Konstantego Kalinowskiego i „Mużycką Praudę". Pisał o nim: „Вялікім барацьбітом за вызваленне беларускага народа з-пад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту быў Кастусь Каліноўскі"[86]. Podkreślał także, że urodził się on w rodzinie drobnego białoruskiego szlachcica w folwarku Mostowlany na Białostocczyźnie. O „Mużyckiej Praudzie" pisał, że była to pierwsza białoruska gazeta. Cały cykl był przystosowany do nauczania historii Białorusi w szkole. Do każdej części były pytania. Cały cykl został opublikowany w „Kalendarzu Białoruskim" na 1969 rok[87].

130. rocznica urodzin K. Kalinowskiego była szczególnie świętowana w 1968 roku. 10 lutego z tej okazji w siedzibie BTSK w Białymstoku odbyła się uroczysta akademia, na której referat o „rewolucyjnej działalności" K. Kalinowskiego na Białostocczyźnie wygłosił redaktor naczelny „Ni-

[84] Е. Міровіч, *Апошнія гадзіны (урывак з п'есы „Кастусь Каліноўскі")*, „Ніва", 22.03.1963, nr 12, s. 3-4.

[85] *Дружба і праца, Хрэстаматыя для VIII класа*, „Ніва", 7.08.1966, nr 32, s. 5.

[86] М. Гайдук, *Гутаркі па роднай гісторыі, Кастусь Каліноўскі. „Мужыцкая праўда"*, „Ніва", 4.02.1968, nr 5, s. 5; cd. М. Гайдук, *Гутаркі па роднай гісторыі, Кастусь Каліноўскі (Заканчэнне)*, „Ніва", 11.02.1968, nr 6, s. 5.

[87] М. Гайдук, *Гутаркі па роднай гісторыі*, «Беларускі каляндар 1969», Беласток 1968, s. 259-319; na s. 297-300: *Кастусь Каліноўскі. „Мужыцкая Праўда"*.

wy” Jerzy Wołkowycki. W części artystycznej wystąpiła Wiera Lewczuk z montażem poetyckim „Кастусь Каліноўскі ў літаратуры”[88]. W „Niwie” z tej okazji zamieszczono reportaż Aleksieja Karpiuka z Mostowlan oraz fragment powieści Sokrata Janowicza „Srebrny jeździec”. Aleksy Karpiuk, cytując K. Kalinowskiego („Так сейце ж, дзецюкі, як прыдзе пара, поўнаю рукою, не шкадуйце працы, каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюткім свеце!” — „Мужыцкая праўда” nr 2), pisał: „Шмат чаго напісана аб Кастусю Каліноўскім, рэвалюцыянеру, змагару за мужыцкую праўду, за Беларусь. І за кожным разам, калі вяртаешся да літаратуры аб Каліноўскім, магутнейшым стаецца яго веліч, як чалавека, беларуса, інтэрнацыянала. Усё больш хацелася б аб ім ведаць, пазнаць гэтага своеасаблівага чалавека. Думкі тым больш азартныя, што радзіма „Яські гаспадара з-пад Вільні” знаходзіцца ў Мастаўлянах на Беласточчыне ля самой граніцы Польшчы і БССР. Іменна ў гэтай вёсцы 2 лютага 1838 года ў сям’і беззямельнага шляхціца Сымона Каліноўскага нарадзіўся сын Канстанцін. Знамянальная гадавіна нараджэння аднаго з найвялікшых сыноў беларускага народа завяла мяне, у адзін студзеньскі марозны дзень, на радзіму Каліноўскага. Гэта мой першы візіт у Мастаўлянах, і можа таму мне больш чым іншым, удалося адчуць моўную атмасферу „Мужыцкай праўды”, рэдактарам якой быў Каліноўскі. Нават мастаўлянскія школьнікі часта ўжываюць слоў, пры дапамозе якіх Каліноўскі заклікаў мужыкоў, каб былі людзьмі вольнымі. У Мастаўлянах пастаўлена помнік Кастусю — новы школьны будынак. Гэты помнік хіба і з’яўляецца найбольш наяўным прыкладам таго, за што змагаўся Каліноўскі. Школа, у якой зараз навучаецца 122 дзяцей, мае імя Кастуся Каліноўскага, аб чым паведамляе выпісаная на польскай і беларускай мовах мемарыяльная дошка. У гэтай жа школе дзеці вучацца беларускай мовы, працуе аж 6 настаўнікаў, вядуцца курсы для дарослых для заканчэння пачатковай школы. Моладзь з гуртка ЗМВ пры дапамозе настаўнікаў ставіць беларускія п’есы. Вучні вядуць багатую перапіску з сябрамі ў БССР. Бывалі таксама пісьмы і з Вялікай Бераставіцы, дзе дзейнічаў родзіч Мастаўлян, а школа мае таксама яго імя. Кожны год адбываюцца ў школе вечарыны ці „паранкі”, прысвечаныя памяці Кастуся”[89].

Fragment powieści Sokrata Janowicza „Сярэбраны яздок” zaczynał się słowami: „Прысніўся мне кароль Беларусі, а каралём гэтым быў

[88] *БГКТ. З дзейнасці аддзела*, „Ніва”, 25.02.1968, nr 8, s. 1.

[89] А. Карпюк, *На радзіме „Яські гаспадара”. Да 130 гадавіны нараджэння К. Каліноўскага*, „Ніва”, 4.02.1968, nr 5, s. 1, 5.

Кастусь Каліноўскі. Уцякаць!... Трупа завалаклі ў зараснік, прыкрылі сухападам...”[90]. Powieść dla młodzieży — jak ją rekomendowano — powstała specjalnie z okazji 130. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego i jej akcja rozgrywa się m.in. na Białostocczyźnie. Powieść ukazała się dopiero w 1978 roku w Mińsku. Przy fragmencie powieści w „Niwie” zamieszczono reprodukcję pracy Piotra Sierhijewicza „K. Kalinowski i W. Wróblewski przeprowadzają przegląd powstańców w 1863 roku”. W 1973 roku w „Kalendarzu Białoruskim” opublikowano opowiadanie „Апошні” Mikołaja Hajduka, poświęcone powstaniu styczniowemu i jego tragedii dla Białorusinów[91].

Przy okazji rocznic urodzin i śmierci K. Kalinowskiego jego postać stała się popularnym tematem dzieł sztuki, zwłaszcza w BSRR, o czym w 105. rocznicę śmierci informowano w „Niwie”. Wśród artystów, których tematem prac stał się K. Kalinowski, wymieniono rzeźbiarzy Siarhieja Sielichanowa i Zaira Azhura, malarzy Dzmitryja Masłowa, Adolfa Huhela, Raisy Kudrewicz, Piotra Sierhijewicza, grafików Siamiona Hierusa, Pawła Maslenikowa, Askara Maryksa, M. Niczyporuka[92].

W latach 70. zainteresowanie K. Kalinowskim na łamach „Niwy” znacznie osłabło. W „Kalendarzach Białoruskich” wprawdzie ukazywały się nadal okazjonalne artykuły rocznicowe — w 1974 roku z okazji 110. rocznicy śmierci pisał o nim Aleksander Barszczewski: „Прозвішча, ідэі, дзейнасць Кастуся Каліноўскага — бадай, што найпрыгажэйшай постаці ў беларускім руху XIX ст. — выклікаюць асаблівую эмоцыю ў нас, у беларусаў Беласточчыны. Прычына гэтай эмацыянальнасці ў тым, што Каліноўскі вырас на нашай зямлі, марыў аб яе свабодзе, ваяваў за яе і за яе загінуў”[93].

Jakby w sukurs Aleksandrowi Barszczewskiemu pisał na łamach „Niwy” Mikołaj Hajduk, który przeżywał brak właściwego upamiętnienia K. Kalinowskiego w Mostowlanach: „Факт, што школе прысвоена яго імя, абавязвае да таго, каб у ёй быў адпаведны пакой-музей, прысвечаны вялікаму барацьбіту. Такога музея ў школе да гэтага часу няма. І, як здаецца, намер дырэктара школы абсталяваць усяго толькі „куточак памяці К. Каліноўскага” зусім не адпавядае рангу справы і патрэбам. Лішнія словы тут не на месцы. Напрошваюцца балючыя

90 С. Яновіч, *Сярэбраны яздок (урывак аповесці)*, „Ніва”, 25.02.1968, nr 8, s. 3.

91 М. Гайдук, *Апошні*, «Беларускі каляндар 1973», Беласток 1973, s. 142-152.

92 *Дзмітрый Маслаў мастак — жыхар вуліцы К. Каліноўскага ў Мінску*, „Ніва”, 23.03.1969, nr 12, s. 3.

93 А. Баршчэўскі, *Кастусь Каліноўскі (Да 110 гадавіны смерці)*, «Беларускі каляндар 1974», Беласток [b.r.w.], s. 63.

пытанні: як жа ж маглі дапусціць да такога стану бацькі і школа ў Мастаўлянах? Чаму не паклапаціліся пра гэта грамадскія арганізацыі гміны ў Гарадку, Беластоцкага павету? На што глядзяць працаўнікі аддзела асветы прэзідыума ПРН і беластоцкая куратория? Калі гэтай справай зоймецца аддзел БГКТ? Недзе каля паўтара стагоддзя таму назад па вузкай вулачцы Мастаўлянаў блукаў хлопчык Кастусь, а першая беларуская газета „Мужыцкая праўда" была пісана на роднай мове мастаўлянцаў"[94]. Z okazji 140. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego M. Hajduk napisał reportaż o miejscach z nim związanych na Białostocczyźnie: „Пасля невялічкага фальварку Каліноўскіх у Мастаўлянах каля Ялоўкі, дзе 21 студзеня (2 лютага па новаму стылі) 1838 года прыйшоў на свет Кастусь, засталіся толькі пакарэжаныя на––цамі ды старасцю дрэвы. (...) Ніхто не ходзіць з ірдзістымі ружамі на магілу Канстанціна Каліноўскага, бо нікому невядома, дзе яна знаходзіцца. Затое мы штодня ходзім яго паўстанцкімі шляхамі-сцяжынамі, што пралеглі на вуліцах Беластока, Гродна, Вільна, прайшлі па Саколцы, Ялоўцы, Гарадку, прабеглі па многіх навакольных вёсках, асталіся ў лясной чашчобе паміж Нёманам і Бугам. І ходзім мы па іх, і не зарастаюць яны ніколі — неабсяжныя помнікі вялікаму нашаму герою"[95]. Przy okazji zamieszczono reprodukcje portretów K. Kalinowskiego autorstwa A. Huhela i R. Kudrewicz.

Z okazji 120. rocznicy powstania styczniowego w „Kalendarzu Białoruskim" ukazał się krótki artykuł, który w całości poświęcono K. Kalinowskiemu: „Вялікую ролю адыграў ў Студзеньскім паўстанні Кастусь Каліноўскі, наш зямляк, які родам з Мастаўлян"[96]. Przypomniano, że akurat przypada 145. rocznica jego urodzin. Przytoczono fragment opinii wybitnego pisarza białoruskiego Uładzimiera Karatkiewicza o nim, wyrażonej w piśmie „Biełaruś" z okazji 100. rocznicy śmierci: „Яго звалі Кастусём Каліноўскім і за тыдзень да страшнай ночы 29 студзеня яму мінуў дваццаць шосты год. За такі час большасць людзей паспявае зрабіць мала. А гэты паспеў стварыць вольную беларускую прэсу, пасеяць насенне народнага гневу, узрасціць яго і зняць пасеў. Спачатку ён кіраваў паўстанцамі Гродзеншчыны, а потым усклаў на свае плечы паўстанне ўсёй Беларусі і Літвы. І калі белае панства здрадзіла і пакінула народ, Каліноўскі ўзначаліў яго і неймавернай сілай волі трымаў

[94] М. Гайдук, *Чаму?!*, „Ніва", 6.01.1974, nr 1, s. 1, 4.

[95] М. Гайдук, *Па Кастусёвых сцяжынах, у 140 гадавіну з дня нараджэння*, „Ніва", 29.01.1978, nr 5, s. 3.

[96] (а-мх), *Юбілеі. 120-ая гадавіна Студзеньскага паўстання*, «Беларускі каляндар 1983», Беласток 1982, s. 152.

гэты цяжар пяць месяцаў. (...) І гэтыя яго трагічныя апошнія часіны, гэтая тытанічная праца, гэтая мужная ўпэўненасць у тым, што яшчэ не скончана барацьба, гэтая гатоўнасць біцца да канца, гэтая невычэрпная любоў да волі, да радзімы, да дэмакратыі, — робяць асобу Каліноўскага самай трагічнай і велічнай у гісторыі Беларусі, яе нацыянальным героем. Вось ён, студэнт, люта спрачаецца з „белым" за волю і зямлю для народа. І мы на яго баку. Вось ён ідзе на чале мужных атрадаў: за поясам чамаркі два пісталеты, на чамарку накінута белая сялянская світка, а побач трапеча баявы сцяг. І мы захапляемся ім. Вось ён сядзіць за пяром над пробным нумарам „Мужыцкай праўды". А мы сочым за ходам яго думак і згаджаемся з імі. Каб ніхто больш не асмеліўся назваць рабом простага чалавека і крыўдзіць яго, (...) ён, гэты малады чалавек змагаўся словам, пяром і зброяй"[97]. Polecano także lekturę książki Wiktora Kordowicza „Konstanty Kalinowski", wydanej przez Ludową Spółdzielnię Wydawniczą w 1955 roku. W „Niwie" z tej okazji zamieszczono fragment przedwojennego poematu Maksima Tanka „Каліноўскі", który zaczynał się od słów:

„*Калісь Кастусём яго звалі ў Мастаўлянах,*
*У Гарадзеншчыне клікалі Світкай сяляне...*"[98]

W 1984 roku z okazji 120. rocznicy tragicznej śmierci Sokrat Janowicz pod pseudonimem Aleksander Antoszewicz potraktował K. Kalinowskiego po nowatorsku — uznał go za prekursora idei współczesnej Białorusi: „Ён — наша легенда і пакутная святасць. З яго імем мы атаясамліваем п а ч а т к і ідэі незалежнасці Беларусі. У ім выявіўся нас, беларусаў, упершыню самастойны голас"[99]. Odpowiadając na pytanie, co wiadomo o K. Kalinowskim, stwierdzał: „На дзіва вялікае — няшмат. Бачна ў гэтым нейкая заканамернасць — выдатнасць такіх людзей, іх эпахальную велічыню, дакладна заўважаюць будучыя пакаленні, ужо ўнукаў ды праўнукаў, калі, зазвычай, робіцца аднак запозна на падрабязную рэканструкцыю побыту ды дзеянняў апостальскай постаці (выміраюць сведкі адлеглых падзей, губляюцца архіўныя матэрыялы і г.д.)"[100]. Sokrat Janowicz rekonstruując legendę K. Kalinow-

97 Tamże, s. 152-153.
98 *Да трагічнай гадавіны. Сказ пра паўстанца (з паэмы М. Танка „Каліноўскі")*, „Ніва", 20.03.1983, nr 12, s. 4.
99 А. Анташэвіч, *Каліноўскі — пачаткі ідэі сучаснай Беларусі*, «Беларускі каляндар 1984», Беласток 1984, s. 113.
100 Tamże.

skiego uważał, że niedopuszczalne są dyskusje na temat jego narodowości, które pojawiły się w środowisku: „Некаторыя з нас у сваіх роздумах пра Кастуся Каліноўскага і ягоныя справы дапускаюць кардынальную памылку, менавіта, якойсці міжвольнай агістарычнасцю (што не павінна мець месца ў інтэлігентнадумаючага чалавека). Гэта звычайна недапушчальнае гаварыць пра гэтага беларускага палітыка і барацьбіта паняццямі сённяшняга дня і эпохі. Адчуваў сябе Каліноўскі беларусам ці не? Уяўляў ён сабе Беларусь як дзяржаву беларусаў ці не? І ці ёсць у нас дзеля таго падставы, каб лічыць яго будаўніком нашай нацыянальнай свядомасці? Бо, на ўсё тое, не знаходзім мы выразных ягоных выказванняў, ну, у тым, што ўцалела ці то ў выглядзе друкаў, ці проста запісаў... (...) Што ж, праўда, няма такіх. Але гэтая праўда, так сказаць, чыста фармальная. Беларусы ў сваёй масе ўсяго толькі прачыналіся да ўласнага свядомага існавання як народ з уласнай зямлёй, мовою, светапоглядам”[101].

Z okazji 150. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego przypomniał go w „Kalendarzu Białoruskim” na 1988 rok Aleksander Barszczewski: „Да постаці Кастуся Каліноўскага будуць вяртацца ўсе пакаленні свядомых беларусаў, незалежна ад таго, калі яны паявяцца на нашай зямлі. Выключная палымянасць характару, ахвярнасць у барацьбе, вера ў будучыню, нянавісць да ворагаў і любоў да роднага краю — усё гэта складаецца на сілуэт чалавека-барацьбіта, які будзе на працягу стагоддзяў прыгожым сімвалам вернасці і аддання Айчыне”[102].

Była to szczególna okazja, bowiem zarówno na Białostocczyźnie, jak i w BSRR miało miejsce białoruskie odrodzenie narodowe. Sokrat Janowicz na łamach „Niwy” pisał: „Сто пяцьдзесят гадоў у нашым баку Еўропы таксама бывае нямала. Мы, беларусы, думаючы сёння пра так круглую дату сардэчна ўспамінаем Кастуся Каліноўскага. Апостал нашага народа нарадзіўся ў перадграмнічную сярэдзіну зімы, 2 лютага 1838 года ў Мастаўлянах, што за Гарадком, у Беластоцкім цяпер краі. (...) Рыма-каталік і паляк па-свайму выхаванню, ён пачуўся беларусам. Гэтага не разумеў ніхто, акрамя жменькі ягоных сяброў, гэтак жа „хворых на сумленнасць і справядлівасць”. (...) Нехта можа сказаць: утопія Кастуся Каліноўскага! Што зваяваў паўстанец у лапцях ды з касою ў руках супроць казацкіх сотняў і армейскіх палкоў? Так пытаць, а яшчэ і з сур’ёзным выглядам твару можна якраз з перспек-

[101] Tamże, s. 122.
[102] А. Баршчэўскі, *Кастусь Каліноўскі (да 150-ай гадавіны з дня нараджэння)*, «Беларускі каляндар 1988», Беласток 1988, s. 92.

тывы паўтара стагоддзя"[103]. Przy artykule zamieszczono także linoryt Mikoły Kupawy z 1977 roku „Напачатку Кастусь Каліноўскі". Było to wynikiem kontaktów z młodym pokoleniem artystów-plastyków z BSRR, którzy z okazji 150. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego i 125. rocznicy powstania styczniowego przygotowywali wystawę w Mińsku i postanowili jesienią 1987 roku odwiedzić rodzinne strony K. Kalinowskiego. W wywiadzie dla „Niwy" Wiktor Markawiec i Mikoła Kupawa opowiedzieli, jak ich zainspirował K. Kalinowski: „Як вядома, у 1988 г. адзначаем дзве выдатныя гадавіны: 150-ую гадавіну з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 125-ую гадавіну Студзеньскага паўстання. (...) Саюз мастакоў рыхтуе адмысловую мастацкую выстаўку. Але, вядома, за доўгія часы беларускія мастакі не мелі магчымасці наведаць родныя аселіцы Кастуся Каліноўскага, якія знаходзяцца на Беласточчыне. Узнікла задума не толькі зрабіць замалёўкі, але вывучыць і мастацка засвоіць мясціны, дзе нарадзіўся К. Каліноўскі і дзе праходзілі падзеі Студзеньскага паўстання. Прыехала нас група 5 чалавек мастакоў: мы ўдвох з Мінска і трох нашых калег з Гродна (Уладзімр Коўзусь, Сяргей Асапрылка і Уладзімір Казакоў). В. Маркавец: Асноўную ўвагу мы звярнулі на Мастаўляны, радзіму К. Каліноўскага. І прыемна ўражаны маляўнічасцю тых мясцін над рэчкаю Свіслаччу. Мы перш за ўсё імкнуліся спасцігнуць адметныя рысы гэтага цудоўнага кутка. (...) Мы замалявалі агульныя віды Мастаўлян, асабліва месца, дзе была сядзіба Каліноўскіх, падмуркі сядзібы, рэшткі парку, наваколле, будынак былой школы імя К. Каліноўскага. Потым наведалі магілу паўстанцаў у Перацёсах у былой Крыноцкай пушчы, пабывалі ў Ялоўцы, Гарадку і ў Доме культуры імя К. Каліноўскага, пазнаёміліся са старымі раёнамі горада Беластока, дзе, магчыма, Б. Шварцэ, В. Урублеўскі і К. Каліноўскі друкавалі „Мужыцкую праўду". (...) Перш за ўсё з жыхарамі Мастаўлян. Цікавыя гэта былі апавяданні пра даўнія часы. Пачулі мы ад старэнькага селяніна легенду пра тое, што Кастусь Каліноўскі не загінуў на шыбеніцы. Ён з'яўляецца ў родных мясцінах. Як старэнькі чалавек з'явіўся таксама ў Мастаўлянах і прасіў людзей пацвердзіць, што ён тут жыў, бо яму тое патрэбна ў якойсьці ўстанове. „Я цяпер — вандраўнік. Але тут нарадзіўся і жыў, — казаў. — Вы ж усе мяне добра памятаеце...". Размаўлялі мы з людзьмі, якія жывуць на тым месцы, дзе была сядзіба Каліноўскіх"[104].

103 А. Анташэвіч, *Святыя жылі сярод нас. Да 150-годдзя з дня нараджэння*, „Ніва", 31.01.1988, nr 5, s. 1, 4.

104 М. Гайдук, *У Кастусёвым краі (размова з В. Маркаўцом і М. Купавам)*, „Ніва", 17.04.1988, nr 16, s. 1, 4.

Przemiany, jakie miały miejsce w Polsce i na Białorusi na przełomie lat 80. i 90. XX wieku pozwoliły na przywrócenie pamięci o wielu zapomnianych białoruskich bohaterach narodowych. K. Kalinowski znalazł się niejako na drugim planie zainteresowań dziennikarskich. Jego postać przypomniano w 1998 roku z okazji kolejnej okrągłej rocznicy urodzin. W „Niwie" obok portretu K. Kalinowskiego pojawił się kontrowersyjny artykuł Konstantego Masalskiego, w którym pisał: „І Каліноўскі, і Малахоўскі хацелі тэрорам прымусіць насельніцтва беларускіх зямель падтрымаць паўстанне. (...) Паўстанцы мардавалі таксама праваслаўных святароў на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны. (...) Можна сказаць, што Каліноўскі не змагаўся за незалежную Беларусь і свабоду беларусаў, але хацеў, каб беларусы былі падданымі польскіх паноў. Таму лічу, што асоба Каліноўскага не можа быць узорам беларускага патрыёта, тым больш, што ён не пераносіў праваслаўя. Можна яго таксама надзяліць мянушкай „вешателя", паколькі яшчэ перад Мураўёвым шырока прымяняў гэтую меру пакарання. Прапаную таксама ля абеліска ў гонар паўстанцаў 1863-64 гадоў у Сакалдзе паставіць крыж для ўшанавання нявінных ахвяр, якія пацярпелі ад атрада Каліноўскага"[105]. Polemikę z nim podjął historyk Oleg Łatyszonek, który stwierdził, że K. Kalinowski nie jest postacią jednoznaczną, ale nie można jednego mitu zastępować innym: „Асоба, вядомая ў беларускай гістарыяграфіі і літаратуры як нехта „Кастусь" Каліноўскі, беларускі нацыянальны герой, у сапраўднасці не так адназначная. Сам я неаднойчы выступаў супраць гэтага міфа. Тым не менш нельга адзін міф заступаць іншым (бо не новым), як гэта робіць Канстанцін Масальскі. Ніякая спрэчка немагчымая, пакуль бакі не дамовяцца адносна паняццяў, г.зн. што яны разумеюць пад гэтым ці іншым словам. (...) Безумоўна, Каліноўскі не змагаўся за незалежную Беларусь. Згодны я і з тым, што асноўным грэхам Каліноўскага было тое, што ён не пераносіў праваслаўя. Усё ж такі дакараць Каліноўскага ў тым, быццам бы ён не зважаў, што карэннымі жыхарамі былога ВКЛ былі беларусы і літоўцы — гэта ўжо замнога. З гэтакім апрыярычным сцвярджэннем проста немагчыма дыскутаваць. Дык да каго пісаў па-беларуску і па-літоўску ўсе свае загады, вершы і запаветы? І кім была ягоная Марыська чарнабровая — няўжо полькай? (...) К. Масальскі не разумее, да якой Польшчы Каліноўскі хацеў далучыць Літву і Беларусь. (...) Каліноўскі не быў жа ніякім каланізатарам. Змагаўся за свабоду сваёй роднай зямлі. Мы сёння можам інакш разумець гэтую свабоду, але гэта не мяняе факту,

[105] К. Масальскі, *Якім быў Канстанцін Каліноўскі*, „Ніва", 22.02.1998, nr 8, s. 4.

што каланізатарамі былі расейцы. (...) Вернемся да студзеньскага паўстання. На мой погляд была гэта палітычная авантура. Лепей было б, каб таго паўстання зусім не было. (...) Студзеньскія паўстанцы змагаліся за далучэнне Беларусі да Рэчы Паспалітай. (...) У 1863 г. незалежная Беларусь не існавала нават як ідэя. (...) Студзеньскае паўстанне мела вызваліць сялян ад прыгнёту і даць ім зямлю і волю”[106].

Powyższe wypowiedzi nie wywołały szerszej dyskusji w środowisku białoruskim. Podobnie przez lata 90. milczeniem pomijano K. Kalinowskiego w roczniku „Kalendarz Białoruski”, także w latach rocznicowych (1993, 1994, 1998, 1999). W latach 80. zlikwidowano szkołę w Mostowlanach, a budynek z czasem uległ dewastacji. Tablicę z niej, dwujęzyczną, poświęconą K. Kalinowskiemu, uratował i przechował Bohdan Dudko z Białegostoku. Dom Kultury w Gródku także nie afiszował się swym patronem — nie powstała tam jego izba pamięci z ekspozycją muzealną, a popiersie K. Kalinowskiego, które znajdowało się w jego foyer, pozostając ciągle dziełem anonimowego autora, uległo zniszczeniu i trafiło na śmietnik.

Konstanty Kalinowski istniał w świadomości młodzieży białoruskiej na Białostocczyźnie z racji obecności tej postaci w podręcznikach do nauki języka białoruskiego. Już w podręczniku do klasy czwartej szkoły podstawowej znalazło się opowiadanie Mikołaja Hajduka o dziecięcych latach bohatera. Pojawiają się w nim Mostowlany, Jakuszówka, Gościniec Jałowski. Mały Kastuś na przyjazd brata Wiktora deklamował wiersz o Tadeuszu Kościuszce, za co otrzymał od niego w prezencie książki[107]. Opowiadanie w pozytywny sposób oddziałuje na wyobraźnię dziecięcą, ukazując bohatera narodowego w wieku szkolnym — rówieśniczym dla uczniów, co także pokazano na ilustracjach do opowiadania. W podręczniku do klasy piątej znalazł się tekst Mikołaja Hajduka o K. Kalinowskim ze zdjęciem popiersia bohatera, wykonanego przez wybitnego białoruskiego rzeźbiarza Zaira Azhura. W tekście „Pałymiany zmahar” autor przedstawił koleje losów K. Kalinowskiego od urodzenia w folwarku Mostowlany po tragiczną śmierć w Wilnie: „Кастусь Каліноўскі (1838-1864) нар. у фальварку Мастаўляны каля Ялоўкі на Беласточчыне. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Свіслачы вучыўся ў Маскоўскім і Пецярбургскім універсітэтах. (...) Скончыўшы універсітэт, Каліноўскі вярнуўся на Радзіму і прыступіў да падрыхтоўкі народнага паўстання, накіраванага

[106] А. Латышонак, *Паўстанцы, партызаны*, „Ніва”, 22.02.1998, nr 8, s. 4.

[107] М. Гайдук, *Прыезд брата. З дзіцячых год Кастуся Каліноўскага*, [w:] Л. Гайдук, М. Гайдук, *У дружнай сям’і. Падручнік роднай мовы для чацвёртага класа*, Warszawa 1969, s. 205-208.

супроць царызма і памешчыкаў. Разам са сваім прыяцелем, польскім рэвалюцыянерам Валерыем Врублеўскім у 1862-1863 гадах у Беластоку патаемна выдаваў першую газету на беларускай мове „Мужыцкая праўда". Газета растлумачвала чытачам варожыя адносіны царскага ўрада і памешчыкаў да працоўнага люду, павучала, як трэба рыхтавацца да паўстання. У 1863 годзе Кастусь Каліноўскі ўзначаліў народнае паўстанне ў Беларусі і Літве. Потым кіраваў утвораным паўстанцамі нелегальным „Чырвоным жондам". Ён наведваў паўстанчаскія атрады, пісаў палымяныя адозвы да беларускага народа, выступаў з прамовамі, заахвочваў паўстанцаў ахвярна змагацца за зямлю і волю для працоўных. Будучыню беларускага народа бачыў у еднасці з вольнымі ад царскага і памешчыцкага прыгнёту рускім і польскім народамі. Царскім уладам удалося арыштаваць Кастуся Каліноўскага. Загінуў ён на шыбеніцы ў 1864 годзе ў Вільні"[108]. Pod tekstem znalazły się pytania dla uczniów dotyczące zrozumienia i zapamiętania najważniejszych faktów z życia K. Kalinowskiego, w tym o „Mużyckiej Praudzie". W tym podręczniku zamieszczono także fragment poematu „Кастусь Каліноўскі" Maksima Tanka :

*„Калісь Кастусём яго звалі ў Мастаўлянах,*
*У Гарадзеншчыне клікалі Світкай сяляне,*
*З-пад сіняга Буга па горны Уральскі стром*
*Цар ахрысціў яго — Бунтаўшчыком.*
*Галавы яго царскія слугі шукаюць,*
*Па дарогах хітрыя петлі стаўляюць,*
*Праклінае кат Мураўёў*
*І папы медным гулам званоў.*
*А ён полем шырокім на коніку едзе.*
*Праз лясы прабіраецца шэрым мядзведзем;*
*Праз азёры і рэкі плыве шчупаком,*
*А пад хмарамі кружыць арлом.*
*Ходзіць ён па шырокай зямлі і склікае,*
*Малайцоў і дружыну сабе выбірае..."*[109]

We wznowionym w 1987 roku podręczniku do klasy piątej zamiast popiersia K. Kalinowskiego znalazła się ilustracja Ewy Brykowskiej, przed-

108 М. Гайдук, *Палымяны змагар*, [w:] Л. Гайдук, М. Гайдук, *У добры час. Падручнік роднай мовы для пятага класа*, Warszawa 1972, s. 82.
109 М. Танк, *Быліна. З паэмы «Кастусь Каліноўскі»*, [w:] Л. Гайдук, М. Гайдук, *У добры час*, s. 83-85.

stawiająca K. Kalinowskiego wśród powstańców. W ramach zadań dla uczniów miał on również posłużyć do wypowiedzi na temat „Кастусь Каліноўскі — змагар за волю беларускага працоўнага народа”[110].

W podręczniku do klasy szóstej znalazło się opowiadanie Alesia Barskiego o wydawanej przez K. Kalinowskiego gazetce „Mużyckaja Prauda”, w której mówi on: „Будзем мецъ, Васіль, газету, якой яшчэ свет не бачыў!”[111] Zamieszczono w nim także zdjęcie K. Kalinowskiego oraz ilustrację Stanisława Rozwadowskiego „Kalinowski wśród powstańców”[112].

W klasie siódmej uczniom proponowano tekst „Mużyckiej Praudy” nr 4[113], reprodukcję obrazu S. Huhela i R. Kudrewicz „Кастусь Каліноўскі”, przedstawiającego bohatera przemawiającego do ludu na rynku[114] oraz poemat Michasia Maszary „Кастусь Каліноўскі”:

*„Паўстанне згашана, зламана,*
*Лікуй і цешся, Мураўёў:*
*Табой заглумлена, стаптана*
*Надзея вольнасці ізноў.*
*Пад цяжкім ботам мураўёўскім*
*Замоўкла Беларусь і Польшча,*
*І сам на’т грозны Каліноўскі*
*Ужо цару не страшны больш.*
*Пануры мур — астрог... і краты*
*У лёху цёмным і глухім,*
*Як леў зняволены, „дыктатар”*
*Сядзіць закуты ў ланцугі.*
*... Я знаю — гіну не дарма*
*Паўстане край мой,*
*Край любімы...*
*Яму я волю абвясціў.*
*Цябе, народ,*

110 Л. Гайдук, М. Гайдук, *У нашай грамадцы. Падручнік беларускай мовы для 5 класа пачатковай школы*, Warszawa 1987, s. 104; w tym podręczniku także: М. Гайдук, *Палымяны змагар*, s. 97-98; М. Танк, *Каліноўскі. Урыўкі з паэмы*, s. 98-100.

111 А. Барскі, *Першая беларуская газета (урывак з апавядання „Абразкі з жыцця Кастуся Каліноўскага”)*, [w:] Л. Варабей, Л. Раманюк, *Мір нам патрэбен. Хрэстаматыя для VI класа*, Warszawa 1968, s. 63.

112 Л. Варабей, Л. Раманюк, *Мір нам патрэбен*, s. 63-64.

113 *К. Каліноўскі, Мужыцкая праўда № 4*, [w:] Л. Врубэль і Л. Раманюк, *Яднае нас дружба. Хрэстаматыя для VII класа*, Warszawa 1975, s. 15, 17.

114 Л. Врубэль і Л. Раманюк, *Яднае нас дружба*, s. 16.

*Цябе, радзіма,*
*Як я,*
*Ніхто так не любіў....*
*— Я з беларускага народу,*
*яму служыў,*
*а імя ўнукі успамянуць.*
*... Падняў змагання сцяг крывавы*
*За працы люд! За Беларусь!*
*... Не страшна смерць і вашы кпіны.*
*Аддаў змаганню я ўсё*
*І рад для роднае краіны*
*Аддаць жыццё.*
*... Я — барацьбіт, а не юдаш!*
*Усё прыму... пакуты, болі,*
*Са смерцю нават прымірусь,*
*Адно — не здраджу я ніколі*
*Працоўны люд і Беларусь.*
*... О, Беларусь!*
*Мая Марыська!*
*Каханне шчырае маё,*
*Бывай! —*
*Расстанне надта блізка.*
*Бывай змаганне і жыццё!*
*Бывай, няволя і пакута!*
*Бывай, народ!*
*Я ўсё аддаў табе.*
*Ты разарвеш няволі путы*
*І жыць пачнеш сабой, сабе.*
*Народзе, устанеш! —*
*І парукай*
*За лёс твой сёння смерць мая.*
*З няволі, здзеку, крыўд і мукі*
*Паўстанеш — да жыцця!"*[115]

Uczniom klasy siódmej stawiano zadania, dotyczące wiedzy na temat powstania styczniowego, charakterystyki K. Kalinowskiego jako przy-

[115] М. Машара, *Кастусь Каліноўскі. Паэма*, [w:] Л. Врубэль і Л. Раманюк, *Яднае нас дружба*, s. 18-25.

wódcy narodu białoruskiego w powstaniu styczniowym, umiejętności tytułowania poszczególnych części poematu oraz rozumienia sensu wypowiedzi bohatera w stosunku do narodów rosyjskiego i polskiego[116].

W podręczniku do klasy ósmej autorstwa Aleksandra Barszczewskiego i Wiktora Szweda uczniom przedstawiono „Mużycką Praudę" nr 1[117]. Postawiono następujące pytania i zadania: 1. Што ведаеш аб студзеньскім паўстанні 1863 года і ўдзеле ў ім Кастуся Каліноўскага?; 2. Прачытай з кнігі „Мой родны кут" абразкі з жыцця Кастуся Каліноўскага; 3. Што гаворыць аўтар аб сялянскім жыцці ў часы паншчыны?; 4. Як адносіцца Каліноўскі да цара, чыноўнікаў і памешчыкаў?; 5. Да чаго заклікае аўтар беларускіх сялян?; 6. Чаму Каліноўскі падпісваўся псеўданімам „Яська, гаспадар"?; 7. Складзі малы слоўнік выразаў, якія зачэрпнутыя аўтарам з народнай мовы і якіх няма ў літаратурнай мове; 8. Якія польскія пісьменнікі пісалі творы аб студзеньскім паўстанні?

W podręczniku do klasy ósmej autorstwa Nadziei Panasiuk, wydanym w 1993 roku, uczniom zaproponowano wiersz o K. Kalinowskim autorstwa Piatrusia Brouki:

*„На Беларусі*
*Па вёсках ідуць пагалоскі —*
*З'явіўся Кастусь Каліноўскі..."*[118]

Od uczniów wymagano, by wiedzieli, kim był K. Kalinowski, kiedy żył i działał[119].

Do 2000 roku nie było podręczników do języka białoruskiego do liceum ogólnokształcącego wydanych w Polsce. Nauczyciele w Bielsku Podlaskim i Hajnówce korzystali z podręczników wydawanych na Białorusi, w których K. Kalinowski przedstawiany był jako bohater narodowy.

Po reformie szkolnictwa w Polsce postać K. Kalinowskiego w nowych podręcznikach do języka białoruskiego została poważnie ograniczona. W podręcznikach do szkoły podstawowej nie występuje, chociaż w klasie piątej pojawiają się „Слаўныя сыны Радзімы", ale bez K. Kalinowskiego[120].

116 Л. Врубэль і Л. Раманюк, *Яднае нас дружба*, s. 26.
117 *К. Каліноўскі, Мужыцкая праўда № 1*, [w:] А. Баршчэўскі, В. Швед, *Насустрач жыццю. Хрэстаматыя для VIII класа*, Warszawa 1974, s. 16-18.
118 П. Броўка, *Кастусь Каліноўскі*, [w:] Н. Панасюк, *Беларуская скарбніца. Падручнік беларускай мовы для 8 класа*, Warszawa 1993, s. 146-149.
119 Н. Панасюк, *Беларуская скарбніца*, s. 149.
120 Т. Русачык, *Вяснянка. Падручнік па беларускай мове для пятага класа*, Warszawa 1999.

Konstanty Kalinowski pojawia się dopiero w podręczniku do klasy drugiej gimnazjum. Zamieszczono w nim portret K. Kalinowskiego, fragmenty „Mużyckiej Praudy" i informację o tej gazecie: „(...) заклікала беларускіх сялян падтрымліваць польскі нацыяналістычна-вызваленчы рух (...)"[121]. Brakuje w nim nawet informacji, że K. Kalinowski urodził się na Białostocczyźnie.

W nowym podręczniku do nauki języka białoruskiego w klasie drugiej liceum ogólnokształcącego proponuje się portret K. Kalinowskiego, notkę o jego życiu (lata życia) i działalności. Przedstawiony został w nim jako „змагар за разняволенне, роўнасць, нацыянальнае адраджэнне Беларусі, кіраўнік студзеньскага паўстання, публіцыст і пісьменнік, аўтар 7 нумараў газеты „Мужыцкая праўда", шэрагу інструкцый і заклікаў, некалькі лістоў"[122]. Zwrócono uwagę, że „«Мужыцкая праўда» — нелегальная лістоўка на беларускай мове лацінскімі літарамі"[123]. Zamieszczono fragment nr 1 ulotki oraz „Пісьмы з-пад шыбеніцы: Марыська-чэрнаброва". W zadaniach dla uczniów wymagano zrozumienia sensu, symboliki, sposobu przedstawiania przez K. Kalinowskiego wizji państwa i społeczeństwa.

W antologii literatury białoruskiej dla szkół średnich zamieszczono notkę biograficzną o K. Kalinowskim, podając lata jego życia oraz podstawowe informacje: „беларускі патрыёт, публіцыст і кіраўнік Студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве. Разам з В. Врублеўскім, Ф. Ражанскім і інш. выдаваў (1862-1863) беларускую нелегальную газету „Мужыцкая праўда", у якой заклікаў сялян да антыцарскага паўстання. Артыкулы падпісваў „Яська гаспадар з-пад Вільні". У турме напісаў і перадаў на волю «Лісты з-пад шыбеніцы»"[124]. Pod biogramem znalazła się „Мужыцкая праўда № 3"[125].

Po reformie szkolnictwa w „Zorce" (dodatku do „Niwy") w 2003 roku w ramach czteroodcinkowego cyklu „Adkul nasz rod" ukazał się esej Uładzimiera Arłowa o K. Kalinowskim, który mógł być wykorzystywany jako pomoc dydaktyczna w nauczaniu języka białoruskiego[126].

[121] Т. Русачык, *Шлях да сябе, II клас*, Warszawa 2001, s. 78-80.

[122] Я. Грыгарук, *З васільковых крыніц*, Warszawa 2003, s. 63.

[123] Tamże.

[124] В. Сянкевіч, Я. Грыгарук, *Беларуская літаратура. Хрэстаматыя для сярэдніх школ*, Warszawa 2001, s. 54.

[125] *К. Каліноўскі, Мужыцкая праўда № 3*, [w:] В. Сянкевіч, Я. Грыгарук, *Беларуская літаратура. Хрэстаматыя*, s. 54-56.

[126] У. Арлоў, *Адкуль наш род, Кастусь Каліноўскі*, „Ніва", 2.02.2003, nr 5, s. 7 („Зорка"); 9.02.2003, nr 6, s. 7 („Зорка"); 16.02.2003, nr 7, s. 6 („Зорка"); 23.02.2003, nr 8, s. 7 („Зорка").

W wyniku procesu edukacyjnego oraz lektur białoruskiej „Niwy", „Zorki", „Kalendarzy Białoruskich" Białorusini na Białostocczyźnie mieli możliwość przyswojenia wiedzy o K. Kalinowskim jako o swoim rodaku. Studenci białoruscy oraz młodzież w ramach rajdów turystycznych „Baćkauszczyna", „Sciana" odwiedzali Mostowlany — miejsce urodzenia K. Kalinowskiego. Także w trakcie warsztatów dla uczniów „Sustreczy", organizowanych przez Hannę Kondratiuk z redakcji „Niwy", w 1996 roku odbył się objazd szlakiem K. Kalinowskiego do Jałówki i Mostowlan. W 2009 roku Hanna Kondratiuk jeszcze raz wyprawiła się do Jałówki i Mostowlan w poszukiwaniu śladów Konstantego Kalinowskiego. Wrażenia z wyprawy opisała w obszernym reportażu na łamach „Niwy"[127]. Była to pierwsza publikacja po długiej przerwie, poświęcona śladom K. Kalinowskiego na Białostocczyźnie. Autorka w pierwszym odcinku stwierdzała nikłe zainteresowanie K. Kalinowskim w jego małej ojczyźnie: „Цікавасць да гэтай асобы тут, на яго радзіме, роўная нулю"[128]. Inspiracją do wyprawy śladami K. Kalinowskiego był „гродзенскі краязнаўчы сшытак з архіўнымі матэрыяламі пра Кастуся Каліноўскага. На наступны дзень я села ў аўтобус і паехала ў Ялоўку. Паводле звестак там пахавана Вераніка Каліноўская з дому Рыбінская. Маці будучага рэвалюцыянера памерла ў час родаў, калі ў сям'і мела з'явіцца дванаццатае па ліку дзіця. Хатняя гісторыя, тая сапраўдная, па дакументах, пасадзіла мяне ў крэсла. Яна здалася мне намнога больш трагічнай і складанай, чым усе літаратурныя і мастацкія біяграфіі Кастуся Каліноўскага. (...) На здаровы розум, мой пошук магілы маці, сясцёр і братоў рэвалюцыянера не павінен быць складаным. Паколькі Вікенція-Канстанціна хрысцілі 6 лютага 1838 года ў рыма-каталіцкім парафіяльным касцёле ў Ялоўцы, магілы маці і прынамсі часткі сям'і павінны знаходзіцца там жа. (...) Жанчына, якая на ровары заехала на старанна дагледжаны ксяндзоўскі панадворак, магілы Каліноўскіх прапанавала шукаць на праваслаўным могільніку? — Tam Kalinouskich jak psów! — кінула яна і параіла пачакаць ксяндза. Мая субяседніца многія гады працавала настаўніцай у Мастаўлянах і Зубрах. У Мастаўлянах была школа імя Кастуся Каліноўскага, — цягнула я. — Coś takiego faktycznie było, — пачула я ў адказ"[129]. W Jałówce znaj-

[127] Г. Кандрацюк, *У Мастаўлянах усе нараджаліся маленькімі...*, „Ніва", 30.08.2009, nr 35, s. 9; 6.09.2009, nr 36, s. 12; 13.09.2009, nr 37, s. 12; 20.09.2009, nr 38, s. 12; 27.09.2009, nr 39, s. 12; 4.10.2009, nr 40, s. 12; 11.10.2009, nr 41, s. 12; 18.10.2009, nr 42, s. 12; 25.10.2009, nr 43, s. 12; 1.11.2009, nr 44, s. 12.

[128] Tamże, „Ніва", 30.08.2009, nr 35, s. 9.

[129] Tamże.

duje się tablica z historycznymi wydarzeniami tego dawnego miasta, ale fakt chrztu w nim K. Kalinowskiego został pominięty, chociaż wspomniano na niej powstańców styczniowych: „Ля бюста-помніка каралю Жыгімонту Аўгусту ІІ укапаная табліца са знакавымі, на думку тутэйшых гісторыкаў, датамі для Ялоўкі. Мяне прыемна здзівіла згадка пра паўстанцаў 1863-64 гадоў. Гэта быў першы і апошні след у справе Кастуся Каліноўскага. Я ўжо раней зразумела, што не магу разлічваць на факты. Дарэчы, усе даследчыкі згодны ў адной справе: Вікенцій Канстанцін Каліноўскі, нават пасля смерці астаўся ў канспірацыі. У занатоўцы, паміж векапомнымі падзеямі Ялоўкі, чытаем: — 1863 год, на Зялёныя Святкі ў Ялоўцы з'явіліся партызаны Студзеньскага паўстання з Валерым Урублеўскім на чале, тут быў зачытаны Маніфест Нацыянальнага ўраду; у партызанскія рады былі прыняты 100 добраахвотнікаў. (1863 na Zielone Świątki przybyli do Jałówki partyzanci Powstania Styczniowego na czele z Walerym Wróblewskim, gdzie odczytany został Manifest Rządu Narodowego; do powstania przystąpiło 100 ochotników). Хрышчэння Кастуся Каліноўскага, ці не самага вядомага ўраджэнца Ялоўскай парафіі, мясцовыя гісторыкі не адзначылі. (...) На пытанне пра Кастуся Каліноўскага местачкоўцы адразу адаслалі мяне да ксяндза: „On jeden może coś wiedzieć!"[130]

Mieszkańcy Mostowlan — jak wynika z reportażu Hanny Kondratiuk — niewiele wiedzą o K. Kalinowskim: „Памяць аб прамысловай ініцыятыве Каліноўскіх у сённяшніх Мастаўлянах не захавалася. Не было ў нас ніякай фабрыкі, — рашуча заявілі жанчыны, якія выседжвалі на лавачцы ля Зарэцкіх. Сярод іх была і настаўніца мясцовай школы імя Кастуся Каліноўскага. Пра іх славутага земляка ведалі тут, што нарадзіўся, змагаўся і загінуў на шыбеніцы. Жанчыны не маглі паверыць, што палатно і абрусы выраблялі з ільну, якім былі абсеяны ўсе іхныя навакольныя палі. Сёння там непраходныя аблагі, парослыя буйнымі, здзічэлымі лугамі і кустоўем. Падобна выглядала тут справа з гістарычнай памяццю. Першы раз у Мастаўляны завітала я ў 1985 годзе. З перспектывы часу відаць як погляды пра Каліноўскага змяняліся тут разам з палітычнай рэчаіснасцю. Як добра памятаю, у вяскоўцаў ніколі не было адназначнага грунтоўнага пункту гледжання на тэму Вікенція Канстанціна Каліноўскага. Каліноўскі не цікавіў мясцовых сялян, так як хацелі б яго фанаты і даследчыкі. Мастаўлянцаў, як класічных беларусаў, больш цікавіла тое, хто і чаго завітаў у іх вёску. Яны, пакуль нешта сказалі, прынюхваліся да намераў, сачылі

[130] Tamże, „Ніва", 20.09.2009, nr 38, s. 12.

за жэстамі, правяралі. Пасля, каб задаволіць гасцей, гаварылі нешта кшталту: Каліноўскі змагаўся з панамі і яго за гэта павесілі”[131].

Hanna Kondratiuk w artykule przedstawiła dystans, jaki mają mieszkańcy Mostowlan do postaci K. Kalinowskiego: „У пачатку вёскі мае „добрыя знаёмыя”, якіх я бачыла толькі раз у жыцці, пачалі вучыць розуму: — Ці вам ужо ў той „Ніве” не хапае нармальных людзей? Навошта вам „насвятляць” гэтага мяцежніка? — Вы супраць, каб гаварыць пра вашага ўраджэнца? — Які ён наш! (...) — У вас жа была школа названая яго імем... — Вы лепш яго не „насвятляйце”! — асцерагалі мяне па-бацькоўску дзядзькі. — Чаму? Бо гэта сабачая антыбеларуская тэма! Лепш памаўчаць. І прыгадалі пра сустрэчу з мінчукамі, якія прыперліся, як і я, тасама „насвятляць” Каліноўскага: адзін з іх меў спытаць мастаўлянцаў ці ведаюць, што ў іх нарадзіўся вялікі чалавек?! Тут ведалі, як адказаць, па сёння паўтараюць і смяюцца ў вёсцы. Бо сказалі... што ў іх усе нараджаліся маленькімі”[132]. Wprawdzie w Mostowlanach nie wszyscy jednoznacznie są krytyczni wobec K. Kalinowskiego. Jak napisała Hanna Kondratiuk „Спадар Міхал (Арцёмчык) прывык да наведвальнікаў з Беларусі і Польшчы. — Калі хочаце ставіць тут помнік ці камень, — кажа мне, — то сабе стаўце, я не супраць”[133].

Niejako konkluzja refleksji Hanny Kondratiuk na temat Konstantego Kalinowskiego została sformułowana w „Zorce” na początku 2013 roku z okazji 150. rocznicy powstania styczniowego: „Каго любіш? — Люблю Беларусь! — То ўзаемна! Гэта не верш, а пароль паўстанцаў 1863 года, паплечнікаў Кастуся Каліноўскага. Беларусы Беласточчыны наогул нічога не ведаюць пра ролю беларусаў у паўстанні. Нават магілы паўстанцаў, якія знаходзяцца ў нашых вёсках і лясах (іх найбольш у Кнышынскай і Белавежскай пушчах), не выклікаюць большай цікавасці. Чаму так адбываецца? Найперш таму, што ўсю гісторыю ведаем з польскіх падручнікаў, дзе няма спасылкі на беларускія пытанні. Навучэнцы беларускай мовы ведаюць крыху больш. Кастусь Каліноўскі бачыцца тут найперш як рэдактар першай беларускай газеты „Мужыцкая праўда”. Якраз пачалося ў Польшчы шумнае святкаванне 150-й гадавіны ад успыху паўстання 1863 года (тэрмін „Студзеньскае паўстанне” вядомы ў Польшчы). Мы заахвочваем вас прачытаць пра падзею, бачаную вачыма беларусаў. Тут трэба згадаць знакамітую

[131] Tamże, „Ніва”, 4.10.2009, nr 40, s. 12.
[132] Tamże, „Ніва”, nr 41, 11.10.2009, s. 12.
[133] Tamże, „Ніва”, nr 44, 1.11.2009, s. 12.

аповесць Сакрата Яновіча „Сярэбраны яздок". Яго паўстанцы гэта звычайныя хлопцы з нашых мястэчак: Крынак, Ялоўкі, Саколкі. Варта таксама пачытаць „Мужыцкую праўду", якая даступная ў інтэрнэце. Праўда, гэтую прапанову накіроўваем адно да старэйшай моладзі, паколькі сваёй вастрынёй яна прыцьміць усякія баевікі і жахалкі. Трэба тут таксама памятаць, што газета заклікае на вайну, таму на яе экстрэмальны характар трэба глядзець з дыстанцыяй і зразуменнем гісторыі. „Мужыцкая праўда" пісалася на нашай зямлі, а сам Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага ў Мастаўлянах, што на Гарадоччыне"[134].

Przy okazji 150. rocznicy powstania styczniowego Siarhiej Czyhryn wspomniał o sporze dotyczącym narodowego aspektu działalności K. Kalinowskiego oraz o wydanej ostatnio w Mińsku książce o nim: „Яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў паміж беларускімі гісторыкам Міхасём Бічом і літаратуразнаўцам Уладзімірам Казберуком узнікла спрэчка ў пытаннях грамадска-палітычных поглядаў Кастуся Каліноўскага. Уладзімір Казбярук лічыў дзейнасць Кастуся Каліноўскага выключна польскай. Міхась Біч не пагаджаўся з такімі аргументамі і казаў, што погляды Уладзіміра Казберука супадаюць з ацэнкай дзейнасці Кастуся Каліноўскага савецкай гістарыяграфіяй 1930-х гадоў. Але навуковыя даследчыкі пагадзіліся ў адным моманце, што падзеі звязаныя з паўстаннем 1863-1864 гадоў можна лічыць пачаткам беларускай нацыянальнай ідэі ці, прынамсі, пачаткам пачатку. Пра гэта і пра іншыя факты і падзеі, звязаныя з Кастусём Каліноўскім і яго эпохай у дакументах і культурнай традыцыі можна даведацца з мінскага выдання. Зборнік складаецца з матэрыялаў VII Міжнароднай навуковай канферэнцыі Беларускага гістарычнага таварыства, якая адбылася ў Мінску. Аўтары кнігі „Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі" цікава і грунтоўна разглядаюць аспекты разгортвання антырасійскага паўстання на беларускіх землях, жыццёвы шлях яго кіраўніка, а таксама духоўную спадчыну Кастуся Каліноўскага і ягонае месца ў беларускай культурнай традыцыі. Як лічаць гісторыкі Аляксандр Краўцэвіч і Алесь Смалянчук, прыйшоў час правесці свайго роду рэвізію нашых ведаў пра Кастуся Каліноўскага, прасачыць эвалюцыю ягонага вобраза ў нацыянальным дыскурсе і культурнай традыцыі (у першую чаргу у культурнай памяці, якая пашыраецца з дапамогай мас-медыяў і замацоўваецца ў помніках,

[134] (гак), *Студзеньскае паўстанне па-беларуску!*, „Ніва", 27.01.2013, nr 4, s. 7 („Зорка").

назвах вуліц, школ, гістарыяграфіі, падручніках і літаратуры), ацаніць комплекс крыніц даследавання, вызначыць далей яго накірункі. Сапраўды, рэвізія даследчыкаў Кастуся Каліноўскага і яго эпохі ўдалася”[135].

Jako podsumowanie rozważań na temat obecności Konstantego Kalinowskiego w świadomości Białorusinów w Polsce (na Białostocczyźnie) może służyć opublikowana w „Niwie” wypowiedź z okazji 150. rocznicy powstania styczniowego: „Збройны чын 1863 года разглядаецца пераважна праз міфалагічную прызму савецкай па часе і расійскай па сутнасці гістарыяграфіі. Паўстанне мела найперш характар нацыянальна-вызвольнага руху, змагання з расійскім імперыялізмам, а не палітычным рэжымам цара Аляксандра II. Змаганне супраць царызму ў 1863 годзе не было змаганнем супраць манархічнага спосабу кіравання дзяржавай. У колах інсургентаў, асабліва ў стане „белых”, было дастаткова людзей, якія марылі пра адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага ці Рэчы Паспалітай як канстытуцыйнай манархіі. Паўстанне мела перш за ўсё нацыянальна-вызвольны, а пасля ўжо эканамічна-сацыяльны характар. Кожнаму вызвольнаму руху на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай расійскай і савецкай гістарыяграфіяй прышчэпліваўся ярлык „польскі мяцеж”. Украінцы, ці беларусы пры гэтым „не заўважаліся”. Такія „навуковыя” працы пісаліся згодна дзяржаўнай дактрыны Масквы, паводле якой беларусы і ўкраінцы мусілі як нацыі „слится” з вялікім расійскім народам. Ліцвінскі (беларускі) элемент мацнеў з кожным чынам (1794, 1830, 1863 гг.). Ускосным сведчаннем таму і польская гістарыяграфія. Навуковых прац, прысвечаных паўстанню 1863 г. у ёй меней, чым манаграфій на тэму паўстання 1794 г. Пераважная частка баявых дзеянняў была на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а таксама на яе этнічных тэрыторыях. У сваёй „Мужыцкай праўдзе” Каліноўскі яскрава выступае супраць панскага прыгнёту і палітычнай залежнасці ад Польшчы. Паўстанне не мела такога антыправаслаўнага характару, як сцвярджаюць многія. Перш за ўсё „антыправаслаўе паўстанцаў” звязваюць з асобай Кастуся Каліноўскага. Ён сапраўды выказваўся супраць маскоўскага праваслаўя і быў зацятым апалагетам адраджэння ўніяцтва. Каб зразумець гэта, трэба зазірнуць у кантэкст гістарычнай эпохі. (...) Калі скасавалі ўнію, у храмах былі забаронены казанні па-беларуску, знішчаліся

[135] С. Чыгрын, *Пра Кастуся Каліноўскага і яго эпоху. Да 150-годдзя Студзеньскага Паўстання*, „Ніва”, 20.01.2013, nr 3, s. 5.

[136] *1863 год. „А будзе ў нас вольнасць, якой не было...”*, „Ніва”, 27.01.2013, nr 4, s. 10.

шматлікія культурныя каштоўнасці, палілася літургічная і тэалагічная літаратура. Расійскія праваслаўныя цэрквы сталі асяродкамі палітычнай прапаганды імперскай палітыкі Масквы. Праваслаўных жа ўдзельнікаў паўстання, асабліва на Магілёўшчыне, было даволі шмат. Прыкладам, з ліку 56 студэнтаў і навучэнцаў, якіх выключылі з Горы-Горацкіх земляробчага інстытута і землямернай вучэльні за ўдзел у паўстанні, 27 чалавек былі праваслаўнага вызнання. Вызвольнае паўстанне Каліноўскі і паплечнікі бачылі як адзіны шлях да незалежнасці. Абодва лагеры — „белых" і „чырвоных" былі патрыятычнымі, мелі розніцу ў светаглядзе, але прагнулі такой вольнасці, „якой не было нашым дзядам ды бацькам". Патрэба сённяшняга асэнсавання паўстання 1863 года — глянуць на яго „беларускімі вачамі", але праз светагляд чалавека таго часу", — як сцвярджаюць"[136].

**Summary**

**Konstanty Kalinowski (Kastuś Kalinouski) as Perceived by Belarussians Living in Poland**

The figure of Konstanty Kalinowski, born in 1838 in Mostovlany, became a part of Belorussian national identity already in the period of WWI, when the activists of the new Belorussian national movement were looking for national heroes; to found the movement for independence in the historical tradition of the Great Duchy of Lithuania and its heritage. Kastuś Kalinowski, a leader of the 1863 January Uprising in Lithuania and Belarus, became one of them; mostly thanks to the illegal periodical published in Belorussian (but with Latin characters) *Mużyckaja Prauda*. Kalinowski was described by a historian specializing in the January Uprising, Usievalad Ihnatovski in *Historyja Biełarusi XIX i paczatku XX stahoddza (The History of Belarus in the Nineteenth Century and in the Beginnings of the Twentieth Cantury)* (Minsk, 1929). In Vilnius in 1933 rev. Adam Stankiewicz, to commemorate 70-th anniversary of the January Uprising and the 15-th anniversary of the People's Republic of Belarus, published a book entitled *Kastuś Kalinoŭski, „Mużyckaja Praŭda" i ideja niezależności Biełarusi (Kastuś Kalinouski, Mużyckaja Praŭda and the Idea of Belarus's Independence).* Michaś Mashera and Maksim Tank wrote long poems devoted to Kalinowski and Piotr Sierhieievich painted his portrait and two paintings devoted to him. After WWII the figure of Kalinowski was present in the Belarussian language textbooks and he was also described in Belorussian periodicals published in Poland. Kalinowski was also a protagonist of such literary texts as: Sokrat Janowicz's *Siarebrany jazdok (A Silver Rider)* and Mikolai Haiduk's *Aposzni (The Last One)* as well as the poems of Aleś Barski and Victor Shved. His name was given to a street in Białystok, a primary school in Mostovlany and a cultural centre in Grodek. Both before and after WWII he has been remembered mostly because of *Mużyckaja Praŭda* the first newspaper published with Latin characters and because of the January Uprising.

**Keywords**: Konstanty Kalinowski, national awareness, national hero, commemorations

**Змест**

**Кастусь Каліноўскі ў свядомасці беларусаў Польшчы**

Асоба Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага, народжанага ў 1838 годзе ў Мастаўлянах, упісалася ў беларускую нацыянальную свядомасць яшчэ ў гады Першай сусветнай вайны, калі дзеячы маладога беларускага руху шукалі нацыянальных

герояў, каб незалежніцкія памкненні ўкласці ў гістарычыную традыцыю Вялікага Княства Літоўскага і яго спадчыны. Кастусь Каліноўскі, кіраўнік паўстання 1863-1864 гадоў на Літве і Беларусі, стаў такім героем галоўным чынам па прычыне падпольнага выдання «Мужыцкая праўда» на беларускай мове (друкаванага лацінкай). Пісаў аб ім гісторык, даследчык паўстання 1863-1864 гадоў Усевалад Ігнатоўскі ў працы «Гісторыя Беларусі XIX і пачатку XX стагоддзя» (Менск 1929). У 1933 годзе ў Вільні да 70-й гадавіны паўстання і 15-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі кс. Адам Станкевіч выдаў кніжку «Кастусь Каліноўскі, «Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасці Беларусі». Міхась Машара і Максім Танк напісалі паэмы, прысвечаныя Кастусю Каліноўскаму, а Пётра Сергіевіч намаляваў партрэт і карціны «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 года» і «К. Каліноўскі і В. Урублеўскі робяць агляд паўстанцаў». Пасля Другой сусветнай вайны асоба К. Каліноўскага асвятлялася ў падручніках па беларускай мове ў Польшчы, пісалі аб ім у штотыднёвіку «Ніва» і штогодніку «Беларускі каляндар»; стаў ён героем літаратурных твораў — «Сярэбраны яздок» Сакрата Яновіча, «Апошні» Міколы Гайдука, вершаў Алеся Барскага і Віктара Шведа. Яго імя прысвоена было вуліцы ў Беластоку, школе ў Мастаўлянах і Дому культуры ў Гарадку. Памяць аб Кастусю Каліноўскім сярод беларусаў Польшчы звязана была галоўным чынам з першай беларускай газетай друкаванай лацінкай «Мужыцкая праўда» і паўстаннем 1863-1864 гадоў.

**Ключавыя словы:** Кастусь Каліноўскі, нацыянальная свядомасць, нацыянальны герой, увекавечанне.

**Helena Głogowska** — dr hab., profesor Uniwersytetu Kazimierza Wielkiego w Bydgoszczy.

**Наталія Крывашей**
(Люблін)

# СМІ ў працэсе фармавання вобразу палітычнай апазіцыі ў Беларусі (канец 1980-х — 1994 гг.)

Сучаснае фармаванне медыярынку Рэспублікі Беларусь пачалося ў 90-х гадах XX стагоддзя. Адметная асаблівасць ад іншых постсавецкіх дзяржаў заключаецца ў тым, што не было працэдуры раздзяржаўлення сродкаў масавай інфармацыі. Недзяржаўныя СМІ ўзнікалі не ў выніку прыватызацыі дзяржаўных СМІ, а як прыватныя ініцыятывы[1].

**Савецкі перыяд: 1980-1990 гады**

У сістэме СМІ 1980-х гадоў у Беларусі паралельна існавалі дзве падсістэмы, якія знаходзіліся ў вертыкальным падпарадкаванні. Да першай падсістэмы адносяцца цэнтральныя саюзныя СМІ, якія распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі. Асноўная функцыя гэтых СМІ — ідэалагічная. Да іх адносяцца такія газеты як «Труд», «Правда», «Известия», «Комсомольская правда». Усесаюзнае радыё і тэлебачанне з'яўляліся асноўнымі каналамі інфармацыі для ўсіх саюзных рэспублік.

Да другой падсістэмы адносяцца СМІ БССР. Яны прадстаўлялі рэспубліканскія інфармацыйныя каналы, якія ў сваю чаргу дзяліліся на рэспубліканскія газеты і часопісы, абласныя, гарадскія, аб'яднаныя, раённыя, галіновыя і шматтысячныя газеты. Таксама дзяліліся рэспубліканскае і абласное радыё і тэлебачанне.

У БССР выходзіла 12 рэспубліканскіх газет, наклады якіх набліжаліся да аднаго мільёна асобнікаў. Найбольш чытанымі з іх былі «Звязда», «Советская Белоруссия», «Сельская газета», «Знамя юности», «Зорька», «Чырвоная змена». Таксама выдаваліся шэсць абласных газет і раённыя газеты. На тэрыторыі краіны існавалі тры тэлеграфныя агенцтвы — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза (ТАСС), Беларускае тэлеграфнае агенцтва (БелТА) і агенцтва друку «Навіны».

[1] *Нарушения свободы СМИ и прав журналистов в Беларуси в период с января 2011 г. по декабрь 2013 г.*, гл. ў інтэрнэце: https://baj.by/sites/default/files/analytics/files/doklad_-_narushenija_svobody_smi_i_prav_zhurnalistov_v_belarusi_v_period_s_janvarja_2011_po_dekabr_2013.pdf (доступ: 12.03.2019).

У агульнай складанасці на тэрыторыі Беларусі выдавалася каля трохсот выданняў. Але ў той жа час вялікімі накладамі распаўсюджваліся і маскоўскія выданні[2].

Галоўнай задачай сродкаў масавай камунікацыі на тэрыторыі БССР, а таксама ва ўсіх рэспубліках СССР было данясенне інфармацыі да мас аб пазіцыі ўлады як адзіна магчымай і адзіна правільнай. Факты падаваліся ў патрэбным ракурсе, ідэалагічныя працаўнікі падвяргаліся крытыцы, а грамадства натхнялася на змаганне з унутранымі і знешнімі ворагамі. СМІ фінансаваліся выключна з дзяржаўнага бюджэту і цалкам падпарадкоўваліся кіруючай эліце[3]. З гэтага вынікае, што СМІ, разам з іншымі дзяржаўнымі арганізацыямі праводзілі палітыку пераканання грамадства ў правільнасці палітыкі кіруючага класа. СМІ выказваюць ісціну так, як бачыць яе ўлада, няма ў СМІ інфармацыі, якая супярэчыць палітыцы дзяржавы.

СМІ падавалі толькі пазітыўную інфармацыю, што датычыцца палітычнай і эканамічнай сферы грамадства. Прэса стварала ўражанне сацыяльнага камфорту і пераконвала грамадства ў хуткай «шчаслівай будучыні». Абавязковай была інфармацыя з крытыкай «прагнілага капіталістычнага» грамадства: насельніцтва эксплуатавалася, ідзе барацьба за сацыяльнае вызваленне, а савецкі народ аказвае салідарнасць у гэтай барацьбе[4]. Такім чынам СМІ выконвалі функцыю падтрымкі і ўмацавання ўлады, навязвалі грамадству ідэалагічную пазіцыю ўлады, выступалі выключна як інструмент прапаганды і маніпуляцыі. Інфармацыя ад замежных СМІ не паступала, грамадства не мела магчымасці азнаёміцца з меркаваннем «загніваючага Захаду» і ўспрымала інфармацыю ў СМІ як адзіную верную і праўдзівую. Дзяржава цалкам валодала СМІ і рэгулявала іх дзейнасць праз цэнзуру і аўтацэнзуру.

Значныя змены ў дзяржаве і журналістыцы пачаліся толькі пры Міхаіле Гарбачове. Змены былі абумоўлены палітычнымі і эканамічнымі праблемамі. Супярэчнасці паміж рэальным становішчам спраў у краіне і дэклараваным прывялі да неабходнасці змены курсу, у тым ліку і ў прапагандзе[5].

[2] А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка: вучэбны дапаможнік* у 3 частках, ч. 3, Мінск 2009, с. 259-261.

[3] С. С. Касаткин, *Особенности работы СМИ в советский и постсоветский периоды*, с. 67, гл. у інтэрнэце: https://cyberleninka.ru/article/n/osobennosti-raboty-smi-v-sovetskiy-i-postsovetskiy-periody-1 (доступ: 12.03.2019).

[4] А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 261.

[5] М. М. Козлова, *История отечественных средств массовой информации. Учебное пособие для студентов гуманитарных специальностей — „Связи с общественность" („Public relations") и „Издательское дело и редактирование"*, Ульяновск 2000, с. 100.

Шосты артыкул Канстытуцыі СССР аб манаполіі КПСС на ўладу быў адменены ў 1990 годзе. У гэтым жа годзе быў прыняты Закон СССР «Аб друку ды іншых сродках масавай інфармацыі»[6]. Раней не было асобнага прававога акту, які рэгламентаваў грамадскія адносіны, звязаныя з дзейнасцю сродкаў масавай камунікацыі.

Закон аб друку ды іншых сродках масавай інфармацыі адмяняў цэнзуру, тым самым юрыдычна абгрунтоўвалася стварэнне свабодных СМІ. У адпаведнасці з законам заснавальнікамі СМІ маглі быць саветы народных дэпутатаў і іншыя дзяржаўныя органы, палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, аб'яднанні грамадзян, створаныя ў адпаведнасці з законам, працоўныя калектывы, а таксама грамадзяне СССР, якія дасягнулі васямнаццацігадовага ўзросту. Закон насіў заяўны (рэгістрацыйны) характар[7].

15 мая 1990 года на першай сесіі Вярхоўнага Савета 12 склікання прымаецца рашэнне аб адлюстраванні пасяджэнняў Вярхоўнага Савета ў прэсе, на радыё і тэлебачанні. На радыё і тэлебачанні былі арганізаваны прамыя ўключэнні з Вярхоўнага Савета. Акрамя гэтага на тэлебачанні была створана штодзённая перадача «Парламенцкі дзённік», якая асвятляла працэсы, якія праходзяць у Вярхоўным Савеце. Праз два месяцы было прынята рашэнне аб стварэнні выданняў «Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР», «Дэпутацкая трыбуна» і «Народная газета»[8].

Найважнейшай кампаніяй у сродках масавай камунікацыі становіцца прапаганда «сацыялізму з чалавечым тварам». Журналісты пачынаюць асвятляць негатыўныя працэсы і з'явы, якія раней замоўчваліся мясцовымі партыйнымі органамі. Пачынаюць атрымліваць агалоску судовыя справы. СМІ пішуць аб рэальнасці і яе супярэчнасцях, аб злоўжываннях і злачынствах службовых асоб. Па-новаму асэнсоўваецца гісторыя, у тым ліку і гісторыя партыі. Друкуюцца раней забароненыя творы Аляксандра Салжаніцына, Міхаіла Булгакава, Барыса Пастарнака і іншых пісьменнікаў.

У беларускіх СМІ пачынаюць выходзіць артыкулы аб крызіснай сітуацыі ў краіне, аналітычныя артыкулы аб асобных негатыўных фактарах рэчаіснасці. Асаблівае значэнне надзяляецца інфармацыі,

[6] В. В. Бендерский, В. Л. Хмылёв, *История отечественных средств массовой информации. Учебное пособие*, Томск 2006, с. 121.

[7] *Закон о печати 1990 года*, гл. у інтэрнэце: https://ria.ru/20131022/971783682.html (доступ: 12.03.2019).

[8] А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 258.

прадстаўленай апазіцыйнымі сіламі краіны: аб сталінскіх рэпрэсіях і аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі[9].

Пачынаецца больш дакладнае інфармаванне чытачоў аб міжнародных падзеях. На экранах ТБ з'яўляюцца заходнія палітыкі, напрыклад, Маргарэт Тэтчэр. Па-іншаму пачынае асвятляцца вайна ў Афганістане. СМІ спрыяюць таму, што грамадская думка схіляецца ў карысць яе заканчэння. Журналістыка становіцца больш інфармацыйнай[10].

У краіне з'яўляюцца новыя напрамкі дзейнасці журналістаў, такія як «адкрытыя вокны», «прамыя лініі», інтэрв'ю з дэмакратычнымі палітыкамі, аналітычныя артыкулы аб функцыянаванні партыйна-савецкай сістэмы. Але па-ранейшаму СМІ не маглі крытыкаваць дзейнасць членаў ЦК КПСС[11].

Ідэалагічны і палітычны раскол грамадства адбыўся 30 кастрычніка 1988 года падчас мітынгу ў Мінску. На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь толькі ў адной газеце «Чырвоная змена» быў размешчаны артыкул пра падзеі таго дня.

30 кастрычніка на свята «Дзяды» Беларускім народным фронтам «Адраджэньне» ўпершыню была праведзена масавая акцыя. Шэсце праходзіла ад Маскоўскіх могілак да ўрочышча Курапаты. Нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг упершыню ў сучаснай беларускай гісторыі быў узняты перад вялікай колькасцю людзей. Нягледзячы на разгон шэсця, і тое, што тэрыторыя Курапатаў была акружана ваеннымі, набажэнства адбылося ў чыстым полі[12].

Матэрыял аб дадзеных падзеях на наступны дзень быў надрукаваны ў маскоўскім часопісе «Огонек». Выданне з'яўлялася радыкальным друкаваным органам краіны, у якім шмат пісалася аб перабудове. Матэрыял называўся «Дубинки вместо перестройки». Гэта быў адзін з першых матэрыялаў аб падаўленні нацыянальна-вызвольнага руху ў Беларусі[13].

У выніку ўлады вымушаны былі апраўдвацца за свае дзеянні, а БНФ атрымаў шырокую вядомасць і падтрымку. Суполкі БНФ пачалі ствараццa ў рэгіёнах[14].

9 Там жа, с. 262-266.

10 М. М. Козлова, *История отечественных средств массовой информации*, с. 101.

11 А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 266-268.

12 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня, альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995)*, Варшава — Прага 2006, с. 9-13.

13 В. Быкаў, *Доўгая дарога дадому*, гл. у інтэрнэце: Электронная библиотека RoyalLib.com: https://royallib.com/book/bika_vasl/dogaya_daroga_dadomu.html (доступ: 29.05.2019).

14 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 15.

Афіцыйныя ідэолагі абвінавачвалі БНФ у прыхільнасці да капіталістычнага ладу жыцця, нацыяналізму, захопу ўлады. На старонкі афіцыйнага друку, радыё і тэлебачання прадстаўнікі дэмакратычнага руху не маглі патрапіць. У сувязі з гэтым БНФ пачынае выпуск газеты «Навіны» («Навіны БНФ» / «Навіны БНФ „Адраджэньне”»). Выхад гэтай газеты лічыцца пачаткам стварэння неафіцыйнай прэсы і пачаткам рэфармавання нацыянальнай інфармацыйнай прасторы[15].

«Навіны БНФ „Адраджэньне”» выдаваліся са снежня 1988 года да мая 1994 года. Газета выходзіла на беларускай мове, асобныя нумары былі на рускай мове. У нулявым экземпляры выдання «Інфармацыйнае паведамленьне БНФ за перабудову „Адраджэнне”» быў надрукаваны зварот аргкамітэта БНФ да грамадзян краіны, а таксама рэкамендацыі па ўтварэнні груп падтрымкі БНФ. Апошні нумар быў прысвечаны прэзідэнцкім выбарам. Усяго выйшла 40 нумароў газеты[16].

Мясцовыя рады БНФ ствараюць свае перыядычныя выданні: у Магілёве — «Абуджэньне», «Ратуша», у Берасці — «Шлях», у Гомелі — «Атава», у Маладзечне — «Раніца», у Слуцку — «Сумленьне», у Лепелі — «Пагоня», на Мінскім гадзіннікавым заводзе — «Прамень»[17].

Газета «Сумленьне» выйшла ў колькасці двух нумароў, а «Абуджэньне» выходзіла на працягу 1989-1990 года як на рускай, так і на беларускай мовах. Усяго па дадзеных электроннай энцыклапедыі[18] ў краіне налічвалася 117 незалежных выданняў.

Пасля стварэння «Навінаў БНФ „Адраджэньне”» ў краіне ствараюцца новыя выданні, але яны друкуюцца ў асноўным падпольна. Да іх можна аднесці выданне Тэхналагічнага інстытута «Студэнцкая думка». Для праваслаўнай моладзі выдавалася «Праваслаўная думка», а для ўніяцкай — «Унія»[19].

На пасяджэнні Вярхоўнага Савета БССР 26-27 ліпеня 1990 года была ўнесена прапанова аб забароне манапалізацыі СМІ. Дадзеная прапанова не набірае патрэбнай колькасці галасоў[20] і такім чынам дзяржаўныя сродкі масавай камунікацыі на тэрыторыі Беларусі знаходзяцца ў руках выключна прадстаўнікоў камуністычнай партыі.

15 А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 270-271.

16 «Навіны БНФ „Адраджэнне”», гл. у інтэрнэце: https://www.wikiwand.com/ru/Навіны_БНФ_«Адраджэнне» (доступ: 12.03.2019).

17 Н. Зенькович, *Тайны ушедшего века. Границы, споры, обиды*, Москва 2004, с. 380.

18 *Дэмакратычная апазыцыя Беларусі (1956-1991). Даведнік: Выданьні*, гл. у інтэрнэце: http://slounik.org/demap/r3//1 (доступ: 12.03.2019).

19 А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 271.

20 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 33.

Выдаўцы і журналісты незалежных выданняў падвяргаліся рэпрэсіям з боку дзяржавы. Супрацоўнік газеты Валерый Сядоў быў арыштаваны за ўдзел у антыкамуністычным мітынгу, змешчаны ў следчы ізалятар. Намеснік генеральнага пракурора патрабаваў ад Сядова заявы аб асуджэнні дзейнасці Зянона Пазняка, пасля чаго той быў бы вольны. Валерый Сядоў адмовіўся ад гэтай прапановы і пачаў першую палітычную галадоўку ў сучаснай гісторыі Беларусі[21].

У падтрымку Валерыя Сядова арганізуюцца пратэсты і мітынгі. Зянон Пазняк засноўвае фонд у падтрымку Сядова і іншых ахвяр рэжыму. Дзякуючы грамадскасці праз 70 дзён Валерый Сядоў аказваецца на волі — крымінальная справа была спынена 5 лютага 1992 года[22]. Варта адзначыць, што гэта была першая ў Беларусі праваабарончая ініцыятыва.

Асаблівае значэнне на тэрыторыі Беларусі мелі замежныя радыёстанцыі. Вяшчанне пачалося ў перыяд халоднай вайны на беларускай мове. Радыёстанцыі Голас Амерыкі, Свабодная Еўропа, Бі-бі-сі, Радыё Свабода прадстаўлялі палітычнае і эканамічнае жыццё ў краінах Еўропы і свету, ды параўноўвалі з жыццём у Савецкім Саюзе. Інфармацыя паступала больш аператыўна і аб'ектыўна, перадаваліся навіны, якія замоўчваліся ў СССР, інтэрпрэтаваліся факты і падзеі з еўрапейскага пункту гледжання[23].

**Перыяд незалежнасці**

25 жніўня 1991 года на нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі надаецца сіла канстытуцыйнага закону, прыпынена дзейнасць Камуністычнай партыі Беларусі[24].

Дзякуючы ўмелай тактыцы і разуменні сітуацыі, апазіцыйныя дэпутаты БНФ, якіх было толькі 8% у Вярхоўным Савеце, здолелі атрымаць перамогу ў парламенцкай барацьбе. Падзеі 25 жніўня 1991 года — найвялікшая выніковая падзея Беларусі за апошнія дзвесце акупацыйных гадоў. Былі створаны атрыбуты суверэнітэту і інстытуты ўлады беларускай Незалежнай Дзяржавы[25].

[21] С. Навумчык, *Дзевяноста першы*, Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода 2013, с. 87.

[22] А. Дынько, *Валер Сядоў: Пракурор казаў: «Здай Пазьняка і пойдзеш дахаты»*, гл. у інтэрнэце: https://www.svaboda.org/a/9504708.html (доступ: 12.03.2019).

[23] А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 303.

[24] О. Г. Слука, *СМИ Беларуси в условиях строительства социально ориентированной экономики*, Минск 2011, с. 6.

[25] З. Пазьняк, *Эпоха ў жыцьці нацыі (Дваццацігоддзе БНФ)*, «Беларускія Ведамасьці», 2008, № 2 (64), с. 5.

У першыя тыдні пасля абвяшчэння незалежнасці ў друку прайшлі дыскусіі, якія адлюстроўвалі пазіцыі прыхільнікаў самастойнай дзяржавы і іх апанентаў. У сваіх публікацыях Васіль Быкаў не адкідваў прынцып шматпартыйнасці, але заклікаў усе дэмакратычныя сілы аб'яднацца вакол БНФ і яго лідара Зянона Пазняка. Ён сцвярджаў, што толькі БНФ і яго дэпутацкая фракцыя мелі цэласную канцэпцыю нацыянальнага адраджэння і стварэння суверэннай дзяржавы[26].

У сваю чаргу ў газеце «Звязда» крытыкаваліся дзеянні БНФ і яго лідараў. Газета падтрымлівала камуністаў і камуністычную партыю, паказвала негатыўны прыклад Прыбалтыкі. Публікуюцца таксама лісты грамадзян у падтрымку камуністаў, хаця фізічна такія лісты не паспелі б дайсці да рэдакцыі[27]. Дадзены факт паказвае на выкарыстанне сродкаў уплыву на грамадскую думку ў сродках масавай камунікацыі, якія належалі членам былой камуністычнай партыі.

Падчас калі Беларусь была часткай Савецкага Саюза, больш за палову газетнай плошчы, эфірнага часу на тэлебачанні і радыё займала саюзная інфармацыя. Пасля 1991 года 90% запоўнена было мясцовым матэрыялам[28].

У Рэспубліцы Беларусь пачынаецца сістэмная перабудова сродкаў масавай камунікацыі. У першую чаргу палітычныя змены закранулі дзяржаўную прэсу. Але прынцып дзейнасці афіцыйнай прэсы застаўся, падпарадкаванне рэдакцый органам улады захавалася і з часам трансфармавалася. Улада, нягледзячы на грамадска-палітычныя змены, захавала свой уплыў і кантроль над СМІ[29].

Але на тэрыторыі Беларусі працягвалася трансляванне расійскіх каналаў. Многія працягвалі лічыць Маскву сталіцай, і ўспрымалі Беларусь і Расію адной дзяржавай. Расійскія навіны ўспрымаліся як падзеі датычныя Беларусі.

Зянон Пазняк, выкарыстоўваючы дэпутацкія паўнамоцтвы, публікуе свае артыкулы, робячы ў іх акцэнт на незалежнасць краіны і вяртанне ў Еўропу. Напрыклад, у публікацыі ў «Народнай газеце» ад 15 кастрычніка 1991 года Пазняк піша, якія б працэсы не адбываліся ў Расіі, яна назаўжды застанецца імперскай краінай і ніколі не бу-

[26] С. Навумчык, *Дзевяноста першы*, с. 366-368.
[27] С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 65.
[28] О. Г. Слука, *СМИ Беларуси в условиях строительства социально ориентированной экономики*, с. 6.
[29] А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 306.

дзе дэмакратычнай. Заклікае забыцца пра «турму народаў» і выкарыстоўваць адзіны шанц на незалежнасць[30].

У адказ публікуюцца матэрыялы з крытыкай БНФ, у якіх абвінавачваюць Фронт у паклёпе на расійскі народ, стварэнне ворага з Расіі. Да прыкладу, Сямён Букчын у газеце «Знамя юности» рэзка раскрытыкаваў выказванні Пазняка, сцвярджаючы, што калі «паставіць крыж» на Расіі, гэты крыж накрые і Беларусь[31].

З пункту гледжання Сяргея Навумчыка беларускае тэлебачанне і радыё праводзіла збольшага антынацыянальную, антыбеларускую палітыку, падтрымліваючы ў людзей уражанне, што дэмакратычныя рэформы, якія нібыта адбыліся ў Беларусі — прычына іх цяжкага эканамічнага становішча. Да прыкладу, у чэрвені 1992 года Вячаслаў Кебіч заявіў, што наступствы перабудовы роўныя ваенным. У 1993 годзе падобныя заявы зрабіліся звычайнымі[32].

19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет прыняў новую назву дзяржавы — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка стала называцца Рэспублікай Беларусь, а ў якасці дзяржаўных сімвалаў былі зацверджаны бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня[33].

З крытыкай аб прапанаваных законапраектах БНФ выходзяць многія выданні. Прасавецкае выданне «Мы и время» публікуе карыкатуру з выявай Пагоні і вершам «Зачем ли ты под рев трубы / Несешься с гиканьем и ржаньем, / Что бы истлевшие гробы, / Наполнить новым содержаньем?!». Пракамуністычная газета «Политика, позиция, прогноз» у адказ на прапанову вярнуць Мінску назву «Менск», публікуе карыкатуру маленькай дзяўчынкі, якая плача, з подпісам: «Не хочу быть менЧУЧКОЙ»[34].

Пагадненні, падпісаныя ў Белавежскай пушчы, змянілі юрыдычны статус Рэспублікі Беларусь. Падпісанае пагадненне ліквідавала сітуацыю, калі краіна дэ-юрэ мела ўсе суверэнныя правы, а дэ-факта залежала ад Масквы. Віскулёўскія пагадненні паспрыялі спыненню існавання СССР і паскорылі міжнароднае прызнанне Беларусі[35].

30 С. Букчин, *Белорусская трагедия. 1986-1999. Страна и народ в зеркале публицистики*, Варшава 2000, с. 106-107.

31 Там жа, с. 107.

32 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 89-90.

33 Там жа, с. 403.

34 А. Курьянович, *19 сентября 1991 года в истории нашей страны, и почему Минск так и не стал Менском*, гл. у інтэрнэце: https://nn.by/?c=ar&i=156623&;lang=ru (доступ: 12.03.2019).

35 З. Пазьняк, С. Навумчык, *Дэпутаты незалежнасьці*, Нью Ёрк — Вільня — Варшава 2010, с. 191-192.

У краіне пачынае развівацца шматпартыйнасць. Адзіная зарэгістраваная Камуністычная партыя Беларусі (сегмент КПСС) пасля путчу Янаева знаходзіцца пад забаронай, але яе члены працягваюць займаць кіруючыя пасады краіны. У 1993 годзе забарона на існаванне партыі была знята. Партыя праводзіць з'езд і прымае рашэнне аб уваходжанні ў склад Партыі камуністаў Беларускай, якая мела рэгістрацыю з 1991 года. Гэтак жа ў 1991 годзе было зарэгістравана пяць дэмакратычных партый, якія стаялі ў апазіцыі да КПБ-КПСС: Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская сялянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Беларускі хрысціянска-дэмакратычны саюз[36]. Варта адзначыць, што адзінай уплывовай апазіцыйнай партыі БНФ, якая мела падтрымку ў насельніцтва і ўплыў на палітычныя працэсы ў краіне, адмовілі ў рэгістрацыі. Зарэгістраваныя апазіцыйныя палітычныя партыі не аказвалі істотнага ўплыву на палітычныя падзеі ў краіне.

У канцы 1991 года кіраўніцтва БНФ прапануе рэферэндум па датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета і правядзенні выбараў па новым законе. На той момант ідзе перагрупоўка палітычных сіл. Шушкевіч зноў знаходзіць агульную мову з Кебічам, да іх далучаецца Саюз прадпрымальнікаў. Гэтак жа ўзнікае блок партый «Новая Беларусь» і блок дэпутатаў «Беларусь», якія выступаюць супраць рэферэндуму[37].

Дзяржаўныя СМІ не падтрымліваюць ідэю рэферэндуму. Камуністычная газета «Мы и время» выходзіць з карыкатурай, на якой Зянон Пазняк на фоне мітынгу супраць БНФ раскручвае «беларускі барометр». У руках ён трымае ліст са словамі «Дапамажыце захапіць уладу». У «Рэспубліцы» выходзіць карыкатура, на якой намаляваны тоўсты мужчына-чыноўнік. У жываце яго знаходзіцца рэферэндум, які ён павінен нарадзіць. Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Дзмітрый Булахаў падтрымаў прапанову правядзення рэферэндуму аб роспуску парламента. Дэмакратычная газета «Згода» на гэты выступ адрэагавала карыкатурай Зянона Пазняка, які едзе на маленькай, знясіленай і стомленай кабыле, са словамі „Ну, Булахаў, пачакай!"[38].

36 А. Федута, О. Богуцкий, В. Мартинович, *Политические партии Беларуси — необходимая часть гражданского общества. Материалы семинара*, Минск 2003, с. 14.

37 З. Пазьняк, *Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня*, кн 1: *Артыкулы і матэр'ялы (1990 — III.1996)*, Варшава — Нью Ёрк — Вільня 2007, с. 79.

38 А. Курьянович, *История несостоявшегося референдума, и как прорвалась «на-*

Станіслаў Шушкевіч выступіў супраць рэферэндуму, і ў кастрычніку 1992 года Вярхоўны Савет адмовіўся яго прызначаць[39]. Для апазіцыі была страчана магчымасць павялічыць сваю колькасць ва ўрадзе. Апазіцыя працягвала знаходзіцца ў меншасці, улада па-ранейшаму знаходзілася ў руках старой наменклатуры.

У СМІ працягваецца падтрымка ідэі Саюза, выходзяць крытычныя артыкулы. Напрыклад, у газеце «Политика, позиция, прогноз» з'яўляецца артыкул І. Кучаркова «Новая конституция Беларуси: какой ей быть?». У першым сказе ён звяртаецца да палітыкаў. Аўтар выкарыстоўвае зварот на беларускай мове «Спадары», чым падкрэслівае звяртанне непасрэдна да апазіцыі. І. Кучаркоў звяртае ўвагу на немагчымасць існавання Беларусі па-за ўсходнеславянскай супольнасцю. А вяртанне ў капіталізм спалучае з гвалтам, таму што супярэчыць натуральнаму закону аднанакіраванага развіцця грамадства. Палітыкаў трох краін, якія падпісалі пагадненне ў Віскулях, у прыватнасці Шушкевіча, аўтар называе легкадумнымі палітыкамі і нацыянал-сепаратыстамі. Паводле яго, тады ва ўладзе знаходзілася антыпатрыятычная кампрадорская буржуазія і крымінальная буржуазія, якія займаюцца толькі карупцыйнымі схемамі[40].

У 1991 годзе прадстаўнікі БНФ распрацоўвалі канцэпцыю інфармацыйнай палітыкі, у аснове якой было раздзяржаўленне СМІ і стварэнне спрыяльных умоў для развіцця беларускамоўнай прэсы. У 1992 годзе сакратар камісіі па СМІ Сяргей Навумчык прапанаваў рэдактарам дзяржаўных выданняў адмовіцца ад заснавальніцтва Савета Міністраў і іншых органаў улады, і перайсці на акцыянаванне СМІ. Аднак рэдактары аддалі перавагу захаваць статус-кво[41].

З атрыманнем незалежнасці пачынаецца адраджэнне беларускай мовы і культуры. Адкрываецца камерцыйная беларускамоўная прэса. Ігар Гермянчук адкрывае газету «Свабода», якая не толькі выдавалася па-беларуску, але ў 1991-1994 гадах выходзіла на тарашкевіцы. Газета за кароткі перыяд становіцца адной з самых папулярных, а наклад дасягае 100 000 асобнікаў. Беларускамоўныя незалежныя газеты ствараліся і ў рэгіёнах[42].

*верх» Лидия Ермошина*, гл. у інтэрнэце: https://nn.by/?c=ar&i=159372&;lang=ru (доступ: 12.03.2019).

39 С. Навумчык, *Дзевяноста першы*, с. 486.

40 С. Букчин, *Белорусская трагедия. 1986-1999*, с. 131-132.

41 С. Навумчык, *Дзевяноста першы*, с. 486.

42 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 75.

У траўні 1991 года аднаўляецца выпуск газеты «Наша ніва». Яна выдаецца ў Вільні пад рэдакцыяй Сяргея Дубаўца. На старонках газеты значнае месца займалі дыскусіі, з’явілася вялікая колькасць перакладаў. У цэнтры ўвагі апынулася таксама спадчына Вялікага Княства Літоўскага і мадэль узаемаадносін народаў рэгіёна[43].

Першае незалежнае інфармацыйнае агенцтва БелаПАН на тэрыторыі Беларусі ўзнікла ў 1991 годзе. Заснавальнікамі агенцтва сталі Алесь Ліпай і Віталь Цыганкоў. Алесь Ліпай сцвярджаў, што беларускія газеты сутыкнуліся з дэфіцытам інфармацыі без ідэалогіі, паколькі БелТА працягвала прадстаўляць савецкія ангажаваныя навіны. Журналісты Валерыя Іванова і Міхаіл Ваняшкін перайшлі з БелТА ў БелаПАН, таму што не былі згодныя з палітыкай БелТА і жадалі пісаць сапраўдныя інфармацыйныя навіны. БелаПАН паклаў асновы аб’ектыўнай інфармацыі і незалежнай інфармацыйнай журналістыцы ў краіне[44].

Супраць беларусізацыі і прадстаўнікоў законапраектаў па беларусізацыі выступалі шэраг рускамоўных выданняў, да прыкладу, газета «Европейское время», рэдактарам якой быў Сямён Букчын. Гэтак жа супраць выступалі выданні, якія выходзілі пры падтрымцы Фонду Сораса; яны прапагандавалі ліберальныя каштоўнасці і насцярожана ставіліся да праяў нацыянальнага адраджэння. Падкантрольныя Кебічу шматтыражныя выданні ў 1992 годзе пераходзяць на антынацыянальныя пазіцыі.

Газета Савета Міністраў «Рэспубліка» не друкуе матэрыялаў, якія прадстаўляюць пункт гледжання апазіцыі. У газеце распад СССР падаецца як велізарнае зло, яе аўтары паказваюць на пагібельную залежнасць ад Захаду і ўсяляк падтрымліваюць камуністычныя погляды[45].

Права на інфармацыю гарантуецца і рознымі дакументамі АБСЕ. З 30 студзеня 1992 года Рэспубліка Беларусь з’яўляецца паўнапраўным членам АБСЕ[46] і такім чынам прымае абавязкі падпарадкоўвацца ўсім нормам і патрабаванням у кантэксце палажэнняў міжнародных дагавораў.

[43] *Гісторыя «Нашай Нівы» ад 1906 года да нашых дзён*, гл. у інтэрнэце: https://nn.by/?c=ar&i=151632 (доступ: 12.03.2019).

[44] В. Ракіцкі, *Сведкі. 1990-я: Начало независимой печати*, гл. у інтэрнэце: https://belsat.eu/ru/programs/nachalo-nezavisimoj-pechati/ (доступ: 12.03.2019).

[45] С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 75-76.

[46] *Организация по безопасности и сотрудничеству в Европе*, гл. у інтэрнэце: http://mfa.gov.by/mulateral/organization/list/e853df6cdc5f5543.html (доступ: 12.03.2019).

У 1993 годзе абнаўляецца часопіс «Спадчына». У ім пачынаюць друкавацца раней забароненыя творы, такія як п’еса «Рагнеда» Пятра Крачэўскага, тэксты Вацлава Ластоўскага, фрагменты кнігі Генадзя Сагановіча «Невядомая вайна (1654-1657)». Грамадству вяртаюць дзясяткі імёнаў забароненых раней дзеячаў, падзей і тэкстаў, ключавых для беларускай гісторыі і светапогляду.

Упершыню за некалькі дзесяцігоддзяў публікуюцца раней забароненыя кнігі: зборнік вершаў і артыкулаў Янкі Купалы «Жыве Беларусь», успаміны Ларысы Геніюш «Споведзь», «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага, у перакладзе з англійскай мовы выйшла кніга Вітаўта Кіпеля «Беларусы ЗША», выйшлі трэці і чацвёрты тамы збору твораў Васіля Быкава з аповесцямі «Круглянскі мост» і «Мёртвым не баліць»[47].

Цэнтральныя дзяржаўныя газеты такія як «Советская Белоруссия» і «Рэспубліка» падтрымлівалі курс Кебіча на інтэграцыю з Расіяй, навязвалі меркаванне аб наданні расійскай мове дзяржаўнага статусу, у кожным нумары газеты змяшчалася крытыка апазіцыйнай партыі БНФ. Але дадзеныя газеты захоўвалі пэўныя нормы ў параўнанні з рэгіянальнай прэсай. Тут варта адзначыць, што сумарны наклад рэгіянальнай прэсы перавышаў наклад цэнтральнай дзяржаўнай прэсы. Насельніцтва часцей і больш купляла рэгіянальную прэсу.

Прыкладам такой прэсы можа служыць газета Віцебскага гарадскога савета — «Витьбичи». У 1992-1993 гадах у горадзе з насельніцтвам 300 000 чалавек яе тыраж складаў 66 000 асобнікаў. У газеце не друкаваліся прамыя заклікі да ліквідацыі незалежнасці краіны, толькі выкарыстоўваліся розныя тэхнікі ўплыву на грамадскую думку. Чытачам навязвалася меркаванне аб тым, што незалежнасць і дэмакратыя — гэта вельмі дрэнна. Да прыкладу ў нумары ад 3 красавіка 1993 года пісалася: «У выніку развалу адзінага народнагаспадарчага комплексу краіны рэзка абвастрылася эканамічная сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь (...) мы, народныя дэпутаты Віцебскай вобласці ўсіх узроўняў, падтрымліваем прапановы ўрада, (...) і патрабуем цеснага эканамічнага саюза з Расіяй і Казахстанам на аснове адзінай рублёвай зоны і калектыўнай бяспекі»[48].

Артыкулы выходзілі з назвамі «Делу Ленина-Сталина верны!», «Коль речь зашла о диктатуре, то что вы можете сказать о БНФ?», «А как вы относитесь к суверенной и независимой Беларуси?», «По

[47] С. Навумчык, *Дзевяноста трэці*, Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода 2018, с. 345-346.

[48] Там жа, с. 356-360.

вашему мнению, как долго ещё продлится эта разруха?», «Скажем решительное „да" возрождению СССР и своё решительное „нет" новым буржуазным конституциям», «Раздумья о моральном облике некоторых двуногих в эпоху демократических преобразований», «А надо ли бояться слова „империя"?», «Будь готов спасать Россию», «Переход на белорусский язык создаст немалые экономические трудности», «Тихие радости „змагароў" за „незалежны кавалак кілбасы"».

Нават у раздзеле спартыўных навін знаходзілася месца для крытыкі апазіцыі. З рэпартажу ад 20 красавіка 1993 года: «Жаданае „акно ў Еўропу", пра якое трубілі на ўсю моц меншавікі, бальшавікі і хлопцы абмежаванага па колькасці і якасці кантынгенту БНФ, якія набіраюць і спасцігаюць асновы служэння народу па нямецкіх букварах (...)».

На рынкавыя пераўтварэнні ў Вярхоўным Савеце настойвалі толькі дэпутаты БНФ. Але склалася парадаксальная сітуацыя, калі буйныя прадпрымальнікі падтрымлівалі прадстаўнікоў камуністычнай партыі. Дадзеная сітуацыя ўтварылася ва ўмовах таго, што не ад закона, а ад чыноўніка залежаў лёс бізнесу. Ключавыя пазіцыі ў бізнесе занялі асобы, набліжаныя да былых высокапастаўленых кіраўнікоў партыі і КДБ.

Маючы бізнес і падтрымку ўлады, прадпрымальнікі ствараюць свае масмедыя. Выходзіць рускамоўная «Газета Андрея Климова», якая выступае супраць беларускага Адраджэння і супраць палітычнай апазіцыі[49].

У СМІ працягваецца крытыка пазіцыі БНФ і Зянона Пазняка. Так у газеце «Мы и время» прапануюць паразважаць на тэму, што будзе, калі б «БНФ прыйшоў да ўлады». Зянона Пазняка аўтар называе «бэнээфаўскім удавам» і ў клетку да яго можа трапіць просты народ. Гэтак жа аўтар паказвае, што калі БНФ прыйдзе да ўлады, то будуць ліквідаваныя саўгасы і калгасы, будзе прымусовая беларусізацыя, будзе дыскрымінацыя рускіх, украінцаў, палякаў, татараў і габрэяў, прыватызацыя справакуе разгром буйных прамысловых комплексаў, таму што будзе распрададзена замежнікам, і многае іншае[50].

У сваю чаргу БНФ, выкарыстоўваючы даступныя рэсурсы, працягвае крытыкаваць Савецкі Саюз і пазіцыю Кебіча па стварэнні саюзнай дзяржавы. У сваіх артыкулах і інтэрв'ю Пазняк робіць акцэнты на немагчымасць пабудовы дзяржавы без нацыянальнай свядомасці, на нацыянальна-культурным адраджэнні, адкрыта кажа пра рэпрэсіі

[49] С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 77.
[50] С. Букчин, *Белорусская трагедия. 1986-1999*, с. 136.

ў Савецкім Саюзе і аб еўрапейскім курсе развіцця дзяржавы. Катэгарычна выступае супраць аб'яднання з Расіяй і робіць акцэнт на стварэнні поўнай незалежнасці ад усходняй суседкі[51].

Пазняк рэзка крытыкуе пазіцыю Кебіча і ягоную праграму, галоўным пунктам якой з'яўляецца цеснае эканамічнае супрацоўніцтва з Расіяй. Ён паказвае на тое, што кожны з бакоў мае свае інтарэсы ў шкоду інтарэсам іншага боку. Беларусь можа стаць палітычным і эканамічным прыдаткам Расіі, без прыкмет дзяржаўнай незалежнасці[52].

25 сакавіка адзначалася 75-годдзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Афіцыйна гэты дзень не быў аб'яўлены святочным, але ўдзел у мерапрыемствах прымалі больш за 50 палітычных партый і арганізацый, тысячы беларусаў, ва ўрачыстым пасяджэнні ў будынку філармоніі ўдзельнічаў старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. Кебіч удзелу ў мерапрыемствах не прымаў.

Дзяржаўная прэса адзначыла толькі тое, што дэпутаты Беларускага народнага фронту і Беларускага згуртавання вайскоўцаў арганізавалі мітынг, апусціўшы інфармацыю пра свята і пра патрабаванні на мітынгу. Асноўнае патрабаванне заключалася ў адстаўцы ўрада і асабіста Кебіча, у сувязі з яго пазіцыяй па пытаннях эканамічнага і ваеннага саюза з Расіяй[53].

Летам 1993 года адбываецца сустрэча Зянона Пазняка з прэзідэнтам Польшчы Лехам Валэнсам. Разам яны наведваюць урочышча Курапаты. Беларускае тэлебачанне здымае рэпартаж такім чынам, каб у кадр не трапляў лідар беларускай апазіцыі[54].

Восенню 1993 года ў Савеце Міністраў былі створаны Упраўленне інфармацыі пад кіраўніцтвам Васіля Драгова, і Аддзел друку, радыё і тэлебачання пад кіраўніцтвам Сяргея Паваляева. Дадзеныя фармаванні не падпарадкоўваліся Міністэрству інфармацыі і цалкам кантралявалі працу дзяржаўных СМІ. Уся ўлада над СМІ сканцэнтравалася ў руках Кебіча[55].

Супраць гэтага прызначэння выступілі прадстаўнікі БНФ. Заява была надрукавана ў «Народнай газеце» 2 верасня 1993 года. У прыватнасці, Зянон Пазняк параўнаў функцыі дадзеных арганізацый з функцыямі савецкіх ідэалагічных аддзелаў ЦК. Гэтак жа асаблівая ўвага была ўдзелена фінансавай залежнасці СМІ ад Савета Міністраў,

[51] З. Пазьняк, *Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня*, кн. 1, с. 104-121.

[52] С. Букчин, *Белорусская трагедия. 1986-1999*, с. 136.

[53] С. Навумчык, *Дзевяноста трэці*, с. 48-56.

[54] Там жа, с. 372.

[55] С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 90.

немагчымасці супрацьстаяць ідэалагічнай цэнзуры і аб’ектыўна адлюстроўваць дзеянні ўрада. Ціск на журналістаў, спыненне вяшчання незалежных тэлекампаній, адмова ў прадстаўленні дэпутацкай апазіцыі законнага права на антэнны час — гэтыя і многія іншыя прыклады характарызуюць інфармацыйную палітыку ўрада як супярэчную прынцыпам свабоды слова[56].

Зянон Пазняк публікуе навуковыя артыкулы ў газеце «Звязда» аб дзейнасці Леніна, Сталіна і НКВД. Пад яго публікацыямі, у раздзеле «ад рэдакцыі», крытыкуюцца Пазняк і яго працы. У прыватнасці гаворыцца, што пасля друку ў рэдакцыю паступіла вялікая колькасць гнеўных лістоў ад чытачоў. Грамадства ўспрымае гэтую інфармацыю як асабістую непавагу. Але ў сувязі з тым, што Пазняк як дэпутат мае права друкавацца ў дзяржаўных СМІ, рэдакцыя не мае права яму адмовіць[57].

У той жа час адкрыта гучаць заклікі аб саюзе з Расіяй, выказванні супраць незалежнасці Беларусі. Так В. Кебіч, выступаючы на Гомельшчыне, зрабіў заяву, што падпісанне Віскулёўскіх пагадненняў аб дэнансацыі саюзнай дамовы лічыць памылковай[58].

Расійская газета «Правда» публікуе інтэрв’ю з дэпутатам Аляксандрам Лукашэнкам пад загалоўкам «Да возродится!», дзе ён казаў аб неабходнасці саюза Беларусі і Расіі.

З крытыкай у адрас яшчэ невядомага дэпутата Вярхоўнага Савета выступае Васіль Быкаў. У «Народнай газеце» ён публікуе артыкул пад назвай «Каб захаваць уладу, яны здольныя аб’яднацца хоць з самім д’яблам». Быкаў рэзка крытыкуе самога Лукашэнку і яго выказванні, а таксама робіць акцэнт, што многія дэпутаты ўзялі курс на ліквідацыю незалежнасці краіны[59].

У СМІ разгортваецца кампанія па падтрымцы аднаўлення саюза. На старонках «Советской Белоруссии» спачуваюць тым, хто прайграў путч 1991 года. Эфірны час радыё і тэлебачання займае В. Кебіч, які абяцае адрадзіць Саюз. Гэтак жа разгортваецца кампанія супраць беларускай мовы і нацыянальных сімвалаў[60], а, такім чынам, і супраць

[56] С. Навумчык, *Дзевяноста трэці*, с. 370-371.

[57] З. Пазьняк, *Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня*, кн. 1, с. 134-141.

[58] С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 92.

[59] В. Гальченюк, *Быков о Лукашенко: «Депутат как будто только вчера опустился из космоса»*, гл. у інтэрнэце: https://gazetaby.com/post/bykov-o-lukashenko-deputat-kak-budto-tolko-vchera-opustilsya-iz-kosmosa/57722/ (доступ: 12.03.2019).

[60] С. Навумчык, *Дзевяноста трэці*, с. 428-429.

БНФ і З. Пазняка, якія падтрымліваюць курс поўнай незалежнасці краіны і адраджэння беларускай мовы і культуры.

Заснавальнік газеты «Фемида» і кнігавыдавец Аляксандр Патупа пісаў наступнае:

«Нацыянал-патрыёты трапіліся на вуду знакамітага Ленінскага тэзіса аб „самавызначэнні аж да аддзялення", і ўцягнулі 10-мільённы народ у страшны эксперымент. (...) Думаю, што Беларусі і Расіі варта тэрмінова (у жніўні) прыступіць да комплексных перамоў аб аднаўленні адзінай сістэмы — у імя суменсага выжывання».

Віцебская газета «Витьбичи» пісала: «Два гады так званага „незалежнага" існавання былых брацкіх рэспублік адзін без аднаго добра паказалі, да чаго мы рухаемся»[61].

Апазіцыя БНФ падпісвае зварот, у якім патрабуе паставіць перад Вярхоўным Саветам пытанне аб пазбаўленні дэпутацкіх паўнамоцтваў народных дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікалая Скарыніна, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва. Апазіцыя патрабавала неадкладнага спынення распаўсюджвання ў Беларусі расійскіх камуністычных газет. БНФ звярнуўся таксама ў генеральную пракуратуру з патрабаваннем правядзення расследавання аб антыдзяржаўнай дзейнасці арганізацый ПКБ-КПБ-КПСС, руху «За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць», Саюза афіцэраў, Славянскага сабора «Белая Русь».

Зварот не быў падтрыманы іншымі дэпутатамі. Дэпутаты, якія выступалі супраць незалежнасці Беларусі, працягвалі працу ў Вярхоўным Савеце[62].

У распараджэнні апазіцыі былі наступныя выданні: парламенцкая «Народная газета», «Свабода», «Пагоня», «Навіны БНФ», «Наша ніва». Прыхільна да апазіцыі ставіліся «Чырвоная змена» і газета Мінскага гарсавета «Добры вечар», а таксама штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». Таксама было некалькі рэгіянальных выданняў. Тыраж усіх разам узятых вышэйназваных газет не перавышаў накладу «Советской Белоруссии».

У распараджэнні Кебіча былі «Рэспубліка», «Советская Белоруссия», «Знамя юности», абласныя і раённыя газеты. Усе яны знаходзіліся на датацыях з дзяржаўнага бюджэту. Таксама пад поўным кантролем урада былі самыя магутныя сродкі інфармацыі, якія захавалі свае прапагандысцкія функцыі — тэлебачанне і радыё[63].

61 Там жа, с. 367-370.

62 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 93.

63 С. Навумчык, *Дзевяноста чацьверты*, Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода , с. 272-273.

Пры падтрымцы дзяржавы «Советская Белоруссия», «Звязда», «Беларуская думка», «Рэспубліка» і «Народная газета» змаглі пераадолець крызіс і разам з дзяржаўным радыё і тэлебачаннем сталі асновай рэспубліканскай інфармацыйнай прасторы і палітычнай апорай улады[64]. Варта адзначыць, што апазіцыйным лідарам, якія ўваходзілі ў склад Вярхоўнага Савета, з дзяржаўнай прэсы давалася магчымасць друкавацца толькі ў «Народнай газеце». Аднак здараліся рэдкія выключэнні, калі магчымасць друку была і ў іншых дзяржаўных выданнях.

У рэгіянальных СМІ змяняецца іх статус. Яны перасталі быць органамі партыйных камітэтаў і перайшлі ў падпарадкаванне раённых саветаў. У многіх газетах змяніліся назвы, каб падкрэсліць незалежнасць ад камуністычнай партыі. Захоўваецца выпуск завадскіх газет і газет вышэйшых навучальных устаноў[65].

Восенню 1993 года працэс манапалізацыі СМІ быў завершаны. Кебіч кантраляваў большасць штодзённых газет і цалкам радыё і тэлебачанне. У Савеце Міністраў дзейнічалі Упраўленне інфармацыі і Аддзел друку, радыё і тэлебачання, якія сачылі за дзяржаўнымі СМІ ў абыход Міністэрства інфармацыі[66].

Андрэй Дзяменцьеўскі ў «Знамени юности» тлумачыў манапалізацыю СМІ эканамічнай залежнасцю: «Калі ня ўласнаму ўраду, дык усё роўна камусьці, але „прадавацца" давялося б... Прэса ва ўсім сьвеце заўсёды ад некага залежала: ад „левых", ад „правых", ад ураду, ад апазыцыі, ад мафіі, ад густаў, амбіцый, апэтытаў. „Дэмакратычна" настроеныя дэпутаты БНФ у сваім памкненьні маніпуляваць прэсай неарыгінальныя».

Калектыў «Советской Белоруссии» больш крытычна паставіўся да манапалізацыі. Вось ад імя калектыву быў надрукаваны артыкул «Без мяне мяне жанілі», які заканчваўся фразай «калі ўжо БНФ шчыра заклапочаны лёсам перыядычных выданняў, то, магчыма, варта б пачаць са сваіх, якія сёння пыляцца на прылаўках кіёскаў?»[67].

У 1994 годзе штомесячная інфляцыя дасягае 50%, у адносінах да расійскага рубля курс складаў 1 да 5. Кебіч, разлічваючы выйграць прэзідэнцкую кампанію, абяцае ўвесці расійскі рубель у якасці адзінага плацежнага сродку, курс абмену ён абяцаў зрабіць 1 да 1.

Усе дзяржаўныя СМІ выступалі ў падтрымку гэтай ініцыятывы.

64 А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 308.
65 Там жа, с. 308.
66 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 90.
67 С. Навумчык, *Дзевяноста трэці*, с. 375.

Першапачаткова ўвядзенне расійскага рубля падтрымліваў Шушкевіч (пазней ён змяніў сваю пазіцыю). А. Лукашэнка падтрымліваў дадзеную прапанову, прымаў удзел у дэлегацыі па перамовах аб дадзеным пытанні ў Маскве. Дэпутаты апазіцыі БНФ даводзілі, што эканамічны і паліўны крызіс гэта вынік не слабой валюты, а адмаўлення ўрада ад эканамічных рэформаў.

Старшыня Нацбанка Беларусі Станіслаў Багданкевіч выступіў супраць умоў дагавора аб аб'яднанні валют. Яго падтрымаў спікер ВС Мечыслаў Грыб сцвярджаючы, што Беларусь можа страціць суверэнітэт. Але, нягледзячы на вышэйсказанае, Вячаслаў Кебіч 12 красавіка 1994 года падпісвае дамову аб аб'яднанні грашовай сістэмы[68].

Падпісаны дагавор не здабыў юрыдычную сілу, паколькі надзяляў Цэнтральны банк Расіі паўнамоцтвамі і правамі адзінага эмісійнага банка і органа крэдытна-грашовага і валютнага рэгулявання ў аб'яднанай грашовай сістэме. Гэты факт супярэчыў прынятай беларускай Канстытуцыі[69].

Дадзены факт нанёс сур'ёзны ўдар па палітычнай рэпутацыі В. Кебіча, і стаў шанцам для А. Лукашэнкі. У далейшым аб'яднанне з Расіяй стала адным з асноўных тэзаў яго перадвыбарнай праграмы[70]. Лукашэнка абяцаў «дамагчыся аднаўлення на раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове бяздарна знішчаных сувязей з дзяржавамі, раней якія ўваходзілі ў склад СССР, перш за ўсё з Расіяй і Украінай, — найважнейшы знешнепалітычны прыярытэт». Але асноўным фактарам станаўлення Лукашэнкі як палітычнага лідара стаў яго антыкарупцыйны даклад.

У 1994 годзе была прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, якая павінна была стаць базай як для нацыянальнага, так і эканамічнага адраджэння. Вышэйшым прадстаўнічым, стала дзеючым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады краіны аб'яўляўся Вярхоўны Савет. Канстытуцыя ўвяла пасаду прэзідэнта ў якасці кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады. Дзяржава грунтавалася на прынцыпе падзелу ўлад: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Таксама была закладзена аснова для фармавання грамадзянскай супольнасці[71].

[68] С. Навумчык, *Дзевяноста чацьверты*, с. 68-75.

[69] А. Баюра, *Формирование денежной системы суверенной Беларуси в 1992-1994 году*, «Банкаўскі веснік», май 2013, гл. у інтэрнэце: http://www.fox-notes.ru/spravka/PDF_020713_03.pdf (доступ: 12.03.2019).

[70] *Тезисы программы кандидата в президенты Беларуси А. Лукашенко*, гл. у інтэрнэце: http://newsby.org/novosti/1994/06/14/text5068.htm (доступ: 12.03.2019).

[71] *Президентские выборы в Беларуси: от ограниченной демократии к неограниченному авторитаризму (1994-2006)*, ред. О. Манаев, Вильнюс 2006, с. 12.

Упершыню ў Беларусі быў уведзены інстытут прэзідэнцтва. Першыя выбары прэзідэнта Беларусі былі прызначаны на 23 чэрвеня 1994 года.

Варта адзначыць, што беларускае грамадства падвяргалася татальнай русіфікацыі. З 1980-х гадоў пачынаецца вяртанне да выкарыстання беларускай мовы ў СМІ. У пачатку 1990-х гадоў колькасць і адсоткавыя суадносіны ад агульнай колькасці выдадзеных газет і часопісаў на беларускай мове перавышала колькасць на рускай. Сітуацыя рэзка змянілася толькі ў 1995 годзе[72].

Кожная падтрымка беларускамоўных СМІ была крытыкаваная. Рэдактар газеты «Европейское время» піша, што беларускамоўная прэса мае датацыі, але мала каму цікавая. Сустаршыня «Руху за дэмакратычныя рэформы» Вольга Абрамава ў інтэрв'ю газеце «7 Дней» сцвярджала: «Патрабаванне Апазыцыяй БНФ прыярытэтнага разьвіцьця цалкам беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі зусім блізкі да ўвядзеньня цэнзуры па моўнай прыкмеце». Такія выданні як «Мы и время», «Политика, позиция, прогноз» выходзілі з абразамі беларускай мовы і дзяржаўных сімвалаў, патрабавалі прыцягнення да адказнасці ініцыятараў распаду СССР[73].

Больш складанае становішча было ў радыёкампаніі, у падпарадкаванні якой знаходзіўся першы і другі канал. Большасць частот займалі расійскія радыёстанцыі. Нацыянальнае беларускае тэлебачанне было прадстаўлена толькі адным каналам. На Беларускім тэлебачанні працягвалі вяшчанне расійскія каналы, а ў некаторых заходніх раёнах транслявалася Польскае тэлебачанне[74].

У 1992 годзе «Беларуская праграма» ЦТ СССР была перайменавана ў «Беларускі тэлевізійны канал» (ТБК). Тэлеканал працаваў з 8:00 да 1:00, часам да 2:00. ТБК быў адзіным беларускім тэлеканалам да 1996 года. Для параўнання на тэрыторыі Беларусі трансляваліся наступныя расійскія тэлеканалы: ОРТ, РТР, НТВ, Культура і ТВЦ[75].

Сістэма Усесаюзнага радыёвяшчання спыніла існаванне пасля распаду Савецкага Саюза. Беларускае радыё працягвала існаваць у сістэме Белдзяржтэлерадыё. Заставаўся высокі ўзровень цэнтралізацыі,

[72] А. Расінскі, *Беларуская мова: 1918-2018. На прыкладзе адукацыі і друку*, 2019, гл. у інтэрнэце: https://belinstitute.com/sites/biss.newmediahost.info/files/attached-files/2019-2-18%20Mova_Rasinski_FINALIS.pdf (доступ: 12.03.2019).

[73] С. Навумчык, *Дзевяноста трэці*, с. 376-378.

[74] А. Г. Слука, *Беларуская журналістыка*, с. 315.

[75] *Беларусь 1*, гл. у інтэрнэце: https://ru.wikipedia.org/wiki/Беларусь_1 (доступ: 12.03.2019).

строгі кантроль за трансляцыйнай сеткай і інфармацыйным патокам. Назіралася істотнае зніжэнне рэгіянальных радыёпраграм — у 1991 годзе існавала толькі 40 радыёпраграм[76].

FM-дыяпазон на тэрыторыі рэспублікі пачаў развівацца з 1993 года. Першым радыё, якое стала вяшчаць у музычна-інфармацыйным фармаце, было Бі-Эй[77].

Надыходзіць час станаўлення і развіцця камерцыйнага радыё-FM-станцый. З’яўляюцца новыя паняцці, такія як «фармат», «дыджэй», «плэй ліст». Узнікае канкурэнцыя, якая прывяла да рэструктурызацыі беларускага радыё. Першы і другі каналы былі пératвораны, частка перадач перакладзена ў прамы эфір з элементамі інтэрактыўных зносін са слухачамі. Але значная частка перадач выходзіла ў запісе, што абумоўлена было іх спецыфікай падрыхтоўкі, у прыватнасці ў інфармацыйна-аналітычным вяшчанні[78].

4 сакавіка 1991 года ў эфір выходзіць праграма «Радыёфакт», якая істотна змяніла радыёвяшчанне. Праграма ўпершыню выходзіла ў прамым эфіры пяць разоў на тыдзень з 7:00 да 8:00 раніцы. Праграму вялі не дыктары, а самі журналісты.

Давалася інфармаванне насельніцтва з мінімальным аналізам падзей пра падзеі ў краіне і за мяжой. Падымаліся праблемы культуры і мовы, працы сесій Нацыянальнага сходу, выступалі вядомыя палітыкі, эканамісты, палітолагі, а таксама артысты. Трансляваліся пасяджэнні парламента, існавалі радыёпераклічкі абласцей, прамая сувязь па тэлефоне[79].

У 1992 годзе ў вячэрнім эфіры пачынае выходзіць інфармацыйна-аналітычная перадача «Пастфактум». У перадачы каментавалі навіны перадачы «Радыёфакт», а таксама падводзілі агульны вынік дня[80].

У дадзеных перадачах не было прамой трансляцыі з сесій Вярхоўнага Савета (за выключэннем рэдкіх выпадкаў), рэпартажы аб сесіі падаваліся слухачом пастфактум. Прадстаўнікоў апазіцыі ніколі не запрашалі ў эфір[81].

[76] В. Н. Шеин, *Современная радиожурналистика. Теория и практика. Учебное пособие для специальности аудиовизуальная журналистика*, Минск 2010, с. 3.

[77] В. Н. Шеин, *Информационные и аналитические жанры радиожурналистики. Курс лекций*, Минск 2003, с. 10.

[78] А. Лебедева, *Радиовещание Беларуси последнего десятилетия XX века. Матэрыялы 13-й Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 90-годдзю Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (8-9 снежня)*, Мінск 2011, с. 91.

[79] В. Н. Шеин, *Современная радиожурналистика*, с. 3-4.

[80] Там жа, с. 5.

[81] С. Навумчык, *Дзевяноста чацьверты*, с. 261.

Асаблівую ўвагу варта надаць радыёстанцыі Беларуская маладзёжная, якая існавала ў межах дзяржаўнага беларускага радыё з 1963 года. Гэта была другая на тэрыторыі СССР спецыялізаваная рэдакцыя са статусам радыёстанцыі пасля маскоўскага радыё Юность[82].

Рэдакцыя Беларускай маладзёжнай адной з першых у эфіры падымала тэмы аб чарнобыльскай катастрофе, аб стварэнні свабоднага прафсаюза, аб незалежнасці краіны. У 1991 годзе рэдакцыя выходзіла ў эфір у 19:00 замест навін з Масквы. Падчас студзеньскага штурму Віленскай тэлестудыі і ўводу савецкіх войскаў у Вільню, у прамы эфір па тэлефоннай сувязі з Вільні выйшаў Сяргей Дубавец. Тады загучалі словы на ўсю Беларусь пра акупацыю Літвы савецкімі войскамі. Кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё ў асобе лаяльнага Генадзя Бураўкіна не прад'явіла санкцый. Неўзабаве кіраўніцтва змянілі на Аляксандра Сталярова і эфір перасунулі на позні вечар[83].

Перад першымі прэзідэнцкімі выбарамі ўлады спыняюць выданне газеты «Навіны БНФ» і віцебскай газеты «Выбар». Выдавецтва «Беларускі дом друку» адмаўляецца друкаваць газету «Свабода». Блакуецца інфармацыя незалежнага агенцтва БелаПАН, а таксама любая інфармацыя, якая датычыцца апазіцыі і дэмакратычных сіл[84].

Кіраўніцтва Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні аддае загад аб расфармаванні рэдакцыйнага калектыву галоўнай рэдакцыі вяшчання Беларускай маладзёжнай, спаслаўшыся на змены ў арганізацыйным статусе Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні. У знак пратэсту большасць журналістаў пішуць заяву аб звальненні па ўласным жаданні[85].

Перадвыбарная кампанія пачалася яшчэ да прыняцця Канстытуцыі і ўвядзення інстытута прэзідэнцтва. Кебіч і яго асяроддзе прызнавалі наяўнасць моцнай апазіцыі і здзейснілі спробы дыскрэдытацыі БНФ. Так, у лістападзе 1993 года БНФ абвінавацілі ў закліку да стварэння баявых дружын, узброеных выступаў, а таксама ў распальванні міжнацыянальнай варожасці. Па горадзе ад імя БНФ раздаваліся ўлёткі з заклікам да пагромаў, а спецназ прыведзены быў у баявую гатоўнасць[86].

[82] *Закрываецца радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная»*, гл. у інтэрнэце: http://90s.by/years/1994/zakryivaetstsa-belaruskaja-maladzezhnaja.html (доступ: 12.03.2019).

[83] *„Беларуская маладзёжная" (1963-1994)*, гл. у інтэрнэце: https://baj.by/be/analytics/belaruskaya-maladzyozhnaya-1963-1994 (доступ: 12.03.2019).

[84] С. Навумчык, *Дзевяноста чацьверты*, с. 272-273.

[85] *„Беларуская маладзёжная" (1963-1994)*, гл. у інтэрнэце: https://baj.by/be/analytics/belaruskaya-maladzyozhnaya-1963-1994 (доступ: 12.03.2019).

[86] С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 97-98.

Дадзеная інфармацыя распаўсюджвалася не толькі ў беларускіх СМІ. Расійская газета «Известия» на перадавіцы друкуе нататку пад загалоўкам «Беларусь: оппозиция призывает к неповиновению властям». Аўтар, Міхаіл Шыманскі, сцвярджае, што праз друк, радыё і тэлебачанне БНФ разам з БЗВ, а таксама кіраўнікамі прафсаюзаў і апазіцыйных палітычных сіл распаўсюджваюць інфармацыю з заклікам на масавыя грамадзянскія беспарадкі і незаконныя дзеянні. Існуюць заклікі да стварэння баявых дружын, узброеных выступленняў, абразу рускага народа. Мэта арганізатараў гэтай кампаніі — захапіць уладу[87].

У гэты ж час прыхільнікі Кебіча рыхтуюць правакацыі супраць Шушкевіча і дэмакратычных дэпутатаў. Лукашэнка быў выбраны ў якасці галоўнай зброі барацьбы. Пры ўдзеле супрацоўніцы газеты «Советская Белоруссия» Людмілы Маслюковай і лідара Камуністычнай партыі Васіля Новікава для Аляксандра Лукашэнкі пісаўся антыкарупцыйны даклад[88].

Даклад слухала і глядзела ўся краіна: па патрабаванні большасці дэпутатаў пасяджэнне сесіі ВС вялося ў прамым радыё- і тэлеэфіры. У «Советской Белоруссии» было апублікавана эксклюзіўнае інтэрв'ю з Лукашэнкам пад загалоўкам «Народ нашей республики перестал удивляться перевоплощению столоначальников в коммерсантов, роскошным виллам рядовых чиновников, поездкам семей управленцев по Парижам и Багамам. Мафиозные кланы и коррумпированные группировки существуют не только в Колумбии и на Сицилии. Сегодня они зарождаются на земле Беларуси». Тыраж дадзенага выдання склаў 476 тысяч асобнікаў[89]. У дакладзе не было нічога сенсацыйнага. Крыніцай дакладу былі матэрыялы пракуратуры, МУС і КДБ, якія былі недапрацаванымі, альбо не мелі дастатковых доказаў, а таму і судовай перспектывы[90]. Сяргей Навумчык сцвярджае, што ў дакладзе мінімальна гаварылася аб карупцыі ў структурах Савета Міністраў, а ў адрас дэмакратычных кандыдатаў і старшыні Вярхоўнага Савета выказваліся непраўдзівыя звесткі.

31 снежня 1993 года Шушкевіч пацвярджае далучэнне Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы СНД, такім чынам Беларусь увайшла ў сістэму расійскага ваенна-прамысловага комплексу[91].

87 «Известия», 9.11.1993, гл. у інтэрнэце: https://yeltsin.ru/uploads/upload/newspaper/1993/izv11_09_93/FLASH/index.html (доступ: 12.03.2019).

88 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 97.

89 В. Федорович, *Александр Лукашенко. На антикоррупционной волне*, гл. у інтэрнэце: https://naviny.by/rubrics/politic/2011/08/30/ic_articles_112_174919 (доступ: 12.03.2019).

90 Там жа.

91 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 100.

Аналізуючы першыя ў Беларусі інфармацыйныя войны Уладзімір Падгол прыходзіць да высновы, што перад прэзідэнцкімі выбарамі ў вялікай групы апалітычнага насельніцтва была падарвана ірацыянальная вера ў каштоўнасці вялікіх сацыяльных груп і партый. КПБ праз падкантрольныя СМІ сфармавалі ў грамадстве вобраз БНФ як сілы, у выніку дзеянняў якой рэзка пагоршылася жыццё, з-за чаго можа пачацца грамадзянская вайна. З іншага боку лічылася, што камуністычная партыя — гэта эліта, якая незаслужана карыстаецца прывілеямі ў грамадстве, карупцыянеры. Грамадства ад прэзідэнцкіх выбараў чакала з'яўлення збавіцеля, абаронцы, які выявіць і разграміць ворага[92].

Менавіта на чалавека — адзіночку, чалавека, які змагаецца з ворагамі адзін і без зброі ставіла каманда Лукашэнкі. Таму, калі ў Лукашэнкі ўзнікла ідэя ўзначаліць арганізацыю «Народное движение Беларуси», яму забаранілі гэта зрабіць[93].

Прадстаўнікі БНФ сцвярджаюць, што не было роўных магчымасцей у кандыдатаў, якія былі ў апазіцыі да Кебіча. Яны лічаць, што выбарчую кампанію 1994 года шмат у чым вырашыла пазіцыя сродкаў масавай камунікацыі да пачатку кампаніі.

З моманту стварэння аргкамітэта БНФ супраць Пазняка выступалі ўсе падкантрольныя СМІ. Яны стварылі з лідара Фронту вобраз «фашыста», «экстрэміста» і «нацыяналіста». З 1992 года СМІ занялі антынезалежную і антыбеларускую пазіцыю. Грамадства пераконвалі ў правільнасці палітычнай інтэграцыі з Расіяй. Пазняк і прадстаўнікі БНФ практычна не мелі тэле- і радыёэфіру[94].

Каманда Лукашэнкі з сапернікаў успрымала толькі Кебіча і Шушкевіча. Яны разумелі, што Зянона Пазняка лёгка можна скампраметаваць сярод рускамоўнага грамадства. Лукашэнка настойваў на двухмоўі, тым самым атрымаўшы галасы тых, хто баяўся, што Беларусь стане нацыянальнай дзяржавай[95].

Варта адзначыць, што з верасня 1993 года да сакавіка 1994 года Лукашэнка меў неабмежаваны доступ да тэле- і радыёэфіру. 27 сакавіка ён адкрыта выступіў супраць Кебіча, пасля чаго дарога ў СМІ яму была закрыта. А падчас выбараў уся прапаганда была накіравана су-

92 *Президентские выборы в Беларуси: от ограниченной демократии к неограниченному авторитаризму*, с. 166-168.

93 С. Инанец, *«Техасский рейнджер» Лукашенко. Секреты политтехнологий — 1994*, гл. у інтэрнэце: https://news.tut.by/society/396670.html (доступ: 12.03.2019).

94 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 106.

95 А. Федута, *Лукашенко: Политическая биография*, Москва 2005, с. 75-76.

праць ідэй БНФ. І гэты факт быў больш вызначальным, чым час з'яўлення ў тэле- і радыёэфіры кандыдатаў у прэзідэнты[96].

Сяргей Чалы[97] адзначае, што ў прэсе неахвотна пісалі пра Лукашэнку, калі гэта не тычылася скандалаў, такіх як прастрэлены «Мерседэс», парваная кішэня і заявы аб скандальных выкрыццях кіраўніцтва краіны. Яшчэ прыклады загалоўкаў перадвыбарчай кампаніі ў 1994 годзе: «Александр Лукашенко, направляясь к гродненским избирателям, угодил в автомобильную аварию. Кандидат в президенты отделался легким испугом», «Александр Лукашенко избит милицией в Доме правительства», «По сообщению Александра Лукашенко, в кругах, близких к правительству, делаются попытки вывезти драгоценности и капиталы за пределы Беларуси».

Аналітыкі меркавалі, што ў другі тур выбараў пройдуць Пазняк і Шушкевіч. У газеце «Свабода» пра Лукашэнку не пісалі да моманту, калі ён пачаў перамагаць. Галоўным ворагам і дыктатарам у газеце быў прадстаўлены Кебіч. Сяргей Чалы адзначае: «(...) І Лукашэнка ўвогуле не ўспрымаўся — гэта быў цёмны конік, казус, канфуз! (...) Стаўленне было ад грэблівага да насмешлівага — да самага абрання журналісты і рэдакцыі ставіліся да яго так. Хутчэй за ўсё, тады стаўленне Лукашэнкі да прэсы і сфармавалася. Ён вельмі непасрэдны быў і ўсякія артыкулы, асабліва ў «Знамени юности», чытаў і пастаянна нашым штабістам казаў: «Ну што гэта такое? Ну навошта гэта яны робяць? Гэта ж няпраўда»[98].

З іншага боку асноўны праціўнік Лукашэнкі на першых прэзідэнцкіх выбарах Вячаслаў Кебіч прааналізаваў уласныя памылкі, дапушчаныя падчас перадвыбарнай кампаніі. У сваёй кнізе «Искушение властью», выдадзенай у 2008 годзе сцвярджае, што не выкарыстаў ні адміністрацыйны рэсурс, ні СМІ падчас перадвыбарнай кампаніі:

«Ці мог я не прайграць? Вядома, мог. Калі б спаўна задзейнічаў, прычым на зусім законных падставах, адміністрацыйны рэсурс, як гэта робіцца цяпер у нас, у Расіі, іншых краінах. Не зрабіў гэтага па дурасці. Я паспадзяваўся на свой штаб, штаб паспадзяваўся на мясцовую ўладу, мясцовая ўлада паспадзявалася на авось... калі б запатрабаваў ад дзяржаўных СМІ не забываць аб сваім дзяржаўным статусе і паменш ліць бруду на ўладу»[99].

96 С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 106.

97 Вядомы аналітык, аўтар праграмы «Эканоміка на пальцах», у 1994 годзе працаваў у перадвыбарным штабе Аляксандра Лукашэнкі.

98 С. Инанец, *«Техасский рейнджер» Лукашенко. Секреты политтехнологий — 1994*, гл. у інтэрнэце: https://news.tut.by/society/396670.html (доступ: 12.03.2019).

99 А. Шрайбман, *Двадцать лет и один...*, гл. у інтэрнэце: https://naviny.by/rubrics/politic/2014/06/23/ic_articles_112_185873 (доступ: 12.03.2019).

Загалоўкі ў газетах сведчаць пра адваротнае. Да прыкладу «Савецкая Беларусь» за 26 дзён да выбараў: «Прыгожая палова краіны — за Кебіча! Яго праграма найболей спадабалася ўдзельніцам пленума Саюзу жанчын», «Прызначана дата правядзення Кангрэса народа Беларусі», «Кебіч адказаў на пытанні расійскіх журналістаў».

Кіраўнік міжнароднай місіі назіральнікаў на выбарах 1994 года ад краін Еўрасаюза швед Олаф Хансан сцвярджаў, што СМІ адкрыта падтрымліваюць Кебіча і гэты факт паказвае на злоўжыванне ўлады[100].

У сваю чаргу Зянон Пазняк адзначае, што па падліках назіральнікаў БНФ, якія кантралявалі практычна ўсе выбарчыя пляцоўкі, у другі тур выбараў павінны былі прайсці Зянон Пазняк і Аляксандр Лукашэнка. Але з боку ўлады быў задзейнічаны адміністрацыйны рэсурс, уплывы і фальсіфікацыі[101].

Андрэй Вардамацкі, аналізуючы маніторынгі грамадскай думкі ў перыядзе з 7 красавіка па 5 ліпеня 1994 года, прыйшоў да высновы, што рост рэйтынгу А. Лукашэнкі ўвесь час павялічваўся. Асноўнай прычынай дадзенага росту лічыцца ўзмацняльная крытыка ў адрас Лукашэнкі з боку падкантрольных ураду СМІ[102].

Выбары 1994 года называюць «электаральнай рэвалюцыяй». На думку палітолагаў, грамадзяне краіны выявілі недавер старой наменклатуры і аддалі голас праграме па «навядзенні парадку». Насельніцтва выказалася за вяртанне ў адносна шчаслівыя і спакойныя часы «развітага сацыялізму»[103].

Сродкі масавай камунікацыі крытычна паставіліся да перамогі Лукашэнкі. Напярэдадні выбараў газета «Белорусская нива» публікуе матэрыял «Завтра — День рыбака. И второй тур выборов. Кто окажется удачливее в президентской „рыбалке"?», а пасля выбараў: «Президента мы выбрали, несмотря на жаркую погоду. Теперь дело — за кормами. Косовица не ждет!». У «Знамени юности» выйшаў артыкул з загалоўкам: «Поздравляем вас, гражданин Лукашенко, соврамши!". «Александр Лукашенко получил удостоверение президен-

[100] *Как Лукашенко был оппозиционным кандидатом*, гл. у інтэрнэце: https://www.kp.by/daily/23656/140782/ (доступ: 12.03.2019).

[101] З. Пазьняк, *Выбары-1994. Чаму тады перамог Лукашэнка?*, гл. у інтэрнэце: https://naviny.by/rubrics/opinion/2009/07/10/ic_articles_410_163538 (доступ: 12.03.2019).

[102] Ю. Александренков, *Исследования президентских выборов в Беларуси: обзор основных источников*, «Палітычная сфера», 2006, № 7, с. 22.

[103] *Итоги выборов Президента Республики Беларусь 1994 года*, гл. у інтэрнэце: https://naviny.by/rubrics/elections/1994/06/23/ic_articles_623_169943 (доступ: 12.03.2019).

та. Но выпить за здоровье главы государства сможет не каждый — цены на водку повышены втрое» — гучаў загаловак на перадавіцы газеты «Советская Белоруссия». «Первый президент обещает кое-кому построить баню, а кое-кому — «намылить шею» — гэта піша ўжо «Народная газета». Больш крытычнымі былі незалежныя і апазіцыйныя выданні. Так газета «Свабода» давала прагноз, што Лукашэнка «максімум год-паўтара» пратрымаецца ў прэзідэнцкім крэсле[104].

На першай прэс-канферэнцыі пасля выбараў Лукашэнка выступіў са зваротам да журналістаў, у якім паміж радкоў чыталася: «Ну што, хлопцы, цяпер-то ўжо вы разумееце, што калі раней вы працавалі на Кебіча або на кагосьці, то цяпер сітуацыя іншая» — адзначае Сяргей Чалы[105].

Апазіцыйная Партыя БНФ лічыць, што манапалізацыя сродкаў масавай камунікацыі захавалася да першых прэзідэнцкіх выбараў і ў поўным аб'ёме перайшла ў падпарадкаванне першаму прэзідэнту Рэспублікі Беларусь[106].

Перыяд 1991-1994 гадоў часта называюць перыядам стыхійнай дэмакратыі. Адбытыя змены не паспелі інстытуалізавацца, а дэмакратыю замянілі іншыя рэаліі. Зачыненне сродкаў масавай камунікацыі, якія не адпавядаюць палітыцы дзейнай улады, сведчыць пра спробу вяртання ўлад да таталітарнага рэжыму і поўнага кантролю СМІ.

**Summary**

**Mass Media in the Process of the Formation of the Political Opposition in Belarus (from the end of the 1980s till 1994)**

The paper presents the role and place of mass media in Belarus at the end of the Soviet period: their role, changes in the state and in the media, new directions of actions, the beginnings of the unofficial information space. The systemic changes in the press, radio and television after the declaration of independence are described, as well as the actions and preferences of the state media, the development of non-state media in the first years of independence. The political changes in the society have been analysed and their influence on the media, which in turn caused political changes and shaped the political moods in the country. The focus has been placed on presenting the forces supported by the media as well as those which were attacked and the rationale for such a state of affairs. Political changes have been presented which led to the subordination of the mass media to the Council of Ministers and to Viatscheslav Kiebitsch. The conflict between the state media and the

[104] А. Плещук, С. Инанец, *«Максимум год-полтора в президентском кресле». Что еще писали газеты после победы Лукашенко в 1994 году*, гл. у інтэрнэце: https://news.tut.by/society/407197.html?crnd=83882 (доступ: 12.03.2019).

[105] С. Инанец, *«Техасский рейнджер» Лукашенко. Секреты политтехнологий — 1994*, гл. у інтэрнэце: https://news.tut.by/society/396670.html (доступ: 12.03.2019).

[106] С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня*, с. 91.

parliamentary opposition has been presented. The media were instrumental in the defeat of the opposition during the first presidential election and to the election of Alexander Lukashenko as the president of the Republic of Belarus.
**Keywords:** the Republic of Belarus, information space, state and non-state media.

**Streszczenie**

**Środki masowego przekazu w procesie formowania opozycji politycznej na Białorusi (koniec lat 80. — 1994 rok)**

Artykuł przedstawia miejsce środków masowego przekazu na terytorium Białorusi pod koniec okresu radzieckiego: ich zadania, zmiany w państwie i mediach, nowe kierunki działalności, powstanie nieoficjalnej przestrzeni informacyjnej. Opisane zostały systemowe przekształcenia prasy, radia i telewizji po ogłoszeniu Niepodległości; działalność i preferencje państwowych mediów, powstanie i rozwój niepaństwowych mediów w pierwszych latach Niepodległości. Przeanalizowano zmiany polityczne w społeczeństwie i ich wpływ na działalność mediów oraz działalność mediów, które wpływały na zmiany polityczne i kształtowanie opinii społecznej w kraju. Szczególną uwagę zwrócono na to, kogo media wspierały, przeciwko komu występowały i z jakiego powodu. Ukazano zmiany polityczne, które doprowadziły do podporządkowania środków masowego przekazu Radzie Ministrów i Wiaczesławowi Kiebiczowi. Przeanalizowano walkę między państwowymi mediami i opozycją parlamentarną. Mianowicie wpływ mediów stał się jednym z głównych czynników, które doprowadziły do klęski opozycji w czasie pierwszych wyborów prezydenckich i wyboru Aleksandra Łukaszenki na prezydenta Republiki Białoruś.
**Słowa kluczowe:** Republika Białoruś, przestrzeń informacyjna, media państwowe i niepaństwowe.

**Natalia Krywaszej** — studentka Wydziału Dziennikarstwa i Komunikacji Społecznej Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej w Lublinie. Zainteresowania badawcze: współczesna historii Białorusi, rozwój i działalność państwowych i niepaństwowych środków masowego przekazu.

**Андрей Тенюта**
(Белосток)

# Независимая Беларусь в 1991-1996 годах. Особенности внутренней и внешней политики

**Провозглашение независимости Беларуси**

После распада Советского Союза в 1991 году Республика Беларусь получила возможность самостоятельно проводить внешнюю и внутреннюю политику. В стране принимаются законы, печатаются собственные деньги, создаются вооруженные силы, заключаются международные договоры. Беларусь становиться членом международных организаций. Период 1991-1994 годов характеризовался относительной демократичностью. Несмотря на то, что старая советская номенклатура все еще остается у власти, создаются политические партии и общественные организации. Заседания парламента транслируются по государственным телеканалам, оппозиция хотя и с трудом, но может получить эфирное время. Все меняется после избрания президентом Александра Лукашенко в 1994 году. В Беларуси начинают ущемлять независимые СМИ, уничтожаются демократические институты, создается вертикаль исполнительной власти, проводятся репрессии в отношении оппозиции, уничтожается принцип разделения властей. В международной политике Беларусь все более втягивается в политическую орбиту России, что в итоге может привести к утрате государственного суверенитета.

Отдельного рассмотрения требуют факторы, повлиявшие на победу Лукашенко в 1994 году и изменения во внешней и внутренней политике Беларуси. В отличие от других советских республик в Беларуси практически не было интеллектуальных элит, которые ставили под сомнение существующую советскую политическую систему. Республика была частью большого государства, а как следствие жители республики принимали статус Беларуси как административной единицы СССР.

БССР имела некоторые черты формальной независимости в международных отношениях:

1) Министерство иностранных дел.
2) Беларусь принимала участие в работе Организации Объединенных Наций, но в то же время оно не отыгрывало большой роли в политической жизни страны.

3) Формально министерство находилось в структуре Совета Министров БССР, но реально было в подчинении Министерства иностранных дел СССР[1].

Утрата контроля над обществом коммунистической партией дала возможность появлению нескольких сотен неформальных организаций на территории республики в конце 1980-х годов. Большинство из них не ставили политических целей. Даже те немногочисленные организации, которые были ангажированы в политику, хотели реформировать социализм в рамках советского государства[2]. Некоторые из них предлагали идею возвращения беларуской национальной символики, создание национальных вооруженных сил и внедрения института беларуского гражданства. Это были постулаты, призывающие к игнорированию конституции СССР и фактически призывающие к независимости.

Большинство беларуского общества готово было поддержать любые политические изменения только в том случае, если они вели к улучшению экономического положения. Сторонники независимости не имели большой поддержки в обществе[3].

Неформальные объединения национальной направленности существовали и ранее: «Саюз беларускіх патрыётаў», «Майстроўня», «Талака», «Тутэйшыя» и другие. На основании этих организаций формировалась беларуское национальное сознание элит. Они не имели массовой поддержки среди населения, но, тем не менее, подготовили почву для массового движения[4].

Политическое руководство БССР старалось прекратить рост национального самосознания народа, жестоко наказывали тех, кто брал участие в деятельности и создании национальноориентированных оппозиционных организаций. Активистов подвергали репрессиям. В результате национальное движение было разобщено, потому что организации имели локальный характер, а не общенациональный[5].

Только к 1988 году, благодаря политике перестройки и демократизации политической жизни, национально ориентированные общественные организации смогли объединиться.

К началу 1989 года в Беларуси окончательно оформились две политические группы среди интеллигенции: просоветская и национально-ориентированная. Национальное движение быстро начинает фор-

[1] E. Mironowicz, *Polityka zagraniczna Białorusi. 1990-2010*, Białystok 2011, c. 8.
[2] Там же, с. 11.
[3] Там же, с. 11.
[4] С. Навумчык, *Сем гадоў Адраджэньня, альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995)*, Варшава — Прага 2006, с. 8.
[5] Там же, с. 8.

